ЦІ ІСНАВАЛА ЗАВЯШЧАННЕ СТАЛІНА?

ПРАКЛЁН ЯГЕЛОНА

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 5 – 2018

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

# ДУРНАЯ ДОЛЯ КІРАЎНІКОЎ БССР



ІВАН ХРУЦКІ
ДРАМА ЗА САЛОДКІМІ НАЦЮРМОРТАМІ

+ БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР НА 2019 ГОД



16+

Наша Гісторыя
5/2018
www.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдат гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Тацццяна Кур’ян

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



На першай старонцы вокладкі — малюнак Філіпа Какошы.

**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 10.12.2018.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 1148/18.
Наклад 7 000 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## БССР не адпускае

Некалі ў 80-я, калі я вучыўся ў пачатковай школе, у нас у класе ўвосень з’явіўся новы вучань. Быў ён унукам аднаго з мінскіх дачнікаў, а бацькі ягоныя жылі ў далёкім расійскім Магадане. Чамусьці ў той год яны яго ў канцы лета не забралі да сябе, а дзядуля з бабуляй, мабыць, не хацелі ехаць у горад да заканчэння садова-агароднага сезона. Вось і аддалі ўнука на пару месяцаў павучыцца да нас. Школа ж наша была, як і ў большасці тагачасных беларускіх вёсак, з беларускай мовай навучання. І каб неяк перабіцца, вучань-расіянін карыстаўся ў ёй сваімі ўласнымі падручнікамі. Якімі я быў, памятаю, вельмі ўражаны. Бо некаторыя паводле зместу і знешняга афармлення былі такія самыя, як і ў нас, але рускамоўныя. Мне здавалася вельмі недарэчным і нават смешным, што выкладанне ў школе можа рабіцца не па-беларуску.

Гэты маленькі сюжэцік мог бы стаць ілюстрацыяй таго, якой клапатлівай у дачыненні да патрэбаў розных народаў была савецкая дзяржава. Сапраўды ж: існавалі беларускамоўныя школы, выдаваліся беларускія падручнікі, а дзеці, што вучыліся ў тых школах, да пары нават не здагадваліся, што можа быць неяк інačай. Такая вось беларуская ідылія.

Але інакш усё ж было. Зусім інакш. І не недзе ў Богам забытым Магадане, а тут жа, у недалёкіх беларускіх гарадах. У пазнейшыя часы мне неаднаразова даводзілася чуць ад сяброў і знаёмых, дзяцінства якіх прайшло ў горадзе, гісторыі, падобныя да маёй, у якіх толькі мовы мяняліся месцамі. Уражанне нейкай нерэальнасці рабілі на школьнікаў-гараджан недзе выпадкова пабачаныя беларускамоўныя падручнікі. І нечаканым было тое, што такія могуць увогуле існаваць. Бо ў гарадах да канца існавання СССР адукацыя на беларускай мове была ўжо цалкам ліквідаваная. І гарадскія школьнікі, хоць і маглі яшчэ дзе-нідзе гэтую мову чуць, успрымалі яе ўжо толькі як гаворку вяскоўцаў, пісьменнікаў ды настаўнікаў беларускай мовы.

Вось і ўсё жыццё ў Савецкай Беларусі, 100-годдзе з дня абвяшчэння якой будзе адзначацца ў найбліжэйшыя тыдні, было такое ж супярэчлівае. Супярэчлівая і спадчына па ёй. З аднаго боку, менавіта тады створаныя і сталі шырока вядомыя далёка за межамі Беларусі многія брэндавыя ўзоры беларускай культуры (ансамбль «Песняры», творы Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, песні Ігара Лучанка і г.д.), з другога — адбывалася бязлітасная і паслядоўная русіфікацыя. Разрасліся гарады, і амаль з нуля стварылася буйная прамысловасць — але быў пакладзены пачатак паміранню беларускай вёскі, якое пасля так і не ўдалося спыніць.

Многія нашыя дасягненні родам з БССР — але многія праблемы таксама адтуль. Эпоха тая нас пакуль што трымае, не адпускае. Таму і важная гэта тэма для «Нашай гісторыі».

**Аляксандр Пашкевіч**










тэма

**ДУРНАЯ ДОЛЯ КІРАЎНІКОЎ БССР**

біяграфія

4 **Легенда пра святога Пятра Міронавіча.** Успаміны пра кіраўніка БССР сабраў **Андрэй Скурко**




14 **10 з 20 кіраўнікоў БССР былі расстраляныя** або скончылі самагубствам, яшчэ двое загінулі ў аварыях. Піша кандыдат гістарычных навук **Аляксандр Пашкевіч**

22 **Ад Аляксандры Чарвяковай да Паліны Машэравай.** Пра сем'і кіраўнікоў БССР расказвае **Антон Рудак**




belle epoque

26 **Перад канцом эпохі: як Мінск сустракаў 1914 год.** Піша архівіст **Дзмітрый Кішкілевіч**

біяграфія

32 **Іван Хруцкі: драма за салодкімі нацюрмортамі.** Як імперыя ламала аднаго з самых пазнавальных беларускіх мастакоў, расказвае доктар гісторыі **Алесь Белы**

учынкі

36 **Справа Разанава**: як у 1968-м трое мінскіх студэнтаў кінулі выклік сістэме. Расказвае **Анатоль Івашчанка**




ссср

40 **Ці існавала завяшчанне Сталіна?** Піша гісторык **Васіль Герасімчык**

бестселеры

45 **Што было б, каб Пілсудскі аднавіў Рэч Паспалітую?**

каляндар

48 **Беларускі каляндар на 2019 год**

таямніцы

50 **Праклён Ягелона:** ад чаго памерлі маладыя даследчыкі, што адкрылі пахаванне Казіміра IV?

нашы далёкія

54 **Нашчадкі чараўніка:** мы знайшлі вёску каля Нарачы, дзе ў XVII стагоддзі адбыўся адзін з апошніх вядзьмарскіх працэсаў, і нават аднафамільцаў абвінавачанага




















**гаспадарка**

**57 Каштэлі, ранэты, пепінкі…** Усё пра старыя беларускія сарты расказваюць доктар гісторыі **Алесь Белы** і доктар сельскагаспадарчых навук **Зоя Казлоўская**

**60 Дзе купіць шарую ранэту**

**61 Яблыні перажылі дыназаўраў**

наша страва

**64 Яблычны сыр, яблычны інжыр, яблычная наліўка.** Рэцэпты ад шэф-кухара **Алены Мікульчык**

**66 Старажытнейшая за ўсе цывілізацыі:** гісторыя солі

народы беларусі

**68 Ясінскія, Луцкевічы, Александровічы і ўсе нашы татары.** Пішуць доктар палітычных навук **Сяргей Богдан** і кандыдатка гістарычных навук **Анжаліка Пабеданосцава Кая**

**турыстычныя кірункі**

**76 Львоў: магіла віцебскага паўстанца, тур па кавярнях, кішэня Мазоха.** Расказвае беларускамоўны львоўскі экскурсавод **Андрэй Кусій**

мемуары

**84 Паўліна Мядзёлка. Сцежкамі жыцця**

простыя рэчы

**86 Вокны Адама Мальдзіса,** увекавечаныя Караткевічам

дзіцячыя старонкі

**88 Як абараніць свой замак ад ворагаў?**

коміксы

**92 Байструк караля Стэфана**

**94 Францыск. У турме**










ФОТА: ЮРЫЙ ІВАНОЎ

# Легенда пра святога Пятра Міронавіча

**Калі б Пятро Машэраў нарадзіўся на паўтысячы год раней, яго б дакладна кананізавалі. Многія каралі і біскупы еўрапейскага Сярэднявечча, і не меўшы машэраўскай харызмы, рабіліся святымі. А пакольк і першы сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ў нейкім сэнсе спалучаў уладу свецкую і духоўную, нават у XX стагоддзі не абыходзілася без агіяграфічных гісторый. Вось Машэраў, нібы святы Марцін Турскі, што аддаў плашч жабраку, саступае каня змучанаму партызану; вось ён падбірае настаўніцу з правінцыі, што заблукала ў Мінску, і сваёй машынай яе вязе; вось аддае апошнія боты разведчыкам... Вось ён гіне загадкавай пакутніцкай смерцю. Успаміны пра кіраўніка БССР сабраў Андрэй Скурко.**

З гадамі стварыўся вобраз святога Пятра Міронавіча, які трымае ў руках ключы ад беларускага раю. Ці быў Машэраў самым паспяховым і мудрым кіраўніком Савецкай Беларусі — можна спрачацца. Але што быў самым любімым — бясспрэчна. Яго пахаванне ператварылася ў стыхійную маніфестацыю, якіх Мінск датуль не ведаў: пад халодным кастрычніцкім дажджом людзі стаялі сцяной ад Дома ўрада — і аж да вуліц Чырвонай, Коласа, Каліноўскага, па дарозе картэжу, які везлі аб'язнымі дарогамі, бо праспект быў раскапаны метрабудаўцамі.

Пасля так хавалі толькі Васіля Быкава.

Ні «асцярожны беларус» Мазураў, ні ўлюбёнец савецкага прэм'ера Аляксея Касыгіна Кісялёў, ні жалезны дырэктар Слюнькоў не мелі такой народнай любові. Хоць кожны з іх не быў пазбаўлены рысаў, якія беларускі народ так шанаваў у Машэраве.

Напрыклад, Кірыла Мазураў мог без помпы, спакойна прайсціся па мінскіх крамах, пацікавіцца цэнамі, паслухаць, што народ гаворыць. Ціхан Кісялёў, настаўнік беларускай мовы паводле першай спецыяльнасці, мог гадзінамі на памяць цытаваць паэзію Коласа і Купалы. А Мікалай Слюнькоў, на якім ляжыць вечнае кляймо бяздзейнасці пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС, аказваецца, мог бушаваць як тыгр, калі з цэнтра загадалі на новы 1986 год адправіць у маскоўскія магазіны 15 тысяч выпатрашаных малочных парасят. «Ды як я буду людзям у вочы глядзець!.. Рэзаць не будзем, у Маскву адпраўляць не будзем!» — крычаў ён. Гэты выпадак, пераказаны сабкорам «Праўды» ў БССР Аляксандрам Сімуравым, дарэчы, прыпісвалі Машэраву. А ва Украіне тое самае расказвалі пра свайго партыйнага лідара — Уладзіміра Шчарбіцкага.

## Бацьку, Мірона Машэру, замучылі ў 1937-м. Пасля гэтага сыны змянілі прозвішча з Машэра на Машэраў




**Пятро Машэраў** (у цэнтры) — дэлегат БССР на канферэнцыі Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі ў Лондане (1945). З той паездкі ён прывёз тры добрыя касцюмы, пашытыя, праўда, у Маскве.

**«Я — сенненскі, з Прыдзвіння»** — казаў ён. Вёска Шыркі, у якой ён нарадзіўся, ляжыць на паўднёвы захад ад Віцебска, у Багушэўскім сельсавеце Сенненскага раёна. З Расоншчынай Машэрава звязала даваеннае настаўніцтва. Спачатку туды пераехаў старэйшы брат Павел, пасля і самога Пятра размеркавалі ў Расоны пасля Віцебскага педінстытута. Тут ён сустрэў будучую жонку, таксама прысланую па размеркаванні стаматолага Паліну Галанаву. Адсюль сышоў партызаніць у навакольныя лясы — яго штаб месціўся ў вёсцы Роўнае Поле на захад ад Расон.

Адрозніваўся Пятро Міронавіч ад папярэднікаў і найбліжэйшых наступнікаў тым, што быў адзінай сярод іх публічнай фігурай. Гэта было ў яго натуры. Яму падабалася падабацца.

### Ма шэр

Дэталі машэраўскай легенды адпрацоўвалі найлепшыя майстры. Версію пра французскае паходжанне яго продкаў — ад напалеонаўскага салдата, што застаўся ў вёсцы Шыркі пад Віцебскам пасля 1812-га, — падобна, запусціў Уладзімір Караткевіч. Пісьменнік і інструктар ЦК Алесь Петрашкевіч успамінаў, як давялося выцягнуць падпітага Караткевіча ў паездку з Машэравым, выбіраць месца пад будучы музей народнай культуры. І класік нечакана выдаў, што прозвішча Машэраў — ад «ма шэр». Машэраў па-маладому засмяяўся ў адказ.

Каб гэта было праўдай, у французы давялося б запісаць і Машэраў, і Машараў, і нават Масарэнкаў.

Сапраўднае прозвішча Пятра Міронавіча было Машэра. Рускае «-ов» на канцы ён сабе дадаў у другой палове 1930-х, калі рэпрэсавалі бацьку.

Мірон Машэра ўваходзіў у рэвізійную камісію калгаса і не захацеў закрываць вочы на растрату. Яго асудзілі па даносе аднавяскоўцаў (цікава, што адзін з даносчыкаў меў прозвішча ▸

▶ Ляхоўскі — як дзявочае ў маці Машэрава). У снежні 1937-га бацьку пасадзілі, а праз чатыры месяцы ён памёр — ці замучылі — у лагеры ў Горкаўскай вобласці.

Пасля таго яго сыны Павел і Пятро выправілі сабе новыя дакументы, стаўшы Машэравымі. З гэтым ім мог дапамагчы швагер, супрацоўнік віцебскага НКВД Сямён Урагоў, за якім была замужам іх сястра Матруна. Біёграфы пішуць, што Матруна дапамагала сям'і бацькоў прадуктамі ў часе калгаснай нішчымніцы, у сям'і Ураговых Пятро жыў, калі вучыўся ў Віцебскім педінстытуце. А іх сын Мікалай Урагоў, старшыня калгаса ў Шклоўскім раёне, у 1990-м быў даверанай асобай Аляксандра Лукашэнкі на выбарах у Вярхоўны Савет БССР.

Паліна Галанава ўспамінала, як упершыню пабачыла будучага мужа на танцах і ўразілася яго інтэлігентнасці. На той час Машэраў быў адзіным чалавекам у Расонах, які насіў капялюш. Інтэлігентнасць пачыналася з сям'і: бацька Мірон, хоць і просты селянін, а быў пісьменны, і свету пабачыў на царскай вайне. Бываючы ў горадзе, на кірмашах, стараўся купляць кнігі. У іх сялянскай хаце, паводле некаторых успамінаў, было нават піяніна. Наколькі добра ім авалодаў Пятро Міронавіч, невядома. Аднапалчане-партызаны і вучні ўспаміналі, што ён дакладна ўмеў іграць на гармоніку — ладзіў ім вячоркі. Таксама перад вайной саматужна вучыўся аратарскаму майстэрству і... прафесійна танцаваць. Дачка Наталля ўспаміна, што танга і факстроты яна вывучыла, дзякуючы бацьку.



ФОТА: ЮРЫЙ ІВАНОЎ

Машэраў быў добрым выбарам Масквы. Дзякуючы яму беларусы канчаткова сталі ўспрымаць савецкую ўладу як «сваю». Але ў той жа час Машэраў і харызмай, і маральнымі якасцямі настолькі вылучаўся ў лепшы бок на фоне Брэжнева ды іншых крамлёўскіх дзядоў, што людзі сталі задумвацца: а ці не лепш бы мы жылі без Масквы? Так Машэраў, міжволі, стаў адным з фактараў, якія падрыхтавалі краіну да незалежнасці.

**У працоўным кабінеце.**

### Маўчанне Машэрава

Васіль Быкаў успамінаў, як маўчанне Машэрава, які ўстрымаўся, калі бюро ЦК КПБ вырашала лёс Аляксея Карпюка, уратавала гродзенскага пісьменніка-партызана. КГБ спрабаваў павесіць на Карпюка супрацоўніцтва з фашыстамі, раскапаўшы дакументы з часоў яго знаходжання ў нямецкім лагеры. Пасля выявілася, што дакументы падробленыя.

Ці не ўспамінаў Машэраў, слухаючы гэтую гісторыю, свой уласны палон?

Пра гэты неапраўдальны, са сталінскага пункту гледжання, факт біяграфіі мала хто ведаў, апроч партыйнага аддзела кадраў. У нямецкі палон Машэраў трапіў у жніўні 1941-га. Паводле першай версіі, ён пайшоў добраахвотнікам у знішчальны батальён і па дарозе на фронт пад Невелем трапіў у акружэнне. Паводле другой — улетку 1941-га Машэраў быў на зборах аж каля прускай мяжы і трапіў у акружэнне, адступаючы адтуль.

Як бы там ні было, Машэраў прабыў у палоне чатыры дні, а пасля ўцёк з эшалона, якім палонных адпраўлялі ў Германію: вылез праз акенца і скокнуў з насыпу. Ніхто з тых, хто ўцякаў з ім, не выжыў.

Яшчэ адзін малавядомы факт: у размовах Машэраў прыгадваў, што ў пачатку вайны месяц прасядзеў у барысаўскай турме. Адтуль яго маглі «выкупіць» сваякі: тады немцы мясцовых жыхароў адпускалі.

Усе гэтыя розначытанні паказваюць, колькі нечаканых паваротаў могуць хаваць, здавалася б, да канца ясныя афіцыйныя біяграфіі.

### Дубняк

З палону Машэраў уцёк у Расоны, дзе настаўнічаў да вайны і дзе на той час жыла ўся яго сям'я. Выкладаў фізіку ў школе, а пасля разам са старэйшымі класамі і жонкай сышоў у партызаны, узяўшы псеўданім Дубняк. Займелі зброю, наладзілі кантакты з падрыўнікамі, пачалі ваяваць і ўзрываць «жалезку»... Шукаючы іх, немцы схапілі чатырох партызанскіх маці і пасля катаванняў расстралялі. Сярод іх была і маці Машэрава.

Усё жыццё яго мучыла думка, што ён мог забраць маці ў атрад, але не зрабіў гэтага.

Пасля вайны парэшткі партызанскіх матуль раскапалі на ўскрайку расонскага парку і перазахавалі ў брацкай магіле. Дар'ю Пятроўну пазналі па сіняй спадніцы ў гарохі. Ні асобнай магілы, ні помніка Машэраў распарадзіўся не рабіць: проста пазначыць яе імя на абеліску, у агульным пераліку.

Бываючы на магіле, Машэраў не мог адвярнуцца — так і ішоў, развітваючыся, па алеі спінай уперад, тварам да абеліска.

Пасля вайны Машэраў быў у ліку безлічы «ўсходнікаў», адпраўленых саветызаваць Заходнюю Беларусь. У Маладзечанскай вобласці яму давялося займацца не толькі камсамольскімі справамі, але і дабіваць антысавецкіх партызанаў па лясах.

Праўда, і самога яго час ад часу прамацваў на добранадзейнасць кіраўнік МГБ БССР Лаўрэнцій Цанава. Гэты чорны кардынал БССР настойліва хацеў, каб Машэраў напісаў гісторыю партызанскага руху, падкрэсліўшы яго, Цанавы, ролю. І ўсё выпытваў: якія ж супы Машэраў любіць — мясныя ці малочныя? У выкананні Цанавы такое пытанне магло значыць усё што заўгодна.

### Партызанскі міф як нацыянальная ідэя

Гэта ў часы Машэрава Беларусь займела мемарыялы ў Хатыні і Брэсцкай крэпасці, Курган Славы ды імідж «рэспублікі-партызанкі». Партызанскія лясы былі кузняй кадраў для пасляваеннай кіроўнай эліты, як рэдакцыя віленскай «Нашай Нівы» — для «айцоў» БНР і БССР.

Доктар палітычных навук з Каліфорніі Майкл Урбан, даследчык савецкіх эліт, адзначаў, што беларускі «партызанскі міф» у нейкай ступені падмяняў сабой нацыянальную свядомасць, бо адкрыта выяўляць палітычны нацыяналізм у СССР было немагчыма. Гэты ж партызанскі міф як бы даваў партызанскім правадырам права ўзначальваць Беларусь пасля вайны.

Падобна Фідэль Кастра, прыйшоўшы да ўлады на Кубе, зрабіў сваю барацьбу часткай кубінскага нацыянальнага міфа. Невыпадкова ў 1966-м, калі адносіны СССР з Востравам свабоды ўскладніліся пасля звяржэння Хрушчова, на перамовы ў Гавану выправілі кіраўніка беларускіх герыльерас Пятра Машэрава. Яны добра паразумеліся, падчас візіту ў СССР у 1972-м Кастра захацеў наведаць ▶



ФОТА: ЮРЫЙ ІВАНОЎ

**«Мы — беларусы...»**: Фёдар Сурганаў, Пятро Машэраў, Ціхан Кісялёў і Сяргей Прытыцкі.

### Машэраў заплакаў

У канцы 1970-х Машэраў перанёс аперацыю па выдаленні ныркі. Алкаголю не ўжываў — нават на вяселлі дачкі абмежаваўся келіхам віна. У апошнія гады жыцця кінуў і курыць. Хоць, паводле ўспамінаў, раней за некалькі гадзін размовы мог выкурыць дваццаць цыгарэт. Курыў Машэраў, згадваў кінарэжысёр Элем Клімаў, добрыя амерыканскія цыгарэты. Машэраў частаваў імі Клімава падчас прагляду фільма «Узыходжанне» паводле аповесці Васіля Быкава «Сотнікаў». Фільм зняла Ларыса Шапіцька, жонка Клімава. Пры канцы паказу Машэраў заплакаў. Не выключана, што дзякуючы яго пратэкцыі лёс карціны, якая мела праблемы з прыёмкай у Дзяржкіно СССР, вырашыўся станоўча.

▶ Беларусь ды пабачыць «свайго сябра — партызана Мачэрава».

Разам яны наведалі Хатынь і Курган Славы.

### Маскоўскі патрон

Але першым лідарам «партызанаў» у беларускай уладзе быў не Машэраў, а яго папярэднік Кірыла Мазураў. Ён як мог супраціўляўся хрушчоўскай «кукурузізацыі», спрабуючы пераканаць Мікіту, што ў Беларусі ад бульбы толку болей. У пытаннях аграрнай палітыкі Мазураў пагаджаўся з Леанідам Брэжневым. І пасля таго, як у 1964-м брэжнеўская група адхіліла ад улады Хрушчова, Мазурава перавялі ў Маскву на пасаду першага намесніка старшыні Саўміна СССР. На ўстаноўчым пленуме Масква мякка падсоўвала беларусам на вызваленае месца «першага» кандыдатуру Ціхана Кісялёва, але партызаны дружна прагаласавалі за свайго Дубняка.

### Кожны шосты трактар і пяты матацыкл СССР

А таксама кожны 7-ы станок, 12-ы тэлевізар, 10-ы халадзільнік, 5-я частка хімвалокнаў і 10-я — ільняных вырабаў у 1979 годзе выпускалася ў Беларусі.

А Мазураў на доўгія гады стаў патронам Машэрава ў Маскве.

Саюз беларускіх партызанаў з брэжнеўцамі аказаўся нядоўгі. Вышэй Мазураў не пайшоў і беларускую фракцыю ў Крамлі павялічыць таксама не змог. А пад канец брэжнеўскай эпохі яго выправілі на пенсію — у 64 гады. Для тагачаснай герантакратычнай сістэмы гэта проста юнацкі век.

Сабкор «Праўды» ў БССР Аляксандр Сімураў тлумачыў канфлікт утылітарна: Мазураў падчас пасяджэння, прысвечанага ўзнагароджанню «дарагога Леаніда Ільіча» чарговай зоркай, уголас засумняваўся: а ці трэба, ці пойме нас народ? Брэжнеўскі ідэолаг Міхаіл Суслаў «не пconfigurationняў» такой «палітычнай нізкавокасці» і назаўтра прапанаваў Мазураву скласці заяву «па ўласным жаданні».

## «Машэраў гучным, тэатральна пастаўленым голасам вывяргаў паток пышных слоў»

Так Машэраў страціў падтрымку ў Маскве. Мазураў быў на пенсіі, яшчэ адзін беларус, рэдактар «Праўды» Міхаіл Зімянін, больш сімпатызаваў Юрыю Андропаву, што імкнуўся да ўлады. Дома таксама было няпроста: ад 1980-га мінскі КГБ узначаліў андропаўскі чалавек Балуеў, старшынёй Саўміна стаў чалавек Брэжнева Аксёнаў... Можа, гэтым тлумачылася нервознасць Машэрава ў апошні год жыцця? Ён нават, сведчыла сям'я, паліў якіясьці дакументы.

### Дык забілі ці не?

Але ці быў канфлікт з Брэжневым? Пра нацягнутасць адносін нібыта сведчыла тое, што генсек СССР аж чатыры гады не мог даехаць да беларускай сталіцы, каб уручыць Мінску «Зорку» горада-героя. Дый падчас візіту выглядаў не дужа задаволеным. Праўда,



ФОТА: ЮРЫЙ ІВАНОЎ

**З галоўным сепаратыстам сацыялістычнага лагера, кіраўніком Югаславіі Ёсіпам Броз Ціта** на плошчы Перамогі. 1965 год.

і першае, і другое можа тлумачыцца зацяжнымі хваробамі Брэжнева.

Урбан адзначае супрацьстаянне між «партызанамі» і «кліентамі Брэжнева» ва ўладных калідорах Мінска і Масквы. Але ці выходзіла яно за межы звычайнага імкнення цэнтра кантраляваць, а перыферыі — самастойнічаць? І БССР мела тут, бадай, найменшыя сярод усіх савецкіх рэспублік праблемы.

Машэраў не быў заўважаны ў адкрытай апазіцыі генсеку, а ў Мінску падчас урачыстасцяў абрынуў на «дарагога Леаніда Ільіча» такі вадаспад славаслоўя, што прысутным у зале аж няёмка стала. Такі брыдкі падхалімаж Машэрава адзначаў і былы функцыянер ЦК КПСС Анатоль Чарняеў, які пакінуў вялікія і цікавыя ўспаміны. Чарняеў слухаў Пятра Міронавіча на з'ездзе КПСС: «Машэраў гучным, тэатральна пастаўленым голасам выяргаў паток пышных слоў — цалкам беззмястоўны прапагандысцкі "трёп"».

Ёсць і процілеглая версія. Дачка Машэрава Наталля згадвала, што Брэжнеў нефармальна называў кіраўніка БССР «Пеця». А адзін з біёграфаў Машэрава, Валянцін Вялічка, сцвярджае нават, што стары генсек летам 1980-га, падчас сумеснага адпачынку ў Крыме, прапанаваў Пятру Міронавічу пасаду старшыні саюзнага Саўміна, замест Касыгіна, які прасіўся на пенсію. Друкуюцца і мілыя падрабязнасці, як сябравалі іх жонкі: Паліна Машэрава і Вікторыя Брэжнева былі вязальшчыцы і пры сустрэчах абменьваліся новымі моднымі ўзорамі.

Можа, такой ужо ідыліі і не было, але наўрад ці смерць Машэрава была спланаванай. Найхутчэй, аварыя на скрыжаванні пад Смалявічамі 4 кастрычніка 1980-га, калі яго «Чайка» ўрэзалася ў грузавік з бульбай, была трагічнай выпадковасцю. Нават адэпты «змовы супраць Машэрава» прызнавалі: і рашэнне пра выезд «у поле» было спантаннае, і маршрут вызначаўся ўжо ў дарозе. І ганяў шафёр Машэрава — па ягоным загадзе — заўсёды на дзікай хуткасці. І машыны савецкія не мелі тых сістэм бяспекі для пасажыраў, якія стаяць цяпер не толькі на «Мерседэсах», але і на «Опелях».

Гэтак жа хадзілі легенды пра «забойства» звышпапулярнага першага касманаўта Юрыя Гагарына, які разбіўся ў 1968-м падчас выпрабавальнага палёту. А ў канцы 1980-х дадалася яшчэ і версія пра выкраданне іншапланецянамі.



БДАКФФД

## Верталёт

Машэраў пабудаваў у Драздах верталётную пляцоўку, каб 40 хвілін не марнаваць на дарогу з дому. За адзін 1978 год ён зрабіў 104 вылеты. Вылятаў звычайна каля 4-й раніцы — на ўвесь дзень, у розныя раёны Беларусі і за межы.

### Звяржэнне партызанаў

Іншая справа, адзначае Урбан, што смерць Машэрава запусціла ў Беларусі працэс пераходу ўлады ад «партызанаў» да «Мінскай гарадской індустрыйнай групы», ачоленай Мікалаем Слюньковым. Брэжнеўская эпоха ў БССР скончылася раней за Брэжнева. ▶



ФОТА: ЮРЫЙ ІВАНОЎ

Парад 9 Мая: нефармальная абстаноўка. Злева ад Машэрава — яго целаахоўнік, а размаўляе ён з Маршалам Савецкага Саюза Іванам Баграмянам. **Звярніце ўвагу на мокрыя штаны Машэрава.**

## Метро ў Мінску

У СССР права на метро мелі толькі гарады з мільённым насельніцтвам. І, каб дацягнуць да мільёна, у пачатку 1970-х кіраўніцтва стымулявала перасяленне ў Мінск з дапамогай жыллёвых ільготаў. Працы распачаліся ў 1977-м каля сучаснага парку Чалюскінцаў. Машэраў распісаўся на першай сваі метро і сам у касцы і ботах прайшоў тунэлем ад «Маскоўскай» да «Акадэміі навук». «Выбіванне» ж саюзных фондаў дасталося на долю старшыні Саўміна БССР Ціхана Кісялёва, а тэхнічныя пытанні і штодзённая руціна — на долю старшыні Мінскага гаркама Генадзя Барташэвіча.



МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

**Мінск вітае Фідэля Кастра.** Разам з ім у аўто — Пятро Машэраў і Ціхан Кісялёў. 1972.

▶ Новыя кіраўнікі, да якіх адносіўся і першы старшыня Саўміна незалежнай Беларусі Вячаслаў Кебіч, выраслі разам з гігантамі беларускай індустрыі. Гэтыя ўжо не мелі сантыментаў да нацыянальнага, да «хат». Стратэгіяй, якая прывяла іх да поспеху, было якраз далучэнне да рускай культуры.

### Як беларусы сталі гарадскімі

Прыход да ўлады такой групоўкі перадвызначыла эканамічная і культурная палітыка акурат машэраўскіх часоў. У БССР разбудоўвалася прамысловасць, рэзка ўзбуйняліся гарады — а некаторыя, як Светлагорск, Салігорск, Наваполацк, Новалукомль, Белаазёрск, будаваліся з нуля вакол прадпрыемстваў. У Мінску, які пад 1980-ы вырас да мільёна жыхароў, канцэнтравалася 25% прамысловай вытворчасці БССР.

У 1970-м толькі траціна беларусаў жыла ў гарадах, у 1985-м — ужо 62%. Вяскоўцы, што масава хлынулі па лягчэйшае жыццё ў горад, пераймалі рускую культуру як вышэйшую. Ужо ў 1970-я беларусы сярод усіх носьбітаў нацыянальных моваў у СССР найменш карысталіся сваёй як мовай асноўнага ўжытку.



SHUTTERSTOCK_PDESIGN

**Любімы спорт Машэрава** водныя лыжы.

### Пісьменнікаў любіў

«Канечне, я гэта бачу. Канечне, ведаю, але калі я, ты ж зразумей, калі я гэтыя пытанні падыму ў Маскве адкрыта або на вялікіх нейкіх форумах тут, то да мяне будуць прад'яўлены з Масквы, з цэнтра, адпаведныя меры, адпаведныя рашэнні могуць нават быць. А ты, калі ласка, рабі гэта ўсё. Ты рабі і не сумнявайся, што я заўсёды цябе падтрымаю», — казаў Машэраў маладому старшыні Дзяржтэлерадыё БССР Генадзю Бураўкіну. На канец яго кіравання прыпала стварэнне асобнай праграмы беларускага тэлебачання — з вяшчаннем на нацыянальнай мове.

Добрым словам згадвалі Машэрава і пісьменнікі, якім ён збудаваў і Дом літаратара, і Дом творчасці ў Іслачы. У Мінску пры ім з'явіліся помнікі Купалу і Коласу — у адзін год, і кожны каштаваў 700 тысяч рублёў з рэспубліканскага бюджэту. Пры Машэраве выдалі 12-тамовую «Беларускую энцыклапедыю», распачалі выданне кніг «Памяць» па раёнах.

Машэраў цёпла ставіўся да Івана Мележа. Драматург Андрэй Макаёнак мог з ім нават паспрачацца, адстойваючы сваю п'есу «Пагарэльцы», прысвечаную тэме сталінскіх рэпрэсій. Мог Макаёнак і папрасіць у «першага» прытуліць у Мінску апальнага Алеся Адамовіча, які быў літаральна выгнаны з Масквы, не падпісаўшы калектыўны ліст з асуджэннем Сіняўскага і Даніэля.

Былі, аднак, і рэчы, якіх нават замілаваныя Пятром Міронавічам літаратары не маглі вытлумачыць. «Знікала ж мова народа — аснова нацыянальнай культуры. Казалі

### «Песняры»

Ансамбль Уладзіміра Мулявіна быў пад пільнай увагай Машэрава. Поспехі «Песняроў», якія прагрымелі аж у ЗША, грэлі сэрца амбітнага кіраўніка БССР. Ён дапамагаў музыкам грашыма на апаратуру і касцюмы, арганізоўваў замежныя камандзіроўкі, даваў званні. Раз Машэраў запрасіў у госці ў Беларусь паэта Мікалая Дабранравава і кампазітара Аляксандру Пахмутаву — і яны склалі некалькі хітоў, што ў песняроўскім выкананні прагрымелі на ўвесь Саюз: «Белавежская пушча», «Белоруссия». Сам жа Машэраў з усяго рэпертуару «Песняроў» найбольш любіў «Александрыну».



**У БССР вялізныя грошы ўкладаліся ў прадпрыемствы вайскова-прамысловага комплексу і ў сельскагаспадарчыя гіганты.** Пры гэтым узровень жыцця большасці людзей заставаўся нізкі, нараталі негатыўныя з'явы. На фота: жанчыны чакаюць, калі ў краму прывязуць хлеб.

ФОТА: АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

і Машэраву, і ён нібыта згаджаўся. Але русіфікацыя не спынялася... Нават русак Панамарэнка не дазваляў такіх паваротаў, калі газеты заходніх абласцей, раёнаў, «Сельская газета» пераводзіліся на рускую мову. Працэс гэты не быў стыхійны. ...Машэраў ніводнага разу — ні на адным пленуме, нарадзе, з'ездзе, сесіі, урачыстым пасяджэнні — не выступіў па-беларуску. І ў прыватнай размове з намі, пісьменнікамі, не ўжываў яе... як дэманстраваў сваю рускасць. І гэта дзейнічала мацней за любыя пастановы — такі прыклад першай асобы ў рэспубліцы. ...ніхто не выступаў па-беларуску — ніводзін ідэолаг», — з горыччу і асуджэннем успамінаў сумленны камуніст Іван Шамякін.

**Машэраў прапаноўваў не раздаваць людзям дачы, а будаваць у дачных кааператывах шматпавярхоўкі і кожнаму агародніку даваць пакой — каб працавалі на зямлі ўсе разам, а ўвосень пароўну дзялілі ўраджай**

### Магу чалавеку ўсе зубы выбіць

Што Макаёнак наважваўся, але не зрабіў: не сказаў Машэраву праўду ў вочы пра яго выязныя семінары. У трохі відазмененым выглядзе ўлада практыкуе іх дагэтуль, але моду ўвёў Пятро Міронавіч. «Па вёсках насіліся шматкіламетровыя калоны легкавых персанальных аўто, уздымаючы шлейфы пылу і наводзячы жах на ўсё жывое», — згадвае сведка тых падзей.

На месцах, у гаспадарках і на прадпрыемствах, мясцовае кіраўніцтва забяспечвала мінскім гасцям самую бессаромную паказуху. Але Машэраў толькі злаваўся, калі яму спрабавалі на гэта намякнуць.

І ў цэлым ён «мог ускіпець, і нярэдка». Але хутка адыходзіў. «Я ж любому чалавеку магу ўсе зубы выбіць. Але пасля ўстаўлю новыя, больш дзейныя», — казаў ён алегарычна.

### Галінкавы корм і шматпавярховыя дачы

Хапала ў машэраўскім гаспадаранні і валюнтарызму. Старэйшыя людзі памятаюць аўральныя нарыхтоўкі галінкавага корму для скаціны. У краіне пераможнага сацыялізму не было чым карміць каровы да зялёнай травы...

Або, захапіўшыся ідэяй «аграгарадоў», рэфарматары машэраўскага часу запісалі ▶

**Рэктар БДУ Андрэй Кароль — сваяк Машэрава**

Кароль жанаты з унучкай яго роднай сястры, Вольгі Міронаўны.


KP.BY, МІКАЛАЙ ЧАРГІНЕЦ

**Месца трагедыі**: пад Смалявічамі «Чайка» з Пятром Машэравым на поўнай хуткасці ўрэзалася ў грузавік з бульбай.

▶ ў «неперспектыўныя» трыццаць тры тысячы беларускіх вёсак. У выніку і аграгарады не стварылі, і вёсцы перакрылі кісларод — тады, калі там яшчэ былі гаспадары, улюбёныя ў зямлю.

На машэраўскі час прыпала і меліярацыя Палесся, і знішчэнне мінскай Нямігі. А чаго вартая ідэя Машэрава будаваць у дачных кааператывах шматпавярховікі і кожнаму агародніку даваць пакой — каб працавалі на зямлі ўсе разам і ўвосень пароўну дзялілі ўраджай.

«Калі за кавай у пакоі адпачынку Вярхоўнага Савета ён выказаў гэтую ідэю і калегі падтрымлівалі яго, я адважыўся заўважыць, што не пойдуць людзі ў такі “сад”. Узлаваўся», — успамінаў Іван Шамякін, старшыня Вярхоўнага Савета БССР на той час.

Цікавы факт: у «Доўгай дарозе дадому» Быкава Машэраў узгадваецца 3 разы. У той жа час у «Начных успамінах» Шамякіна — 123.

Разам з тым, менавіта пры Машэраве ў Драздах былі збудаваныя дзяржаўным коштам асабнякі для першых асоб БССР — па шаснаццаць пакояў, з басейнамі, саўнамі, кіназаламі.

Янка Брыль прыгадваў пачутае неяк ад Машэрава: «Нам тоже нужен комфорт».

Таксама Машэраў мог зрабіць шырокі жэст і адправіць маскоўскага журналіста, які рабіў з ім гутарку, дамоў асабістым самалётам — вядома ж, дзяржаўным коштам.

### «Дарагі Пятро Міронавіч»

«Калі б быў жывы Машэраў...» — адна з любімых фігур умоўнага ладу ў разважаннях пра лёс Беларусі ў 1990-я. Але ці не стаў бы «дарагі Пятро Міронавіч» ахвярай гарбачоўскіх кадравых ратацый яшчэ ў сярэдзіне 1980-х? Тады ў саюзным кіраўніцтве адбыліся змены, супастаўныя па маштабах са сталінскімі чысткамі 1930-х — толькі без расстрэлаў і пасадак. Ці не выглядаў бы на ўздыме перабудовы састарэлы Пятро Міронавіч аскепкам брэжнеўскай сістэмы? ◆




БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Такім яго запомнілі.**

# «Колькі яшчэ займальных гісторый прыхоўваюць нашы мясціны»

## «Суседскі дзед удзельнічаў у бунце супраць Лепяшынскага, чым вельмі ганарыўся»

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Шчыры дзякуй за вашу старанную працу, якая дазваляе нам, чытачам, даведацца пра сваю гісторыю шмат новага ды цікавага!

Хачу прапанаваць вам да асвятлення ў наступных нумарах часопіса малавядомую тэму. Гэта гісторыя паўстання ў Карме і Рагачове вясной 1919 года. Хутка будзе сто год з названай падзеі, таму добра было б аднавіць гэтую старонку нашай гісторыі.

У сеціве ёсць некалькі невялікіх артыкулаў, асноўнай прычынай паўстання ў іх называюць павышэнне падаткаў. Але ёсць і іншая версія. Пра яе я чуў яшчэ ў маленстве ад суседскага дзеда. Ён удзельнічаў у гэтым паўстанні, чым вельмі ганарыўся.

З яго апавядання выходзіць, што асноўнай мэтай паўстанцаў было забойства Панцеляймона Лепяшынскага. Гэты чалавек, блізкі сябра Леніна, прафесійны рэвалюцыянер, займаў добрую пасаду ў Крамлі. Родам ён з вёскі Літвінавічы, што пад Кармой.

Вясной 1919 года ён быў на адпачынку на радзіме. Падчас сваіх вакацый ён арганізаваў школу-камуну, ад якой дзеці плакалі. Дзед казаў, што па загадзе Лепяшынскага павысілі падаткі, а сам ён зняважліва ставіўся да сялян. Тыя ў сваю чаргу думалі, што яго забойствам змогуць звярнуць увагу Крамля да цяжкай сітуацыі ў сельскай гаспадарцы ў Беларусі.

Паўстанцы перабілі ўсіх мясцовых камуністаў. Трымалі Карму ў сваіх руках два тыдні. Сам Лепяшынскі паспеў збегчы.

Калі арыштаваных паўстанцаў павезлі ў Рагачоў на пакаранне, салдаты мясцовага гарнізона адмовіліся выконваць загад расстрэльваць сялян.

Галоўная вуліца ў Карме да гэтага часу носіць імя Ільюшчанкі ў гонар забітага тады сакратара райкама партыі.

У 70-я гады хадзілі чуткі пра перайменаванне Кармы ў Лепяшынск. Але, дзякуй Богу, такога не адбылося.

Прыкладна ў той жа час быў выпушчаны фільм пра Лепяшынскага, галоўную ролю, здаецца, выконваў Ціханаў. У фільме быў невялічкі эпізод пра Кармянскае паўстанне.

У Літвінавічах калісьці быў музей Лепяшынскага.

Гісторыя цікавая і павучальная, таму, лічу, было б добра да яе стагоддзя распавесці краіне пра сваіх сапраўдных герояў.

З павагай,
**Сяргей Гарбачоў, ураджэнец Кармы (Гомельская вобласць)**



Вандрую з #НашаГісторыя. За пералёты-перавалы прачытаўся ад коркі да коркі. Новае слова вывучыла — «людвісарня». Ёсць думкі, што яно значыць?
**Надзея Партыка**

**Ад рэдакцыі.** Людвісарнямі ў нас называлі майстэрні, у якіх адлівалі гарматы.



Ёгі рэкамендуе: і змест цікавы, і на смак няблага.
**Nata Boika**

### Кранальная Курс і смачная кава

Вельмі кранальны і моцны для мяне артыкул Святланы Курс у апошнім нумары часопіса «Наша гісторыя». Дзякуй!
**Міхаіл Сергеенка**

* * *

У апошнім нумары мяне вельмі прывабіў артыкул пра каву і асабліва зацікавіла магчымасць прыгатаваць яе па-паўстанцку. Калі атрымаецца нешта смачнае, абавязкова запрашу знаёмых аматараў кавы на кубачак.
**Андрэй Паўлючык**

* * *

Надта ж добры быў у першым нумары артыкул пра генезіс беларускай нацыі. Я ўсё чакаў працягу тэмы, а яго ўсё няма...
**Аляксандр Рагойша**

* * *

Некалькі тыдняў дома, і ўжо жудасная ломка па дарозе і новых месцах. Добра, што можна адправіцца хаця б у родныя Мір, Нясвіж і зноў адкрываць нешта новае ў гэтых мястэчках. Сёння вось даведалася дзівосную гісторыю пра Морыса Баскіна з Нясвіжа. Цікава, колькі яшчэ займальных гісторый прыхоўваюць нашы родныя мясціны. А мы ўсё імкнёмся з’ехаць падалей і пабачыць, пачуць нешта цікавейшае...
**Lena Kren**

**Падпісвайцеся самі і падпішыце родную школу!**



ФОТА: ЮРЫЙ ІВАНОЎ

# 10 з 20 кіраўнікоў БССР былі расстраляныя або забілі сябе, яшчэ двое загінулі ў аварыях

**За 70 з лішкам гадоў існавання БССР у рэспубліцы памянялася два дзясяткі партыйных кіраўнікоў. Кім былі ўсе гэтыя людзі, як час вызначаў іх лёс і як яны самі ўплывалі на час, піша кандыдат гістарычных навук Аляксандр Пашкевіч.**

Савецкая дзяржава, нягледзячы на назву, на самай справе такой не была. Нягледзячы на папулярны лозунг «Уся ўлада саветам!» і фармальныя запісы ў канстытуцыях, выбарныя саветы рэй у ёй ніколі не вялі. На практыцы асноўная ўлада як у цэнтры, так і на месцах належала не савецкім органам, а партыйным. Таму і рэальнымі кіраўнікамі СССР былі генеральныя сакратары ЦК КПСС, а рэальнымі кіраўнікамі саюзных рэспублік — першыя сакратары мясцовых партыйных арганізацый. У беларускім выпадку — першы сакратар ЦК КПБ.

Ад часоў першага абвяшчэння БССР 1 студзеня 1919 года і да жніўня 1991 года, калі камуністычная партыя ў СССР была пастаўлена па-за законам (як аказалася, толькі часова), на пасадзе кіраўніка беларускай

Генеральны сакратар ЦК КПСС **Леанід Брэжнеў прыехаў у Мінск** уручаць Зорку Героя Сацыялістычнай Працы першаму сакратару ЦК КПБ Пятру Машэраву (на фота справа). Чэрвень 1978 года. Як успамінае аўтар фота Юрый Іваноў, Брэжнеў ужо не мог самастойна спусціцца з вагона, і яго знялі пад рукі чатыры ахоўнікі.

кампартыі пабываў 21 чалавек (без уліку Вінцаса Міцкявічуса-Капсукаса, які ў 1919 годзе кіраваў аб'яднанай кампартыяй Беларуска-Літоўскай савецкай рэспублікі). Выпадак амаль кожнага з іх варты, бадай, асобнага артыкула.

## За ўсе даваенныя гады Беларуссю толькі пяць месяцаў кіраваў беларус

Але ўсе кіраўнікі КПБ натуральна і выразна падзяляюцца на дзве групы: тых, хто кіраваў да вайны, і тых, хто быў пасля яе. Сімвалічна злучае гэтыя групы асоба Панцеляймона Панамарэнкі, які пачаў кіраваць перад вайной, а скончыў ужо пасля. Часы, у якія давялося працаваць адным і другім, значна адрозніваліся, і ў асабістых ды прафесійных лёсах кіраўнікоў БССР адбілася гісторыя ўсёй краіны.

### Сакратары-смяротнікі

Хоць даваенны перыяд займае ўсяго дваццаць два гады, а пасляваенны — сорак сем, перадваенных кіраўнікоў Кампартыі было больш — 12 супраць 8. Гэта без уліку Панцеляймона Панамарэнкі. Такая колькасная розніца — цалкам вытлумачальная. Надта імклівы перад вайной быў тэмп жыцця, надта хутка ўсё кардынальна мянялася, у тым ліку і лінія партыі. Адпаведна з усё новымі задачамі і выклікамі бесперапынна тасаваліся і кадры. Так было не толькі ў БССР, але і па ўсім Саюзе.

Перадваенныя кіраўнікі беларускай кампартыі, пра якіх ідзе гаворка, — гэта Аляксандр Мяснікоў (Мяснікян) (1919), Яфім Генкін (1920–1921), Вільгельм Кнорын (1921–1922 і 1927–1928), Вацлаў Багуцкі (1922–1924), Аляксандр Асаткін (май – снежань 1924), Аляксандр Крыніцкі (1924–1927), Ян Гамарнік (1928–1930), Канстанцін Гей (1930–1932), Мікалай Гікала (1932–1937), Васіль Шаранговіч (сакавік – ліпень 1937), Якаў Якаўлеў (Эпштэйн) (27 ліпеня – 8 жніўня 1937, выконваў абавязкі), Аляксей Волкаў (1937–1938, выконваў абавязкі).

Варта адразу адзначыць: за ўсе даваенныя гады КПБ толькі пяць месяцаў кіраваў этнічны беларус, ураджэнец Мядзельшчыны Васіль Шаранговіч — і тое было ў чорным 1937-м годзе. Што да паходжання астатніх, то гэта сапраўднае вавілонскае змяшэнне народаў: рускія (Аляксандр Асаткін, Аляксандр Крыніцкі, Аляксей Волкаў), яўрэі (Яфім Генкін, Ян Гамарнік і Якаў Якаўлеў), украінцы (Мікалай Гікала і Панцеляймон Панамарэнка), армянін (Аляксандр Мяснікоў), латыш (Вільгельм Кнорын), паляк (Вацлаў Багуцкі), немец (Канстанцін Гей). Збольшага — зусім залётныя людзі, з Беларуссю паходжаннем не звязаныя. На тэрыторыі Беларусі нарадзіліся толькі Генкін (у мястэчку Ляды на Аршаншчыне, цяперашні Дубровенскі раён) і Якаўлеў (у Гродне) — абодва ў кіраўніцтве КПБ людзі выпадковыя і прабежныя.

**Некаторыя «варагі»**, якія ў розныя гады кіравалі КПБ, здолелі праявіць аналагічныя здольнасці і на пасадах кіраўнікоў кампартый іншых саюзных рэспублік. Так, Аляксандр Мяснікоў у 1922–1924 гадах і Аляксандр Крыніцкі ў 1929–1930 кіравалі партарганізацыяй Закаўказскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі, Мікалай Гікала ў 1929–1930 гадах быў 1-м сакратаром ЦК Кампартыі Узбекістана, а пасля Азербайджана. Урэшце, Панцеляймон Панамарэнка ў 1954–1955 гадах быў першым сакратаром Кампартыі Казахстана. У той жа час беларусы таксама маглі быць такімі самымі «варагамі» далёка ад радзімы. Так, у 1927–1929 гадах 1-м сакратаром Кампартыі Узбекістана быў ураджэнец Віцебскай губерні Купрыян Кіркіж.

Таму тое, што Беларусь у тыя часы кіравалася чужынцамі, — сцверджанне, не зусім пазбаўленае рацыі. Праўда, гэта тычыцца толькі партыйнай сферы, у іншых галінах усё было не так адназначна. У 1920-я, нэпаўскія, гады ўплыў на сітуацыю ў рэспубліцы мелі і старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта, і старшыня ўрада (Савета народных камісараў) БССР. А гэтыя пасады займалі якраз беларусы, прытым беларусы свядомыя ▶



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

Армянін **Аляксандр Мяснікоў** (**Мяснікян**) стаў у канцы 1918-га першым фармальным кіраўніком КПБ(б), і невыпадкова: бальшавікамі Беларусі ён фактычна кіраваў з 1917 года. Польскі сацыяліст Вацлаў Сольскі, які ведаў Мяснікова ў той час, згадваў пра яго так: «Мяснікоў быў чалавекам надзвычай здольным, разумным, хапаў усё з лёту. Акрамя таго, ён аказаўся таксама цудоўным аратарам, які гаварыў па-руску без усялякага армянскага акцэнту, што вельмі рэдка сустракаецца сярод армян. **Мяснікоў быў прыгожы і трохі падобны да Напалеона.** Ён ведаў гэта і вельмі ганарыўся».

і патрыятычныя — Аляксандр Чарвякоў, Язэп Адамовіч, Мікалай Галадзед. Яны пры дапамозе шматлікіх аднадумцаў на ніжэйшых пасадах акурат і рухалі тую славутую беларусізацыю 1920-х, якую не маглі ігнараваць залётныя партфункцыянеры. Прынамсі, выхадцу з расійскай Цвяры Аляксандру Крыніцкаму за тыя тры гады, што ён кіраваў беларускай кампартыяй, такі давялося вывучыць беларускую мову і рабіць на ёй даклады. Іншая справа — што часы такія хутка скончыліся, і ўжо ў 1930-я нацыянал-камуністам даводзілася думаць не пра беларусізацыю, а пра тое, каб хоць неяк уратаваць уласную галаву. Удалося гэта, трэба сказаць, толькі адзінкам.

Вяртаючыся да партыйных лідараў, трэба адзначыць, што яны не толькі не былі звязаныя з Беларуссю паходжаннем — як правіла, іх прысылалі без усялякай папярэдняй падрыхтоўкі. Акрамя Васіля Шаранговіча, бадай, толькі Вацлаў Багуцкі перад прызначэннем на пасаду меў нейкае, хай сабе і спецыфічнае, уяўленне, што тут за краіна і ў чым яе спецыфіка. Бо перад рэвалюцыяй праводзіў падрыўную дзейнасць у тым ліку і ў Беларусі, у 1918–1919 гадах каардынаваў камуністычную працу ў Гродне, а з 1919 года кіраваў мінскімі чэкістамі. Ды яшчэ Мяснікоў з Кнорыным мелі досвед кіравання рознымі часовымі органамі бальшавіцкай улады ў Заходняй вобласці ў 1917–1918 гадах. Астатніх проста раптоўна вырывалі з папярэдняга месца працы, якое магло знаходзіцца недзе ў далёкай расійскай правінцыі, і прызначалі на пасаду першага сакратара ЦК КПБ(б). Яны адпрацоўвалі тут большы ці меншы тэрмін, а пасля іх зноў пераводзілі на іншую працу па-за межамі Беларусі.


KP.BY

**Аляксандр Крыніцкі** паходзіў з расійскай Цвяры. Узначальваў беларускую кампартыю падчас найбольшага ўздыму беларусізацыі, у сувязі з чым ці не адзіны з усіх кіраўнікоў-«варагаў» вывучыў беларускую мову і часам на ёй выступаў. Праўда, паводле словаў былога партыйнага функцыянера-беларуса Сымона Кандыбовіча, «рабіў гэта дзеля эфекту перад Крамлём і з мэтай партыйнай кар’еры» — у тыя часы каранізацыя кадраў была ў трэндзе. Пасля ж адклікання ў Маскву ён «хутка забыўся на працу ў Беларусі» і нават «на адным з пасяджэнняў рэзка спыніў прадстаўніка Беларусі, які выступаў на беларускай мове (бо добра не валодаў расійскай), зрабіў яму заўвагу і прапанаваў гаварыць па-расійску».

Большасць даваенных кіраўнікоў, такім чынам, былі сапраўдныя «перакаці-поле», для якіх кіраванне Беларуссю стала толькі шараговым і не абавязкова найбольш яскравым этапам кар’еры. Часта яны проста мянялі адну тэрытарыяльную адзінку на іншую. Так, Канстанцін Гей, што ўзначальваў ЦК КПБ(б) у 1930–1932 гадах, прыйшоў сюды з пасады сакратара Уральскага абкама партыі, сышоў — на пасаду сакратара Маскоўскага гаркама партыі. Мікалай Гікала перад тым, як прыехаць кіраваць Беларуссю, доўга працаваў на Каўказе, пабыў кіраўніком кампартый Азербайджана і Узбекістана, быў сакратаром Маскоўскіх абкама і гаркама. А з’ехаў з Беларусі ўзначальваць Харкаўскі абкам ва Украіне.

Скончылі сваё жыццё і кар’еру амаль усе гэтыя людзі трагічна. Канец іхні быў прапісаны амаль пад капірку. З 12-ці даваенных першых сакратароў ЦК КПБ у 10-ці дата смерці — 1937–1939-я гады. І смерць ва ўсіх была гвалтоўная: ці расстрэл падчас так званага Вялікага тэрору, ці самагубства перад немінучым арыштам (Ян Гамарнік). Аляксандр Мяснікоў кулі ў патыліцу пазбег, бо да крывавых 30-х проста не дажыў: яшчэ ў 1925 годзе ён загінуў у авіякатастрофе пад Тыфлісам (Тбілісі). Сваёй жа смерцю ўдалося


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

Латыш **Вільгельм Кнорын** быў адзіным «варагам» на пасадзе 1-га сакратара КПБ(б), каму Масква даверыла займацца беларускімі справамі двойчы, прытым першы раз — аж з 1917 года. Вацлаў Сольскі згадваў пра яго: «Латышы-камуністы вылучаліся фанатызмам і нейкай асаблівай палітычнай упартасцю. Я звычайна асцерагаюся абагульненняў, але амаль усе латышы-камуністы, якіх я ведаў, былі ў гэтых адносінах падобныя адзін да аднаго. Кнорын не быў выключэннем. Спрачацца на палітычныя тэмы з ім было цяжка, нават немагчыма, бо ён не адказваў на пярэчанні, а толькі паўтараў адныя і тыя ж фразы, не мяняючы ў іх нават парадку словаў». У 1917 годзе Кнорын заявіў, што «беларусы не з’яўляюцца нацыяй, тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх аддзяляюць ад астатніх рускіх, павінны быць зжытыя». Пазней, аднак, ён стаў у гэтым пытанні менш катэгарычным.

памерці ў 1942 годзе толькі Аляксею Волкаву.

Зрэшты, «насіў воўк — панеслі і ваўка». Перад тым, як самім упасці мёртвымі ў агульную магілу на маскоўскіх расстрэльных палігонах, яны арганізоўвалі перaслед і тэрор на давераных ім на той момант участках працы, сваімі подпісамі адпраўляючы сотні і тысячы бязвінных людзей на той свет. Некаторыя, як Гей, Якаўлеў ці Волкаў, адмыслова і накіроўваліся ў БССР з адзіным заданнем — выяўляць і нішчыць «ворагаў». І адно толькі як ка́ты яны і ўвайшлі ў нашу гісторыю. Пасля ж сістэма, створаная пры актыўным удзеле і энтузіязме гэтых людзей, ахвотна перамалола ў сваіх жорнах і іх саміх. Так яно ў гісторыі бывае, і нярэдка.

### Сталінскія вылучэнцы

Прызначаны 18 чэрвеня 1938 года на пасаду першага сакратара ЦК КПБ(б) кубанскі ўкраінец Панцеляймон Панамарэнка (кіраваў да 1947 года) належаў ужо да новай генерацыі партыйнага кіраўніцтва. Маюцца на ўвазе так званыя «сталінскія вылучэнцы» — людзі, якія імкліва, скачучы адразу праз некалькі прыступак, прабіваліся наверх дзякуючы таму, што ў выніку Вялікага тэрору рэжыму тэрмінова патрабаваліся новыя кадры для замены перабітых старых. Прыклад Панамарэнкі тут проста хрэстаматыйны. Яшчэ ў 1937 годзе ён працаваў выкладчыкам у адным з маскоўскіх інстытутаў, а пасля літаральна за год узляцеў праз прамежкавую пасаду інструктара ЦК ВКП(б) да кіраўніка партарганізацыі цэлай рэспублікі, раней яму зусім невядомай. І затрымаўся тут амаль на дзесяцігоддзе, стаўшы, бадай, самым вядомым кіраўніком рэспублікі сталінскіх часоў.

**Большасць даваенных кіраўнікоў былі сапраўдныя «перакаці-поле», для якіх кіраванне Беларуссю стала толькі шараговым і не абавязкова найбольш яскравым этапам кар'еры**



WIKIMEDIA COMMONS

Ураджэнец Адэсы **Мікалай Гікала** значную частку сваёй партыйнай кар'еры правёў на Паўночным Каўказе, асабліва адзначыўся ў барацьбе за савецкую ўладу. Ён настолькі моцна асацыяваўся з гэтым рэгіёнам, што Сымон Кандыбовіч нават лічыў яго інгушом. На самай справе, аднак, Гікала быў украінцам, а на помніку ў чачэнскай сталіцы Грозным ён (у цэнтры) мае сімвалізаваць непарыўнае адзінства рускага і чачэнскага ды інгушскага народаў (ягоныя «асістэнты» — чачэнец і інгуш). Помнік быў зруйнаваны падчас чачэнскіх войнаў 1990-х, але пасля адноўлены.

На часы ягонага сакратарства прыпала і значнае пашырэнне тэрыторыі рэспублікі, і нямецкая акупацыя. Натуральна, падчас акупацыі Панамарэнка рэспублікай не кіраваў — затое быў галоўным куратарам усяго прасавецкага партызанскага руху, цэнтрам якога стала акурат Беларусь.

Да той жа генерацыі сталінскіх вылучэнцаў другой паловы 1930-х належалі і два наступныя першыя сакратары ЦК КПБ, Мікалай Гусараў (1947–1950) і Мікалай Патолічаў (1950–1956). Яны дакіравалі Беларуссю да самай смерці Сталіна, і нават крыху даўжэй. Як і Панамарэнка, абодва перад прызначэннем не мелі да Беларусі аніякага дачынення ні паводле паходжання, ні паводле папярэдняй працоўнай біяграфіі. Першы быў прызначаны кіраваць Беларуссю з пасады інспектара ЦК ВКП(б), а другі — з пасады 1-га сакратара Растоўскага абкама партыі. І пасля заканчэння сваёй місіі ў Беларусь яны больш ▶




Сталінскі вылучэнец **Панцеляймон Панамарэнка**, нягледзячы на тыя байкі, якія сам жа пра сябе ў больш позня часы распаўсюджваў, быў верным праваднікам палітыкі Сталіна, за што ў канцы жыцця апошняга быў набліжаны «да цела». На здымку ён разам з народным паэтам Якубам Коласам (на фота — справа), якога савецкія ўлады палічылі (як і Янку Купалу) больш карысным пакінуць у жывых і не кранулі падчас Вялікага тэрору 1930-х. Панамарэнка, аднак, меў на Коласа кампраметацыйнае дасье і, несумненна, выкарыстаў бы яго паводле прызначэння, каб атрымаў адпаведны загад зверху.

не вярталіся, працягнуўшы кар'еру ў Маскве.

Панамарэнка, пакінуўшы ў 1948 годзе Беларусь, перамясціўся на пасаду сакратара ЦК ВКП(б), а адначасова са снежня 1952-га па сакавік 1953-га быў намеснікам старшыні Савета Міністраў СССР. Старшынёй Савета Міністраў быў тады не хто іншы, як сам Сталін, які сумяшчаў гэту пасаду з пасадай генеральнага сакратара ЦК партыі.

**Перад тым, як загінуць самім, многія рэпрэсаваныя кіраўнікі Беларусі арганізоўвалі тэрор на давераных ім участках працы, сваімі подпісамі адпраўляючы сотні людзей на той свет**

Таму Панамарэнка апынуўся тут максімальна блізка «да цела», што прарочыла яму нечуваны кар'ерны рост. Ёсць нават версія, што састарэлы дыктатар збіраўся перафарматаваць сістэму сваёй улады, зрабіўшы ў кіраўніцтве новую грунтоўную чыстку, каб абапірацца далей на новых людзей, і Панамарэнку пры планаваным новым раскладзе нібыта была прыгатаваная роля галоўнага фаварыта, а пасля і пераемніка. Цяжка сказаць, колькі ў гэтым праўды, а колькі фантазій — дакументальных пацвярджэнняў гэтай версіі пакуль няма. Але калі Сталін нешта такое і планаваў, то зрабіць нічога не паспеў. Панамарэнкаву перспектыўную кар'еру ягоная смерць проста паламала. У новую канфігурацыю ўлады Панамарэнка зусім не ўпісаўся: спачатку яго перавялі на пасаду міністра культуры, пасля на год адправілі кіраваць кампартыяй Казахстана, а потым былі некалькі гадоў дыпламатычнай службы ў розных не самых важных краінах.

Мікалай Патолічаў, пакінуўшы пасаду 1-га сакратара ЦК КПБ, кіраваць правінцыйнымі абкамамі таксама не вярнуўся. Для яго знайшліся хоць і не самыя ключавыя, але ўсё ж такі высокія пасады ва

**Панцеляймон Панамарэнка ў пазнейшыя часы імкнуўся стварыць сабе станоўчую рэпутацыю задняй датай.** Пры зручнай нагодзе ён распавядаў, што нібыта, прыбыўшы на працу ў Беларусь, даведаўся пра планаваны арышт народных паэтаў БССР Янкі Купалы і Якуба Коласа, пасля чаго, рызыкуючы галавой, паехаў да Сталіна і прасіў яго адмяніць прынятае рашэнне. Сталін нібыта да яго прыслухаўся і загадаў памяняць «ордера на ордена». Доўга гэтая легенда пераказвалася як рэальны факт, і толькі **пасля краху камуністычнага рэжыму і адкрыцця архіваў высветлілася, што на самай справе было наадварот — акурат Панамарэнка абвінавачваў Купалу і Коласа ў «контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай працы» і прасіў санкцыянаваць іх арышт**.
Мікалай Патолічаў у сваіх успамінах таксама часта згадваў Якуба Коласа і цэлымі старонкамі цытаваў дыялогі, якія паміж імі адбываліся, прытым звароты да яго з боку Коласа прыводзіў па-беларуску, як «Микола Сямёнавич». Паводле Патолічава, Колас ва ўсіх крызісных сітуацыях заўсёды станавіўся на ягоны бок і падтрымліваў сваім аўтарытэтам. Колькі ва ўсім гэтым праўды, а колькі перабольшання, сказаць цяжка.

ўрадзе СССР. Два гады ён пабыў намеснікам міністра замежных спраў, а пасля аж 27 гадоў (з 1958-га па 1985-ы) займаў пасаду міністра знешняга гандлю СССР. І каб не Гарбачоў з ягонай перабудовай і амаладжэннем кадраў — то мог бы сядзець на высокай пасадзе, як у тыя часы вялося, і да самай смерці.

Папярэдніку Патолічава Гусараву пашанцавала не так. Пакінуўшы Беларусь, ён спачатку папрацаваў пару гадоў на пасадзе інспектара ЦК партыі (адкуль прыйшоў, туды і вярнуўся), пасля смерці Сталіна пабыў трохі першым сакратаром Тульскай вобласці, а потым амаль трыццаць гадоў, да 1984 года, працаваў на розных другасных пасадах у Савеце Міністраў РСФСР. Магчыма, асабліва падняцца наверх яму не давала ў тым ліку актыўная дысідэнцкая дзейнасць уласнага

сына Уладзіміра, які нават напісаў і распаўсюджваў самвыдатам кнігу «Мой тата забіў Міхоэлса».

## Сакратары-беларусы

Ліпень 1956 года адкрыў новы этап беларускай савецкай гісторыі — першым сакратаром ЦК КПБ быў прызначаны беларус Кірыла Мазураў. З таго часу аж да самага канца Саюза ўзначальвалі рэспубліку толькі прадстаўнікі тытульнай нацыі, хоць і не скажаш, што гэта надта стрымала яе русіфікацыю. За гэты час кампартыяй Беларусі кіравалі шэсць чалавек: Кірыла Мазураў (1956–1965), Пятро Машэраў (1965–1980), Ціхан Кісялёў (1980–1983), Мікалай Слюнькоў (1983–1987), Яфрэм Сакалоў (1987–1990), Анатоль Малафееў (1990–1991).

Усе шасцёра кіраўнікоў-беларусаў паходзілі з усходніх абласцей рэспублікі. Кірыла Мазураў нарадзіўся і выгадаваўся ў Гомельскім раёне, Пятро Машэраў — у Сенненскім, Ціхан Кісялёў — у Добрушскім, Мікалай Слюнькоў — у Рагачоўскім, Яфрэм Сакалоў — у Горацкім, Анатоль Малафееў — у Гомелі. І стапрацэнтнае дамінаванне беларусаў-усходнікаў не было выпадковасцю. Такая была агульнасаюзная пасляваенная практыка, і яе паслядоўна трымаліся аж да канца 1980-х гадоў. Першай асобай у саюзнай рэспубліцы складана было стаць чалавеку, які да Другой сусветнай вайны не быў грамадзянінам СССР. Нават прыбалтыйскімі рэспублікамі да канца 1980-х кіравалі людзі, якія, хоць і належалі да адпаведных тытульных нацыянальнасцяў, ці засталіся ў СССР пасля рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, ці нарадзіліся ў сем'ях перасяленцаў. Савецкай Малдовай таксама да 1989 года кіравалі ці ўвогуле чужынцы-«варагі», ці этнічныя малдаване, якія нарадзіліся і выгадаваліся на поўдні Украіны. Таму няма чаго дзівіцца, што і заходнікам-беларусам ходу на самую вяршыню ўлады не было.

Усе шасцёра лідараў належалі па ўзросце ўжо да той плеяды савецкіх партыйных дзеячаў, якія будавалі сваю высокую кар'еру не з лёту, схапіўшы за хвост нейкую выпадковую «жар-птушку», а паступова ды паслядоўна, пераадольваючы ўсе стадыі прыступка за прыступкай. Гэтыя людзі былі занадта маладыя для таго, каб у 30-я гады патрапіць у лік «сталінскіх вылучэнцаў», і перад самай вайной толькі пачалі падымацца ад самых нізоў. Для Мазурава і Машэрава моцным штуршком для пачатку хуткай партыйнай кар'еры акурат вайна і стала. Абодва прайшлі яе ў партызанах, а пасля перамогі менавіта ўдзельнікі партызанскага руху сталі кузняй кадраў для партыі. ▶



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Пахаванне Якуба Коласа** ў Мінску ў жніўні 1956 года. Сярод іншых труну нясе **(першы злева) Кірыла Мазураў**, які ўзначаліў рэспубліку за месяц да гэтага. За некалькі гадзін да смерці Колас занёс у ЦК КПБ ліст, у якім пратэставаў супраць прыніжанага стану беларускай мовы ў БССР.



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Кірыла Мазураў** — чалавек, пасля прызначэння якога беларускай партарганізацыяй пачалі кіраваць беларусы. Захоўваў поўную лаяльнасць Маскве і асабліва не пярэчыў узятаму пры Мікіту Хрушчове курсу на русіфікацыю, які працягнулі і ягоныя пераемнікі. Мог, аднак, спрачацца з Масквой па гаспадарчых пытаннях, у прыватнасці не ўхваляў валюнтарызму і кідання з крайнасці ў крайнасць, якімі адзначаўся Хрушчоў. У той жа час знайшоў поўнае паразуменне з ягонымі пераемнікамі, у выніку чаго быў павышаны і апошнія гады кар'еры (з 1965 па 1978 год) правёў у Маскве на пасадзе першага намесніка старшыні Савета Міністраў СССР, з'яўляючыся паўнапраўным членам Палітбюро ЦК КПСС.

**Ціхан Кісялёў (на здымку другі злева)** — чалавек, які ўваходзіў у найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі з сярэдзіны 1950-х, займаючы пасады 2-га сакратара ЦК КПБ і старшыні Савета Міністраў БССР. Мог узначаліць рэспубліку яшчэ ў 1965 годзе, пасля пераезду на працу ў Маскву Кірылы Мазурава, але тады прайграў канкурэнцыю Пятру Машэраву. Заняў пасаду 1-га сакратара пасля трагічнай смерці Машэрава, але нічым праявіць сябе ўжо не здолеў, бо цяжка захварэў, анкалагічная хвароба неўзабаве і звяла яго ў магілу. Выдатна ведаў беларускую мову, бо паводле адукацыі быў яе выкладчыкам. Прычым Кісялёў не баяўся гаварыць па-беларуску з нацыянальнай інтэлігенцыяй.


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

▶ Усе здолелі атрымаць незадоўга перад вайной ці адразу пасля яе вышэйшую адукацыю. У Машэрава і Кісялёва яна была педагагічная, у Слюнькова, Сакалова і Малафеева — эканамічная, у Мазурава — Вышэйшая партыйная школа пры ЦК КПСС. Незалежна, аднак, ад адукацыі ўсе яны праславіліся перадусім як «моцныя гаспадарнікі». Менавіта ў гэтай якасці яны былі запатрабаваныя ў тым ліку і ў Маскве. Мазураў, Кісялёў і Слюнькоў мелі ў сваім жыцці перыяды працы на саюзным узроўні. Першыя два працавалі намеснікамі старшыні Савета Міністраў СССР, а Мікалай Слюнькоў — спачатку намеснікам кіраўніка саюзнага Дзяржплана, а пасля — сакратаром ЦК КПСС, які зноў-такі курыраваў менавіта эканоміку. Ды і адносна Машэрава аж да сёння ходзяць чуткі, што яго нібыта збіраліся забраць у Маскву на пасаду старшыні Савета Міністраў СССР замест састарэлага Аляксея Касыгіна, ды трагічная смерць, маўляў, не дала яму выйсці на цэнтральную арбіту. Праўда, нейкіх сур'ёзных пацвярджэнняў гэтаму пакуль няма.

Найбольшай народнай павагай і любоўю з гэтай плеяды кіраўнікоў карыстаўся Пятро Машэраў. Часткова гэта было звязана, канечне, з тым, што акурат на час ягонага кіравання прыпалі найбольш «сытыя» і аптымістычныя бээсэсэраўскія гады. Але вялікае значэнне мела і сама харызматычная асоба першага сакратара — прыгожага, падцягнутага, абаяльнага, камунікабельнага, даступнага і блізкага да народа. Ні ягоны папярэднік, ні тым больш наступнікі пахваліцца ўсім гэтым не маглі. Таму і запомніліся больш як шэрыя чыноўнікі, чым асобы з яркай індывідуальнасцю.

Увогуле ж лёс пасляваенных кіраўнікоў БССР кардынальна розніцца ад лёсу іх перадваенных калег, якія амаль пагалоўна, незалежна ад уласнага маральнага аблічча і прафесійных якасцей, пагінулі ў гады Вялікага тэрору. Паваенныя кіраўнікі Беларусі, нягледзячы на зігзагі ў кар'ерах, амаль усе пражылі доўгае жыццё і паміралі ў 80-я гады натуральнай смерцю (выключэнне — толькі Машэраў, які, як вядома, загінуў у аўтамабільнай катастрофе на піку сваёй кар'еры). Панамарэнку і Патолічаву на час смерці было па 81 году, Гусараву — 79, Мазураву — 75, Кісялёву — 65, Машэраву — 62. І пахаваныя яны на найпрэстыжнейшых маскоўскіх ці мінскіх могілках, а не ў безыменных агульных магілах. Трое ж апошніх жывуць дагэтуль як ганаровыя пенсіянеры, дасягнуўшы вельмі сталага веку (Сакалоў — 92, Слюнькоў — 89, Малафееў — 85 гадоў): медыцына ў незалежнай


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Мікалай Слюнькоў** — тыповы тэхнакрат на пасадзе кіраўніка рэспублікі. Быў нядрэнным па савецкіх мерках гаспадарнікам, эфектыўна кіраваў буйнымі прадпрыемствамі, у тым ліку Мінскім трактарным заводам. І на пасадзе 1-га сакратара ЦК КПБ яго цікавіла перадусім эканоміка. Што тычыцца пытанняў культуры, то, паводле ўспамінаў тагачаснага галоўнага рэдактара газеты «Звязда» Аркадзя Тоўсціка, ён не мог зразумець, «навошта ўсё гэта "расце" на грэшнай зямлі. Бо не ўтварае ж нічога, што магло ездзіць, вазіць, лятаць, капацца. Карацей кажучы, што можна назваць матэрыяльнымі каштоўнасцямі». На Слюнькове як кіраўніку БССР ляжыць цяжкі грэх — менавіта пры ім у 1986 годзе адбылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС, і ён на загад Масквы да апошняга хаваў ад грамадства інфармацыю пра яе.
На гэтым здымку Слюнькоў выглядае не зусім тыпова. Звычайна ён строгі і нават суровы, што адпавядае, кажуць знаёмыя з ім, агульнаму жорсткаму стылю ягонага кіравання.

Беларусі нашмат мацнейшая, чым была ў БССР.

Улада кіраўнікоў рэспублік у савецкі час была, праўда, несамастойнай, губернатарскай. Над імі пастаянна стаяла Масква, пажаданні і тым больш загады якой трэба было выконваць. Але ці імкнуліся і самі тыя кіраўнікі да больш адказнай ролі, ці гатовыя былі, прынамсі маральна, выправіцца на чале свайго народа ў самастойнае палітычнае плаванне? Мяркуючы па тым, што ў пераломныя часы распаду СССР беларускае камуністычнае кіраўніцтва да апошняга захоўвала вернасць Маскве і супраціўлялася незалежніцкім тэндэнцыям у рэспубліцы — хутчэй не. А ці паводзіў бы сябе інакш у тых умовах сапраўды харызматычны і аўтарытэтны сярод насельніцтва Пятро Машэраў, каб яму лёсам быў адпушчаны больш доўгі век, — можна толькі здагадвацца.




**Яфрэм Сакалоў** — яшчэ адзін «гаспадарнік» на чале рэспублікі, толькі, у адрозненне ад Слюнькова, ягонай асноўнай спецыялізацыяй была не прамысловасць, а сельская гаспадарка. Займаючы ў 1977–1987 гадах пасаду 1-га сакратара Брэсцкага абкама, разгарнуў у сваёй вобласці будаўніцтва гіганцкіх свінагадоўчых комплексаў, за што Масква ўзнагародзіла яго зоркай Героя Сацыялістычнай Працы і прызначыла кіраўніком БССР пасля сыходу Слюнькова на павышэнне ў Маскву. Па палітычных поглядах Сакалоў быў закаранелым кансерватарам, а паколькі кіраванне яго прыйшлося на бурапенныя перабудовачныя часы, то менавіта пры ім Беларусь набыла рэпутацыю «камуністычнай Вандэі».

На сённяшні дзень толькі двое з памерлых 18-ці кіраўнікоў ЦК КПБ савецкіх часоў пахаваныя ў Беларусі. Гэта Пятро Машэраў і Ціхан Кісялёў, якія знайшлі вечны спачын на Усходніх могілках у Мінску.

Панцеляймон Панамарэнка, Кірыла Мазураў і Мікалай Паталічаў пахаваныя на найпрэстыжнейшых у Савецкім Саюзе пасля Крамлёўскай сцяны Навадзявочых могілках у Маскве, Мікалай Гусараў — на маскоўскіх Данскіх могілках. Аляксандр Мяснікоў ляжыць на могілках у Тбілісі. Большасць жа былых кіраўнікоў беларускай кампартыі пахаваныя ў агульных магілах на маскоўскіх расстрэльных палігонах, перадусім на тым, які носіць назву «Камунарка». ◆

## Пасля вайны Масква пачала прызначаць кіраўнікамі БССР беларусаў, але выключна з крайняга ўсходу краіны




**Найменей гадоў** у момант прызначэння на пасаду кіраўніка беларускай кампартыі было **Яфіму Генкіну** — каля 24 гадоў. **Найстарэйшым быў Ціхан Кісялёў** — 63 гады. Кісялёву належыць і рэкордны ўзрост падчас выканання абавязкаў першага сакратара — 65 гадоў.

**Найдаўжэй** першым сакратаром ЦК КПБ быў **Пятро Машэраў** — 15 гадоў і 5 месяцаў, найкарацей **Якаў Якаўлеў** — усяго 11 дзён.

**Рэкорд даўгалецця** сярод былых першых сакратароў ЦК КПБ — 92 гады — пакуль належыць **Яфрэму Сакалову**, прытым ён не канчатковы, бо рэкардсмен яшчэ жыве. Гэтак сама жывыя і ягоныя найбліжэйшыя канкурэнты — 89-гадовы **Мікалай Слюнькоў** і 85-гадовы **Анатоль Малафееў**. Наймаладзейшым жа — у 39 гадоў — пакінуў гэты свет **Аляксандр Мяснікоў**.




# СЕМ’І КІРАЎНІКОЎ БССР

## Машэраў пазнаёміўся з жонкай у зубным кабінеце, а сын Гусарава стаў дысідэнтам

**Іх партрэты неслі на дэманстрацыях. А якім было сямейнае жыццё людзей, што ў розны час узначальвалі Савецкую Беларусь? Як складваліся лёсы іх жонак і дзяцей? Піша гісторык Антон Рудак.**

### Чарвяковы: тэлефанаваў Сталін, але жонка не схацела будзіць

Аляксандра Чарвякова называлі першым беларускім прэзідэнтам — ён у розныя гады займаў найвышэйшыя пасады ў рэспубліцы: быў старшынёй Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Савета народных камісараў БССР. Ён быў вельмі, вельмі папулярны ў народзе. У яго верылі, «у Мінск да Чарвякова» на прыём дабіраліся з самых далёкіх вёсак.

Жыў Чарвякоў у Мінску ў знакамітым Другім доме Саветаў, што на рагу вуліц Леніна і Маркса. Ягоная жонка, Ганна Іванаўна, працавала прадстаўніцай газеты «Известия» ў Мінску. Сваіх дзяцей у Чарвякова не было, у сям’і гадавалася дачка ад першага шлюбу Ганны Іванаўны з калегам Чарвякова Уладзіславам Скарынкам — Соф’я. Яна пазней узгадвала, што маці не баялася запярэчыць нават самому Сталіну. Аднойчы, калі той званіў Чарвякову, яна пашкадавала будзіць мужа, які тады драмаў, чым выклікала гнеў правадыра.

У чэрвені 1937-га Аляксандр Чарвякоў застрэліўся: ён разумеў, што арганізаваная супраць яго кампанія цкавання і абвінавачанні ў антысавецкай дзейнасці рыхтуюць глебу для арышту, які азначае прыніжэнні і катаванні. Ганна Чарвякова адразу ж, каб пазбегнуць арышту, перабралася з дачкой у Маскву —


GAZETABY.COM

**Аляксандр Чарвякоў** з сям’ёй.

але ў 1938-м яе ўсё адно арыштавалі, яна атрымала дзесяць год лагераў і адседзела тэрмін цалкам. Дачку Соф’ю выключылі з камсамола і выслалі, прычым двойчы — паўторна ўжо пасля вайны. У Мінск яна вярнулася толькі ў 1965-м, праз год пасля смерці Ганны Іванаўны, якая паехала ў высылку следам за дачкой. Памерла Соф’я Аляксандраўна ў 2000-м і пахаваная разам з айчымам на Вайсковых могілках.

### Жылуновіч прывёз жонку з Пецярбурга

Зміцер Жылуновіч (літаратурны псеўданім Цішка Гартны) — першы старшыня беларускага савецкага ўрада і аўтар маніфеста аб стварэнні БССР. Ягоная жонка, Надзея Сцяпанаўна, была расіянкай, нарадзілася ў 1894 годзе ў Пецярбургу. Там яшчэ да рэвалюцыі Надзя Бялова пазнаёмілася са старэйшым на сем гадоў Змітром, які ў Пецярбургу працаваў на заводзе. Пабраліся шлюбам у лютым 1916-га, а роўна праз год у іх ужо нарадзілася дачка Галіна. Надзеі тады было 24 гады, Змітру — 31.

У міжваенныя гады Жылуновіч узначальваў Дзяржвыдавецтва і Цэнтральны архіў БССР, займаў пасаду намесніка наркама асветы, быў членам прэзідыума Акадэміі навук БССР, а Надзея Сцяпанаўна працавала ў Белдзяржкіно капіроўшчыцай — здымала копіі з дакументаў і схем. Вядома, што пралетарый Жылуновіч быў франтам і вельмі сачыў, каб і жонка апраналася адпаведна. Жылі Жылуновічы ў Мінску ў другой палове 1930-х доме №8 па Маскоўскай вуліцы, які стаіць і цяпер.

У лістападзе 1936-га Змітра Жылуновіча арыштавалі, ён памёр у магілёўскай псіхіятрычнай лякарні яшчэ ўвесну 1937-га (ці то ад гангрэны лёгкіх, ці то наўмысна праткнуўшы сабе грудзі ножкай бальнічнага ложка). 20 жніўня 1937-га НКВД забраў ягоную жонку, а праз пяць дзён — дачку, студэнтку медінстытута. 8 кастрычніка 1938 года абедзвюх асудзілі як «членаў сям’і здрадніка радзімы» за «саўдзел у антысавецкай дзейнасці» да пяці гадоў ссылкі і этапавалі ў Ленінградскую вобласць. Рэабілітавалі жанчын толькі ў 1966 годзе. Праз два гады не стала Надзеі Сцяпанаўны, яна пахаваная на мінскіх Усходніх могілках. Галіна Дзмітрыеўна памерла у 1987-м, паспеўшы напісаць кнігу «Мой бацька. Успаміны пра Цішку Гартнага». Сын Жылуновічаў, Алег, добраахвотна пайшоў на фронт санітарам і загінуў пад Ленінградам падчас нямецкай бамбардзіроўкі яшчэ ў 1942-м. ▶




БДАМЛМ. Ф. 15, ВОП. 1, АДЗ. ЗАХ. 123. ФОТЫ НАДАДЗЕНЫ ВІКТАРАМ ЖЫБУЛЕМ

**Зміцер і Надзея Жылуновічы**, 1916 год.
Злева — **Зміцер Жылуновіч з дачкой Галінай і сынам Алегам.**


RU.OPENLIST.WIKI

**Блюма Авербух-Гамарнік** пасля арышту.

## Жонка Кнорына прайшла праз лагеры, а сын быў угнаны ў Германію

Вільгельм Кнорын, латыш па нацыянальнасці, узначальваў ЦК КПБ двойчы: у 1920–1921 і 1927–1928 гадах.

Жонка ягоная, Ніна Аляксандраўна Жыгалава, нарадзілася ў 1901 годзе на Смаленшчыне. У маладосці настаўнічала, была актрысай. У 1922 годзе, працуючы ў ЦК партыі, пазнаёмілася з Кнорыным, праз два гады яны пабраліся шлюбам, у іх нарадзіліся двое дзяцей — Юрый і Мая. У 1937-м арыштавалі самога Кнорына, а ў наступным годзе — і ягоную жонку, якая атрымала восем год лагераў. Тым часам Юрый Кнорын быў вывезены немцамі з Данбаса (куды яго выслалі з Масквы пасля арышту маці) на работы ў Германію. Рэабілітавалі Ніну Кнорыну ў 1955 годзе, памерла яна ў 1990-м у Маскве.

## Блюма Гамарнік была сціплай першай лэдзі

Ян Гамарнік узначальваў БССР у 1928–1930 гадах. Са сваёй жонкай Блюмай Савельеўнай Авербух ён пазнаёміўся ў Адэсе ў 1918-м, калі яны разам змагаліся ў бальшавіцкім падполлі. Пазней Блюма скончыла Інстытут чырвонай прафесуры і працавала ў выдавецтве. Бальшавікі-ідэалісты, Гамарнікі ўвесь час жылі надта сціпла, чым вылучаліся сярод партыйнай эліты. У 1937-м Ян Гамарнік застрэліўся, каб пазбегнуць арышту, але ягоную жонку гэта не выратавала. Як «удзельніца контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай групы», яна была арыштаваная і ў 1941-м расстраляная.

## Жонка Гікалы адказвала за партыйныя чысткі

Наталлі Яўгенаўне Чыжовай, жонцы Мікалая Гікалы, які кіраваў БССР у 1932–1937 гадах, пашанцавала больш. Як дырэктар Інстытута журналістыкі і загадчыца аддзела культуры і прапаганды мінскага гаркама ЦК, яна сама была ў Мінску старшынёй камісіі па чыстцы ва ўстановах культуры, адукацыі і навукі. Праўда, нават гэта яе не ўратавала — у 1937-м яна таксама была арыштаваная. Аднак ёй пашчасціла выжыць і ў 1955-м дамагчыся рэабілітацыі — і для расстралянага мужа, і для сябе.

## Панамарэнкі: сын спіўся

Панцеляймон Панамарэнка кіраваў БССР у 1938–1947 гадах. Ягоная жонка, Вера Георгіеўна Галавухава, перажыла мужа на дзесяць гадоў і памерла ў 1994-м.


NAVINY.BY

**Мікалай Гікала і Наталля Чыжова** падчас дэманстрацыі ў Мінску.


BELOUSENKO.COM

**Уладзімір Гусараў** стаў дысідэнтам.

Іх сын, Валерый, злоўжываў алкаголем і памёр у 1970-м, на чатырнаццаць гадоў раней за бацьку.

Гісторык Эмануіл Іофэ ў сваёй кнізе, прысвечанай Панамарэнку, прыводзіць меркаванне, што акурат свавольствы кампаніі Валерыя Панамарэнкі з рэдкімі ў тыя часы запальнічкамі маглі спрычыніцца да загадкавага пажару 3 студзеня 1946 года ў мінскім клубе НКГБ на плошчы Свабоды. Тады на элітным навагоднім маскарадзе трагічна загінулі некалькі дзясяткаў маладых людзей.

Акрамя Валерыя, Панамарэнкі мелі прыёмную дачку Зінаіду — яна стала архівісткай.

## Сын Гусарава стаў дысідэнтам

Мікалай Гусараў узначальваў БССР у 1947–1950 гадах. З жонкай, Панай Аляксееўнай Цюняевай, ён на той момант ужо не жыў, хоць і не разводзіўся, каб не псаваць кар’еры. Сын Гусаравых, Уладзімір, жыў з маці, ваяваў на фронце, стаў акцёрам, а ўрэшце зрабіўся дысідэнтам-антысаветчыкам. Дзякуючы заступніцтву высокапастаўленага бацькі, яго не пасадзілі, а паклалі ў псіхіятрычную лякарню. Пазней Уладзімір Гусараў шчыра апісаў сваё жыццё ў кнізе з назвай «Мой тата забіў Міхоэлса», апублікаванай у 1978-м у Франкфурце-на-Майне.

Пана Аляксееўна памерла ў 1962 годзе, Мікалай Іванавіч — у 1985-м, а Уладзімір Мікалаевіч — у 1995-м.

*Цытаты з кнігі Уладзіміра Гусарава*

«Менавіта ў гады кіравання майго бацькі ў Мінску быў забіты Міхоэлс. Падрабязнасці гэтага забойства мне невядомыя. Цалкам магчыма, што яго забіў не тата, а міністр МГБ Цанава, пляменнік Берыя, а можа, і яшчэ хто, але справа не мяняецца ад гэтага. Сам я ў Беларусі ніколі не бываў, мы ўжо не жылі з бацькам, але і я датычны. Да суда я не дажыву, хоць мог бы прадставіць прыстойнае алібі: з 52-га года мяне цягаюць па турмах і дурдомах... Мой бацька нічым не горшы і не лепшы за тых, хто цяпер памахвае ручкай з маўзалея, ці складае “сярэдняе звяно”, ці ўжо разводзіць ружы і піша мемуары, ці сам папаў пад колы пераможнага лакаматыва гісторыі».

«С.Разенфельд напісаў кнігу “Доктар Сяргееў”, дзе апісаў, як мой бацька размаўляе па прамым провадзе са Сталіным. Пры мне бацька быў уганараваны размовай з правадыром толькі адзін раз. Гэта было ўвосень, відавочна, Іосіфу Вісарыёнавічу не спалася. Ён сказаў: “У вашых руках лёс Масквы”. Рэшту ночы бацька не мог супакоіцца — хадзіў да раніцы па кватэры ў кальсонах і паўтараў пачутае».

### Патолічаў вельмі любіў цешчу

Пра сямейнае жыццё Мікалая Патолічава, які быў першым сакратаром ЦК КПБ у 1950–1956 гадах, а пазней, у 1958–1985, займаў пост міністра знешняга гандлю СССР, ходзяць легенды. У сеціве часта можна сустрэць сцверджанні, што Патолічаў ажно 27 гадоў быў у шлюбе... са славутай актрысай Элінай Быстрыцкай. Аднак гэта няпраўда. Відаць, спрычынілася да ўзнікнення такой дзіўнаватай канспіралагічнай версіі тая акалічнасць, што савецкая кіназорка не афішавала свой шлюб. Сапраўдную ж жонку Патолічава звалі Надзеяй Іванаўнай, і з ёй ён меў дзвюх дачок, Ніну і Наталлю.

Кажуць, Патолічаў меў настолькі цёплыя адносіны з цешчай, што калі яна памерла падчас вайны ў Чэлябінску, то ўсе прысутныя пры развітанні былі перакананыя, што нябожчыца — родная маці Мікалая Сямёнавіча.

### Яніна Мазурава збірала на карты

Кірыла Трафімавіч Мазураў узначальваў БССР у 1956–1965 гадах. Ён быў першым пасля 1920-х беларусам на гэтай пасадзе. Са сваёй будучай жонкай, мінчанкай Янінай Станіславаўнай Леановіч, ён пазнаёміўся ў 1940 годзе. Падчас вайны іх шляхі разышліся — Яніна апынулася ў тыле, а Кірыла быў накіраваны арганізоўваць камсамольскае падполле на акупаванай тэрыторыі. Шлюбам яны пабраліся толькі пасля вайны і мелі ў ім трох дзяцей — Наталлю, Алену і Віктара. Яніна Станіславаўна скончыла педагагічны інстытут, пазней там жа і працавала.

Целаахоўнік Мазурава Віктар Кузаўлеў прыгадваў, што менавіта Яніна Мазурава была ініцыятаркай пасядзелак жонак членаў Палітбюро на сваім падмаскоўным лецішчы, дзе яны любілі бавіць час за гульнёй у карты. Памерла жонка Мазурава ў 2007-м годзе, на 18 гадоў перажыўшы мужа.

### Машэравы: разам прайшлі вайну

Будучая жонка Пятра Машэрава Паліна Андрэеўна Галанава нарадзілася ў 1917-м на Шклоўшчыне, у вёсцы Новыя Чамаданы. У 1939-м яна скончыла ў Мінску зубалячэбную школу і па размеркаванні трапіла ў Расоны. Тут яна і пазнаёмілася з будучым мужам. Пра маладую прыгожую лекарку распавяла Машэраву ягоная сястра, і ён з цікаўнасці прыйшоў да яе лячыць зубы — а праз год ажаніўся, ужо ў партызанскім атрадзе.

І Пятро, і Паліна былі з пачаткам вайны мабілізаваныя, прайшлі праз палон, але зноў сустрэліся ў Расонах. Падчас акупацыі зубны кабінет Паліны Андрэеўны быў адной з явачных кватэр падполля, а пасля яна разам з мужам была ў партызанах, узначальвала медыцынскую службу атрада.

Калі Машэраў загінуў у таямнічай аўтакатастрофе пад Смалявічамі 4 кастрычніка 1980 года, Паліна Андрэеўна была ў Карлавых Варах. Яна тады ўпершыню адпачывала без мужа, і яе давялося тэрмінова дастаўляць самалётам у Мінск.

Памерла Паліна Андрэеўна ў 2002 годзе.

У Машэравых было дзве дачкі — Наталля і Алена. Наталля Пятроўна, якая нарадзілася ў 1945-м, скончыла аспірантуру філфака БДУ, выкладала літаратуру, а ў 2000 годзе стала дэпутатам беларускага парламента і нават збіралася ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, але потым адмовілася. Алена Пятроўна, народжаная ў 1949-м, скончыла Мінскі радыётэхнічны інстытут, яна кандыдат тэхнічных навук, жыве ў Маскве. ◆



Сям'я Мазуравых.

BEL-JURIST.COM

**Пад Новы год кожны з нас, нават самы хмуры песіміст, верыць у цуды. А якіх цудаў чакае аматар гісторыі? Канечне, перанесціся ў мінулае. Стаць сведкам тых падзей, пра якія чытаў у кнігах, пабачыць мясціны, якія захаваліся толькі на старых фотакартках. Ну што ж, панове, апранайце свае самыя прыгожыя футры ды падвязвайцеся цёплымі шалікамі. Мы паляцім у мінулае, каб паглядзець, як адзначае свой апошні мірны Новы год старасвецкі горад над Свіслаччу. Запрашае гісторык-архівіст Дзмітрый Кішкілевіч.**

«Як жа, паляцім, — пасміхнецца чытач, — няўжо з Дзедам Марозам на аленевай запрэжцы?» Запрэжка — гэта добра, але вось Дзеда Мароза тады, на пачатку XX стагоддзя, яшчэ не існавала. Хіба толькі Святы Мікалай у хрысціян, але і той не меў такога культу, як створаны за савецкім часам Дзед Мароз. Таму скарыстаемся толькі ягонымі аленямі.

31 снежня 1913 года. Серада. Перад намі горад, як тады любілі казаць, «на сямі пагорках». Праўда, мала хто са 102 тысяч жыхароў можа падлічыць іх дакладную колькасць. Прыгледзьцеся, і вы заўважыце, як вырас Мінск за 105 гадоў: звыклыя для нас раёны, такія як Серабранка, Малінаўка, Сухарава, Каменная Горка, яшчэ застаюцца глухімі вёсачкамі ў далечыні ад гарадскіх агнёў.

У Мінску ж усё больш вуліц асвятляюцца электрычнымі ліхтарамі. Дарэчы, са Швейцарыі якраз чакаецца пастаўка новай дынама-машыны для гарадской электрычнай станцыі. Поўным ходам ідзе падрыхтоўка да будаўніцтва ліній гарадскога трамвая, асфальтуюць маставыя, будуюць новыя дамы. Мінск паступова набывае рысы сучаснага еўрапейскага горада. Давайце паглядзім на яго бліжэй.

### Meccano, Lionell і Teddy

Мы, як панства шляхетнае, павінны зайсці ў гэты святочны горад з парадннага ўвахода. А іх у Мінску ажно два: Брэсцкі вакзал (не захаваўся) і Віленскі (цяпер станцыя Мінск-Пасажырскі). Апошні, як піша газета «Мінскае слова», сёння «ўпрыгожаны яловымі галінамі і святочнай ілюмінацыяй». Каля багажнага аддзялення вакзала штурханіна: тыя, хто не паспеў загадзя набыць падарункі для дзяцей, з нецярпеннем чакаюць грузавы цягнік з Вільні. Адтуль прыбудуць эксклюзіўныя замежныя тавары для аматараў навінак. Юныя мінчукі чакаюць найпапулярнейшых цацак і гульняў: ▶


!Новость!
Небывалый въ Минскѣ спеціальный ЕЛОЧНЫЙ БАЗАРЪ.
Губернаторская ул. рядомъ съ банкирской конторой Брауде.
ЦѢНЫ И ВЫБОРЪ ВНѢ КОНКУРРЕНЦІИ. Для учрежденій и учебныхъ заведеній цѣны оптовыя.
1029

НГАБ

**Рэклама ёлачнага базара** з газеты «Мінская газета-капейка». Снежань 1913 г.



Вуліца Губернатарская (цяпер Леніна) перад скрыжаваннем з вуліцай Юраўскай. **Тут і адбыўся паўлегальны ёлачны базар.**

▶ англійскі канструктар *Meccano*, амерыканскую цацачную чыгунку *Lionell* і плюшавага мядзведзя *Teddy*. Натоўп узбуджанымі воклічамі сустракае доўгачаканы цягнік з пасылкамі. Магчыма, сярод дзяцей, што радасна пляскаюць у далоні, ёсць і будучая актрыса Стэфанія Станюта, чыя сям'я арандуе кватэру непадалёк. А мы ляцім далей.

### «Мінчукі ў шоку ад таго, што на бялізну можа быць такі асартымент»

Цяпер паглядзім, што падрыхтавалі для мінчан гарадскія крамы: іх у Мінску заўсёды было нямала. Ля прылаўкаў, акрамя прыказчыкаў (прадаўцоў па-нашаму), стаяць і самі ўладальнікі, у большасці сваёй — яўрэі. Сваё свята Новага года яны адсвяткавалі яшчэ ў верасні. Зараз жа, не губляючы каштоўныя хвіліны ажыятажу, дапамагаюць хрысціянам выдаткаваць грошы з карысцю для душы і цела.

## У 1913 годзе папулярнасць займелі велізарныя жаночыя капелюшы, з метр дыяметрам

Пад намі доўгая Захар'еўская вуліца, што працягнулася праз увесь горад да самай Камароўкі. На першых паверхах невысокіх каменных дамкоў — упрыгожаныя вітрыны. Як і ў наш час, гандляры заваблівають пакупнікоў выгаднымі прапановамі.

Навагоднія цацкі прадаюцца практычна ва ўсіх мінскіх крамах:

**Захар'еўская вуліца** — цяпер вуліца Савецкая, плошча і праспект Незалежнасці.




Рэклама **кандытарскай Франца Вянгржэцкага.**

ад аптэк да кнігарняў. Гэта рознакаляровыя шарыкі, кветачкі з пап'е-машэ і Віфлеемскія зоркі на вярхушку ёлкі. Вялікі выбар ёлачных цацак сёння прапануе магазін Шэйнгаўза (цяпер тут дом № 14 на праспекце Незалежнасці). Набор шарыкаў і цацак каштуе ад 1 да 2 рублёў, што складае дзённы заробак простага завадскога рабочага. Таксама на прылаўках раскладзеныя маскарадныя маскі, «тыповыя і рознахарактарныя».

Набыць падарунак сабе любімай юныя і дарослыя мінчанкі заходзяць у салон капелюшоў *Les Modes*, што ў доме Уніхоўскага па Захар'еўскай, 33 (будынак захаваўся па адрасе Савецкая, 19). Сёння тут апошні дзень акцыі, калі пры куплі некалькіх зімовых капялюшыкаў — футравае манто за паўцаны.

У 1913 годзе вялікую папулярнасць мелі велізарныя жаночыя капелюшы, з метр дыяметрам. Трэба думаць, не менш пашыранымі былі канфлікты сярод пасажыраў гарадской конкі, якія ўзнікалі пры ўваходзе модніцы ў вагон.

Мужчыны аддаюць перавагу раскошнай краме «Элегант» на першым паверсе гасцініцы «Гарні» (знаходзілася па адрасе Захар'еўская, 64, цяпер на гэтым месцы пачатак сквера імя Дзяржынскага па праспекце Незалежнасці). Тут выстаўлены манекены з мужчынскімі касцюмамі з новага парыжскага каталога. У адным з трох пакояў крамы прадстаўлены шырокі асартымент мужчынскай бялізны ўласнай вытворчасці. «Мінчукі ўсё яшчэ ў лёгкім шоку ад таго, што на бялізну можа быць такі асартымент», — напіша пазней «Мінскі кур'ер».

### Ёлачная дэманстрацыя

Адчуваеце свежы водар ялінкі? На Губернатарскай каля дома Браўдэ (цяпер на гэтым месцы жылы дом па Леніна, 4) створаны «спецыяльны ёлачны базар». «Цэны і выбар — па-за канкурэнцыяй», «для навучальных устаноў аптовыя цэны», — абвяшчае рэклама ў газеце «Мінскае слова». Ёлачны базар размясціўся проста на тратуары, каля яго збіраецца публіка. Усхваляваныя паліцыянты, баючыся палітычных дэманстрацый, спрабуюць рассеяць натоўп. Аднак людзі не разыходзяцца, наадварот — незадаволеныя воклічы і гучныя загады вабяць цікаўны народ. ▶




Рэклама **кандытарскай George**. 1914 г.

▶ Усё прайшло так, як і задумаў прадпрымальны Левітас, уладальнік аптэкарскай крамы праз дарогу. Гэта ён арганізаваў ёлачны базар на цэнтральнай вуліцы, дадаткова выставіўшы ў сваёй вітрыне наборы навагодніх цацак. Штраф у памеры 15 рублёў, які прысудзіць яму Мінскі акруговы суд за неналежную арганізацыю гандлю, анітрохі не засмуціць прадпрымальнага яўрэя. На гэтых ялінках ён паспеў зарабіць у дзясяткі разоў больш.

### Бітва за мінскіх ласуноў

Які Новы год без прысмакаў? З гэтым цалкам згодныя мінскія гімназісты і гімназісткі, што атрымліваюць асалоду ад зімовых канікулаў і шакаладак «Марс». Аднайменная фабрыка знаходзіцца на Нямізскай вуліцы (цяпер тут тэрыторыя гандлёвага цэнтра па адрасе Няміга, 3). Цукеркі і шакалад гэтай фабрыкі былі настолькі папулярныя, што фанцікі ад іх знаходзяцца ў старых дамах і па сёння.




Дом Сагаловіча на вуліцы Юраўскай, дзе з 1905 па 1916 год месцілася **кафэшантан «Акварыум»**. Цяпер тут тэрыторыя Палаца Рэспублікі на Кастрычніцкай плошчы.

Навагоднія прысмакі ручной работы чакаюць мінчан у адной з найстарэйшых гарадскіх кандытарскіх — Франца Вянгржэцкага. Цукеркі, шакалад, печыва ды кексы тут лічацца дробнымі ласункамі. На прылаўку выстаўлены цэлы палац з узбітых вяршкоў! Да свята кандытары Вянгржэцкага вырашылі ісці на рэкорд: яны пякуць паўтараметровы торт, пасыпаны драбнёнымі арэхамі і напоўнены клубнічным джэмам. Самому ж уладальніку цукерні, Францу Вянгржэцкаму, не да святаў. Ужо некалькі гадоў ён прыкаваны да ложка цяжкай хваробай і даручыў кіраванне кандытарскай свайму вучню Белановічу, які спраўляецца на выдатна.

Але звярніце ўвагу на суседнюю шыльду. Кандытарская *George* названая ў гонар свайго гаспадара Георгія Рачкоўскага (яму не пагражае смерць ад сціпласці), і яна — галоўны канкурэнт Вянгржэцкага. Канкуруюць гэтыя дзве цукерні за сэрцы наведвальнікаў электратэатра *Eden*, што знаходзіцца акурат паміж імі. Сёння бітва кандытарскіх дасягнула апагею. У кожнай ідзе распродаж, зроблены пакой з більярдам... Але зніжка на піроЖныя для наведнікаў «Эдэна» ёсць толькі ў Рачкоўскага. На аснове яго кандытарскай *George* узнікне фабрыка, якая існуе і сёння пад назвай «Камунарка». Няцяжка здагадацца, хто перамог у бітве за мінскіх ласуноў.

### «Каўказ» ды «Сіла»

«Гэта ўсё добра, але дзе ж сапраўдная навагодняя весялосць у гэтым горадзе?!» — спытае нецярплівы чытач. Ну што ж, настаў час паказаць, як адпачывае Мінск напярэдадні Новага года. На скрыжаванні Пецярбургскай і Каломенскай вуліц, у круглым драўляным будынку цырка (цяпер тут Міхайлаўскі сквер), сёння апошні дзень гастроляў цырка «Калізей». Свае ўменні пакажуць акрабаты, фокуснікі ды «знакамітыя музычныя клоўны Мішэль і Нік, выканаўцы вядомай карціны «Чацвёра чарцей». Асабліва мінскія гледачы чакаюць



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

Гарадскі галава Мінска ў 1910–1917 гадах **Станіслаў Хржанстоўскі.**

выступ трыа мускулістых асілкаў «Сіла». На імпрэзу прыйшла публіка рознага ўзросту і дастатку. Гэта выдатна ведаюць мінскія кішэнныя зладзеі-«мазурыкі», гатовыя прыступіць да выканання сваёй працы пры першай штурханіне на ўваходзе ў цырк. Цікава, колькі кішэняў яны сёння абчысцяць?

У апошнія гадзіны 1913 года дробныя чыноўнікі і гараджане сярэдняга дастатку скіравалі свае погляды на кафэ і рэстараны. Недалёка ад цырка, на рагу Каломенскай і Захар'еўскай вуліц (цяпер на гэтым месцы будынак па Свярдлова, 1), вабіць водарам усходняй кухні рэстаран «Куток Каўказа». «Усё танна! Правізія свежая», — абвяшчае рэклама ўстановы ў газеце «Паўночна-заходняя капейка». Што яшчэ трэба для шчасця?

### «Негры-танцоўшчыкі» і вясёлы карнавал

Правесці 1913 год, які запомніўся грандыёзнымі гарадскімі будоўлямі (падрыхтаваны запуск першага

трамвая, плануецца пабудова гарадской Ратушы, бетоннага моста і калектара для неспакойнай Нямігі), трэба адпаведна. «Грандыёзная, небывалая, урачыстая сустрэча Новага года ў рэстаране “Фрыц”!»

## На прылаўку выстаўлены цэлы палац з узбітых вяршкоў

У доме Мельцара па Губернатарскай (цяпер тут будынак Нацыянальнага банка) свята будуць сустракаць з размахам. Гасцей чакае «вялікая парадная вячэра» з чатырох страў і келіха шампанскага за 1,50 рубля. А 21.30 пачнецца выступ аркестра Франца Крафта, а пасля 12-й ночы — «вясёлы карнавал з арыгінальнымі капелюшамі, снежкамі і серпанцінам».

Мінскі бамонд збярэцца ў самым раскошным кабарэ горада «Акварыум». Гэта адзін з трох мінскіх рэстаранаў, дзе ёсць сцэна. Апоўначы на ёй выступяць «негры-танцоўшчыкі з Амерыкі», басаногая танцорка Анінская, французскі дуэт «Танга» ды шмат іншых. Пасля — танцы да 4-й гадзіны раніцы. Навагодняя вячэра тут чамусьці называецца «канцэрт-монстр». Геранім Друцкі-Любецкі, буйны землеўладальнік ды дэпутат Дзяржаўнай Думы, — пастаянны наведнік «Акварыума». Пасля святкавання ён паедзе на еўрапейскі курорт у Германію. Падлячыцца.

### Новы 1914 год

Блізіцца поўнач. Мы паспелі праляцець толькі над цэнтральнай часткай горада. Разам са снежнай завеяй у горад урываецца новы год. Праляціць ён міма мігатлівых вокнаў кватэр, за адным з якіх святочны тост для сваёй сям'і вымавіць гарадскі галава Станіслаў Хржанстоўскі, закруціць у танцы гасцей рэстаранаў, ускалыхне брычкі (але не разбудзіць рамізнікаў). Пранясецца па ўсіх вуліцах ды кране хвілінную стрэлку гарадскога гадзінніка на вежы калегіума. Мінск уступіў у 1914 год. Але цуду, у які так верылі мінчане, не адбудзецца.

Праз некалькі дзён, 9 студзеня, у коле сям'і адыдзе на той свет Франц Вянгржэцкі. Праз паўгода пачнецца Першая сусветная вайна, якая стане пачаткам канца Расійскай імперыі. Яшчэ праз год Мінск запоўняць дзясяткі тысяч уцекачоў з Варшавы, Вільні, Брэста, Гродна, іншых гарадоў ды вёсак. Абапал недабудаванай лініі гарадскога трамвая будуць бадзяцца тысячы беспрацоўных і бяздомных. У дзясяткі разоў вырастуць цэны ў крамах, а эпідэміі і злачыннасць стануць звыклай часткай гарадскога жыцця.

Але гэта будзе потым, а зараз горад весяліцца. Дык не будзем яму перашкаджаць. Лепш запомніць Мінск такім — бесклапотным, яскравым і прыгожым. ◆




**№ 3 часопіса «ARCHE» за 2018 год** выдадзены ў новым, паўнакаляровым фармаце. Рэдакцыя дэкларуе, што змена фармату — доўгатэрміновая і незваротная. Цяпер гэта ўжо не толькі часопіс для чытання, але і часопіс для глядзення.

Праўда, пераемнасць Вна ўзроўні тэкстаў застаецца: часопіс працягвае друкаваць навуковыя тэксты, напісаныя збольшага прафесійнымі гісторыкамі. Але цяпер аб'ём нумара будзе стандартным, а тэксты — карацейшымі.

У першым нумары, выдадзеным паводле новых прынцыпаў, друкуюцца матэрыялы пра ідэнтычнасць праваслаўнай і каталіцкай эліты Вялікага Княства Літоўскага, пачаткі беларускага войска і Слуцкі збройны чын 1920 года, сэксуальную рэвалюцыю ў БССР у 1920-я гады, савецкую міфалогію апошняй нямецкай акупацыі, а таксама пра палітыку памяці ў сучаснай Беларусі.

Пытайцеся часопіс у кіёсках «Саюздруку» ў Мінску, а таксама ва ўсіх абласцях, апрача Брэсцкай.Таксама можна яго набыць праз сайт **arche.by**, у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), крамах **«Сымбаль Бай»** (пр. Машэрава, 18) і **«Мой модны кут»** (пр. Незалежнасці, 58, павільён 333), іншых прыватных распаўсюднікаў.

**Бракель, Аляксандр. Пад чырвонай зоркай і свастыкай: Баранавіччына ў 1939–1944 гг. Пераклад з нямецкай мовы Уладзіміра Папковіча.**

У кнізе нямецкага гісторыка на прыкладзе адміністрацыйнай адзінкі, якая ў міжваеннай Польшчы мела назву Навагрудскага ваяводства, у БССР (1939–1941 і 1944–1954 г.) — Баранавіцкай вобласці, а падчас нямецкай акупацыі (1941–1944 г.) — Баранавіцкай акругі Генеральнага камісарыята Беларусі, даследуецца жыццё яе тагачасных жыхароў.

Найпрасцейшы і найтаннейшы спосаб набыцца выдання — праз сайт **arche.by**.





# Іван Хруцкі: драма за салодкімі нацюрмортамі

## Як імперыя ламала аднаго з самых пазнавальных беларускіх мастакоў, раскразвае доктар гісторыі Алесь Белы

«Партрэт невядомай з кветкамі і садавіной» Івана Хруцкага (1810–1884) на невялічкім кавалку Мінска можна бачыць прынамсі тройчы: уласна арыгінал у Нацыянальным мастацкім музеі, рэпрадукцыю



Рэпрадукцыя «Партрэта невядомай з кветкамі і садавіной» Хруцкага **ў «Лакамцы» на мінскім праспекце Незалежнасці.**

на сцяне нядаўна абноўленай кандытарскай «Лакамка» каля ГУМа — флагманскай крамы фабрыкі «Камунарка», і, нарэшце, мурал стрыт-артыста Міці Післяка на сцяне дома па вуліцы Карла Маркса, 25. Тую самую карціну можна ўбачыць на паштовай марцы СССР 1983 года, а яе фрагменты — на рэверсе срэбранай манеты вартасцю 20 рублёў, выпушчанай Нацбанкам у 2010-м. Той жа нацюрморт упрыгожваў купюру вартасцю 1 000 рублёў, якая выйшла з абароту 2 гады таму ў сувязі з дэнамінацыяй.

З самага свайго стварэння стандартныя ды бесканфліктныя, як глянцавыя фоташпалеры, нацюрморты Хруцкага ўвасаблялі спакой, дабрабыт і стабільнасць. Але ці тое самае было ў душы мастака, калі ён іх маляваў?

### Брэндавы мастак

На першы погляд, Хруцкі ў жыцці дасягнуў нечуванага поспеху. У 1836 годзе мастак скончыў пецярбургскую Акадэмію мастацтваў, і другая палова 1830-х стала для яго па-сапраўднаму зорнай часінай. Што называецца, папаў у тэму: ягоныя нацюрморты цудоўна адпавядалі густам, сфарміраваным, з аднаго боку, жорсткай мікалаеўскай цэнзурай, а з другога — пашырэннем моды на імпартныя даброты. Кожны, хто імкнуўся не адстаць ад моды, жадаў мець у інтэр’еры нацюрморт ці хаця б пейзаж Хруцкага. Літаральна са студэнцкай лавы наш зямляк трапіў у «брэнды».

За кароткі час Хруцкі набірае папулярнасць і збірае цэлую калекцыю ўзнагарод. У 1836-м ён уганараваны за нацюрморты вялікім срэбраным медалём. У 1837-м імператар Мікалай I, які лічыў сябе знаўцам жывапісу, падарыў мастаку гадзіннік на залатым ланцужку «як заахвочванне да далейшай працы» за карціны, «якія паказваюць дзяцей, што гандлююць садавіной». Гэта, безумоўна, рэзка падняло каціроўкі ўдачлівага мастака. У наступным годзе адразу дзве ягоныя работы былі ўганараваныя малым залатым медалём на гадавым сходзе Акадэміі мастацтваў: нацюрморт «Кветкі і плады»



**Партрэт невядомай з кветкамі і садавіной.** 1838 год. Захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

і «Пажылая жанчына, якая вяжа шкарпэтку» — мабыць, сапраўды адзін з найбольш таленавітых яго партрэтаў.

Ну а вяршыня славы — званне акадэміка жывапісу, прысвоенае 29-гадоваму (!) майстру «за выдатныя работы ў партрэце, пейзажы і асабліва жывапісе пладоў і гародніны». Мабыць, Хруцкаму ў гэты момант варта было б завесці цэлую фабрыку капіістаў, каб задаволіць невычэрпны, як здавалася, попыт на нацюрморты і пейзажы, кантраляваць чаляднікаў-«неграў», а асабіста пісаць толькі партрэты, якія таксама карысталіся вялікай папулярнасцю. Замаўляла іх публіка нябедная, уплывовая — узроўню міністраў, сенатараў, акадэмікаў, губернатараў... Дарэчы, настаўнікам Хруцкага ў гэтым жанры быў славуты англійскі мастак Джордж Доў, аўтар серыі партрэтаў герояў вайны 1812 года.

Сучасная мастацкая крытыка не ўгледзела б у большасці яго работ асаблівай арыгінальнасці і выбітнага майстэрства. Але ў гэтыя кароткія 4–5 гадоў ён вельмі добра адчуў тое, чаго прагне публіка, і старанна «штампаваў» усё новыя і новыя нацюрморты, на якія выстраілася доўгая чарга з заказчыкаў. Працы Хруцкага давалі сталічнай публіцы хісткае адчуванне поспеху і бяспекі.

## Карціны Хруцкаму замаўлялі міністры, акадэмікі, губернатары

### Хруцкі ў СССР

Рэпрадукцыі Хруцкага асабліва любілі ў галодныя пасляваенныя гады. Яны ідэальна пасавалі да той эпохі, шмат у чым падобнай да Расіі Мікалая І, і друкаваліся неймавернымі накладамі. «Сталінскі ампір» у архітэктуры, які сфарміраваў архітэктурнае аблічча цэнтра Мінска — «горада Сонца», як яго іранічна цяпер называюць, — патрабаваў адпаведных інтэр'ераў. Глянцавае багацце нацюрмортаў Хруцкага, як і неймаверна прэстыжная ў тыя гады «Книга о вкусной и здоровой пище», былі пакліканыя хаця б часткова кампенсаваць працоўным недахоп ежы ў рэальным жыцці.

### Паміж сям'ёй і дзяржавай

Аднак на душы мастака ў гэтыя гады наўрад ці было так спакойна, як на яго палотнах. Пакуль ён вучыўся ў сталіцы імперыі (1827–1836), на радзіме жыццё рабілася ўсё цяжэйшым. Спачатку няўдалае паўстанне 1831 года. Потым закрыццё Віленскага ўніверсітэта, падрыхтоўка да ліквідацыі царкоўнай уніі...

Бацька мастака, Тамаш Хруцкі, уніяцкі святар з Лепельскага павета, быў адным з лідараў стыхійнага і безнадзейнага руху за захаванне уніі. За гэта ў 1836 годзе яго саслалі ў манастыр і вызвалілі, толькі калі змаглі выціснуць пакаянне. Аднак у 1838 годзе подпіс Тамаша Хруцкага фігуруе пад лістом-пратэстам 111-ці святароў Беларускай епархіі, якія чарговы раз выказваюць вернасць уніі. Не толькі канфесіі, але і фактычна цывілізацыйнай арыентацыі. ►




**Памятная срэбная прамавугольная манета,** выпушчаная ў 2010 годзе да 200-годдзя з дня нараджэння Івана Хруцкага.



Мурал (малюнак на сцяне будынка) **у двары дома па Маркса, 25, у Мінску**.

**Уніяцтва** (грэка-каталіцтва) — хрысціянская плынь, заснаваная на уніі Праваслаўнай царквы з Рымакаталіцкай на ўмовах прызнання першай вяршэнства папы рымскага і каталіцкай дагматыкі пры захаванні праваслаўных традыцый культу і выкарыстання традыцыйна сакральнай ці народнай мовы ў багаслужбе. Існуе ў розных краінах свету. У Рэчы Паспалітай была створана ў 1596 годзе, скасавана пасля далучэння беларускіх і ўкраінскіх земляў да Расійскай імперыі ў 1839 годзе (на тэрыторыі Царства Польскага — у 1875-м). Беларуская грэка-каталіцкая царква адроджаная ў 1989 годзе.

▶ Збор святароў і прыхаджан у Царкаўлянах Дрысенскага павета, на якім і падпісалі ліст, стаў найбольш значнай акцыяй пратэсту ўніятаў.

Іван Хруцкі быў пастаўлены лёсам у цэнтр гэтай грамадскай драмы. У тым самым 1838 годзе ён напісаў два партрэты найвышэйшых іерархаў Уніяцкай царквы. Стары мітрапаліт Язафат Булгак — пабожны, добразычлівы, але і прынцыповы чалавек, які адстойваў інтарэсы сваёй канфесіі дыпламатычна, але цвёрда. І наменнік, які дыхае старому ў патыліцу, — малады кар'ерыст, мэтанакіраваны, разумны і жорсткі Іосіф Сямашка. Сямашка ўжо таемна паабяцаў уладам ліквідаваць непажаданае веравызнанне «знутры» і метадычна дамагаецца сваёй мэты.

Драматычнае супрацьстаянне паміж героямі гэтых двух партрэтаў заслугоўвае добрага дэтэктыва. Хруцкі, як мала хто з мастакоў, разумеў увесь драматызм сітуацыі, таму і партрэты атрымаліся не шараговыя, поўныя схаванага сэнсу. Амаль адразу ж пасля пазіравання Булгак памірае, і Сямашка займае ягонае месца — дарога да ліквідацыі уніі адкрытая.

## Ціхая вернасць сабе

У Полацку, дзе мастак правёў школьныя гады, на саборы Уніяцкай царквы 24 лютага 1839 года мітрапаліт Сямашка дамагаецца ліквідацыі уніі і пераходу ўніятаў ва ўлонне Праваслаўнай царквы. Бацька мастака, не вытрымаўшы гаротнай весткі, памірае. У сакавіку 1840 года Іван Хруцкі едзе на радзіму ўладжваць справы сям'і, у якой становіцца старэйшым. Трэба падумаць, куды прыстроіць малодшых братоў (яны пойдуць па яго слядах, паступяць у Акадэмію мастацтваў), дзе пасяліцца асірацелай сям'і, дый пра жаніцьбу пара падумаць. Піша ён у гэтыя гады не вельмі шмат, больш партрэты і значна радзей нацюрморты.




Фрагмент «Партрэта невядомай з кветкамі і садавінай» на **ранейшых беларускіх грошах**.

У 1844 годзе мастак купляе маёнтак Захарнічы недалёка ад Полацка, на маляўнічым возеры, і будуе там класічны сядзібны дом. Вымушаную змену веравызнання мастак прыняў знешне спакойна: пратэставаць было бессэнсоўна. Але сімпатыі, выхаваныя бацькам, не пакідаюць яго і праяўляюцца самым розным чынам.

Па-першае, 35-гадовы Хруцкі жэніцца з 23-гадовай суседкай-каталічкай Ганнай Адравонж-Бямбноўскай, дачкой афіцэра яшчэ касцюшкаўскага войска. Дарэчы, з каталічкай пасля ажэніцца і ягоны сын Іосіф. Варта адзначыць, што пераход з праваслаўя ў каталіцызм у Расійскай імперыі быў забаронены і крымінальна караўся.

Па-другое, Хруцкі цяпер піша і не зусім звыклыя для добранадзейнага расійскага мастака сюжэты: то абраз Святога Казіміра, нябеснага патрона Літвы, на замову правінцыйнага літоўскага касцёла, то ўжо без усякай замовы, проста для сябе — партрэт Адама Міцкевіча адразу пасля смерці паэта ад халеры ў далёкім Стамбуле.

## Помста мітрапаліта

Мітрапаліт Сямашка, мусіць, не без садысцкіх матываў, у жніўні 1846-га робіць Хруцкаму прапанову, ад якой немагчыма адмовіцца: запрашае ў Вільню аздабляць загарадную архірэйскую рэзідэнцыю і дамавую царкву пры ёй. Рэзідэнцыяй стаў былы манастыр трынітарыяў у Трынапалі (цяпер

*Trinapolis* на поўначы Вільні ў раёне Вяркі), зачынены пасля 1831 года, а царквой — барочны касцёл.

Ганарар, праўда, мітрапаліт прапануе не вельмі шчодры — тысячу рублёў срэбрам, але дае для жыцця сваю віленскую кватэру і забяспечвае стол. Праца зацягваецца, дробязны Сямашка

## Бацька мастака, Тамаш Хруцкі, быў адным з лідараў стыхійнага і безнадзейнага руху за захаванне уніі

патрабуе ўсё новых і новых бонусаў, прычым значная частка з іх — копіі класічных заходнееўрапейскіх карцін. Замоўца глыбока ўмешваецца і ў арыгінальныя сюжэты, старанна рэгламентуючы тэхнічныя параметры кожнай карціны: партрэтаў найбліжэйшых паплечнікаў Сямашкі, краявідаў Вільні і ваколіцаў...

Нарэшце праца былі скончаная. 1000 рублёў за восем патрачаных гадоў аказваюцца мізэрнай платай. Але для Хруцкага галоўнае — магчымасць вярнуцца ў Захарнічы. Ён становіцца тут амаль пустэльнікам, ніяк не каментуе падзей асабістага і грамадскага жыцця, не даючы нагоды для даносаў і сачэння. Жыве сціпла, піша даволі мала, усё больш для сябе: інтэр'еры сядзібы, сямейныя партрэты...

Так мінае 30 гадоў. Адна з апошніх работ — напісаны ў 1884 годзе, за год да смерці, аўтапартрэт. Як і ў многіх партрэтах Хруцкага, тут ужыты прыём кантраснага асвятлення — найбольш асветленыя твар і правая, «працоўная», рука. У аўтапартрэце адчуваецца годнасць, пачуцце ўласнай значнасці і нейкая затоеная горыч... Ці ўсё рэалізавана, пра што марылася? Ці былі кампрамісы вартыя заплачанай за іх цаны?

Памёр Іван Хруцкі 13 студзеня 1885 года, не дажыўшы два тыдні да 75-годдзя. Жонка перажыла яго толькі на некалькі гадоў. Пасля рэвалюцыі нашчадкі паспелі ўцячы ў Польшчу, што ўратавала ім жыццё. Пры Саветах ім было б не выжыць. А маляўнічыя Захарнічы спачатку абрабавалі, а потым і разбурылі. Імперыя, хаця і ў мадыфікаванай форме, адпомсціла Хруцкім. ◆



**Плады і свечка.** Другая палова 1830-х. Захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

### Штампаванасць нацюрморта, загадкавасць партрэта

Многія з нацюрмортаў Хруцкага настолькі падобныя адзін да аднаго, што маглі б служыць матэрыялам для гульні «знайдзі 10 адрозненняў». Можна дадаць ці прыбраць свечачны агарак на падсвечніку, запалкі, цыгару, гранёную шклянку, абрывак рахунка з рассыпанай манетнай дробяззю — і вось, калі ласка, новая карціна ў чарговы прыватны інтэр'ер. Адзін толькі «Нацюрморт са свечкай» вядомы сёння ў васьмі варыянтах. Нават назваў сваім творам аўтар, праўдападобна, не даваў — яны прыпісаныя мастацтвазнаўцамі ўжо пазней.

Вельмі любіў Іван Фаміч, напрыклад, змяшчаць на сваіх карцінах лімон, абавязкова з надрэзанай спіральна да паловы лупінай. Абавязкова — лутавы кошык з садавінай і ягадамі. Тэатральны бінокль, вынайдзены ў Еўропе дзесяцігоддзе таму.

І — па чым яго нацюрморты пазнаюцца беспамылкова, — керамічны збан або вазу, якія масава выраблялі на фаянсавай фабрыцы Паскочына ў Пецярбургу, з рэльефнай выявай паляўнічых сабак і ручкай у выглядзе выгнутага цела лісы.

Той самы рэквізіт прадстаўлены і на знакамітым «Партрэце невядомай з кветкамі і садавінай». Гераіня карціны, маладая прывабная жанчына, прысутнічае і на многіх іншых карцінах Хруцкага, прычым у розным узросце: і як маленькая дзяўчынка, і ў пажылым веку. Часта яе атаясамліваюць з жонкай мастака, хаця гісторыкі даўно выключылі такую магчымасць: рэальнай жонцы ў 1838 годзе было 15 гадоў, а жанчына на растыражыраванай карціне яўна старэйшая. Таемная муза? Наўрад ці, такая паслядоўнасць у яе выяўленні, на працягу чвэрці стагоддзя, непазбежна выклікала б гучны скандал у грамадстве і сям'і. Можа быць, сястра?..



Мы, студэнты 3-га курса аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ імя У.І.Леніна, жадаем, каб усе лекцыі (за выключэннем спецдысцыплін) выкладаліся толькі на роднай мове.

# СПРАВА РАЗАНАВА:

## як у 1968-м трое мінскіх студэнтаў кінулі выклік сістэме

**Кастрычнік 1968 года. Год студэнцкай рэвалюцыі ў Парыжы, год Пражскай вясны. А ў Мінску на філфаку БДУ імя Леніна студэнты 3-га курса Алесь Разанаў, Віктар Ярац і Леў Барташ арганізоўваюць збор подпісаў за тое, каб усе лекцыі чыталіся па-беларуску. Расказвае кандыдат філалагічных навук Анатоль Івашчанка.**

### Буржуазныя нацыяналісты ў дзіравых туфлях

Праз 25 гадоў у «ЛіМе» Віктар Ярац апіша той восеньскі дзень, калі яны разам з Алесем Разанавым выйшлі ад рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Антона Сеўчанкі, дзе пачулі пра сваё выключэнне:

> «У горадзе была імжа. То ішоў, то сціхаў дробны, па-асенняму назойлівы і калючы дождж, які сеяўся з нізкіх абложных хмараў.
> — Слухай, а ці можа быць буржуазны нацыяналіст у дзіравых туфлях? — спытаў я ў аднакурсніка Алеся Разанава, паказаўшы на свой абутак, у якім падэшвы набывалі ўсё большую аўтаномію ад сваіх вярхоў…»

**«Нашы людзі сачылі за вамі, нам усё вядома»**

Але перш як перайсці да падзей, якія прывялі студэнтаў да рэктара, — невялічкі экскурс у гісторыю.

### «Ни черта не понятно!»

Паводле легенды, у 1959-м кіраўнік СССР Мікіта Хрушчоў, выступаючы перад студэнтамі таго самага БДУ, хваліў беларусаў за тое, што яны першымі пабудуюць камунізм, бо першымі «цалкам пяройдуць на рускую мову». Паводле іншай версіі, наадварот, Хрушчоў лаяў першага сакратара ЦК КПБ Кірылу Мазурава (першага за доўгі час беларуса на чале нібыта беларускай кампартыі) за даклад на святкаванні 40-годдзя БССР па-беларуску: «Ни черта не понятно!» Як бы там ні было, сэнс мэсэджу галоўнага кукурузніка быў адназначным.

За гады да таго хрушчоўскага візіту, калі той самы Мазураў



**Алесь Разанаў** — паэт. Нарадзіўся 5 снежня 1947-га ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Бацька, родам з Тамбоўскай вобласці, да вайны прыехаў з геадэзічнай экспедыцыяй у Беларусь, дзе і застаўся. У 1966-м Разанаў паступіў на філфак БДУ, паралельна з вучобай працаваў ліцейшчыкам на Мінскім заводзе ацяпляльнага абсталявання. Зімой 1969-га выключаны з БДУ, скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут у 1970-м. У 1970–1971 гадах працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна. З 1972 года ў Мінску, у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Родная прырода», выдавецтве «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1990) за кнігу «Вастрыё стралы». Сярод іншых узнагарод — еўрапейская літаратурная прэмія імя Ёгана Готфрыда Гердэра (2003). Вядомы як паэт-наватар, аўтар новых паэтычных формаў. Аўтар дваццаці паэтычных зборнікаў. Апошні — «Такая і гэтакі: талакуе з маланкай дождж» (Мінск: Мастацкая літаратура, 2017).

нясмела спрабаваў вярнуць беларускай мове пазіцыі ў дзяржаве, у газеце «Літаратура і мастацтва» выйшаў артыкул Барыса Сачанкі, на той момант студэнта журфака БДУ, пад загалоўкам «Шанаваць родную мову», дзе аўтар звяртаў увагу на мізэрную прысутнасць беларускай мовы ў сценах яго *alma mater*, на кафедры журналістыкі пры філфаку. Артыкул заўважылі на Захадзе, яго перадрукавала мюнхенская «Бацькаўшчына». Барыс Іванавіч зазнаў нямала праблем уключна з пільнай увагай да сваёй асобы з боку «кампетэнтных органаў». Скончыць БДУ ён, аднак, адрозна ад сваіх наступнікаў, змог.

### Палітычна-неразумная балбатня

У мемуарах «Між роспаччу і надзеяй» народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч даволі падрабязна апісвае інцыдэнт з адлічэннем Разанава і Яраца — ён быў у іх куратарам групы. Ніл Сымонавіч адвядзе іх да Максіма Танка (старшыні і Саюза пісьменнікаў, і Вярхоўнага Савета БССР), дзякуючы чаму выгнанцы змогуць працягнуць навучанне: Разанаў — у Брэсцкім педінстытуце, Ярац — у Гомельскім.

Паводле згадак Гілевіча, за некалькі гадоў да таго «разгром нацыяналізму» на філфаку ўжо быў: тады «нацыяналістычнай акцыяй» стала ўсяго толькі «палітычна-неразумная балбатня», у якую ўцягнуў сваіх сяброў стукач-правакатар з ліку студэнтаў. Гэтым жа разам справа пайшла далей за «балбатню» і мела канкрэтную дзею-ўчынак.

### Ці быў адрасат?

У 1993 годзе Алесь Разанаў аднёс сем аркушаў-арыгіналаў з подпісамі студэнтаў на захаванне ў Нацыянальны гістарычны музей Беларусі.

Колькасць падпісантаў уражвае: 1 курс — 106 чалавек, 2 курс — 91, 3 курс — 105. Агулам з трох курсаў было сабрана 302 подпісы! З улікам таго, што сярэдні набор на курс быў 125 чалавек, — каля 90 адсоткаў студэнтаў выказаліся ў падтрымку звароту.

Чытаем: «Мы, студэнты ... курса аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна, жадаем, каб усе лекцыі (за выключэннем спецдысцыплін) выкладаліся толькі на роднай мове».



**Віктар Ярац** — паэт. Нарадзіўся 23 кастрычніка 1948 года ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. У 1966-м паступіў на філфак БДУ, дзе правучыўся два з паловай курсы і быў выключаны. Скончыў навучанне на гісторыка-філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. У некаторых крыніцах яго выключэнне з БДУ дагэтуль падаецца іншасказальна: «На пачатку вясны 1969 года з-за любові да роднай мовы быў пераведзены ў Гомельскі педінстытут» (з сайта Рэчыцкай раённай сеткі бібліятэк). Служыў у арміі. Працаваў на тэлебачанні. Выкладаў у Гомельскім універсітэце. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар зборнікаў паэзіі «Уваходзіны» (1976), «Добрыца» (1989), «Дняпроўскі бакен» (1992). Сёлета выдаў кнігу «Зямныя эцюды».

Часам пішуць, што зварот быў адрасаваны Машэраву. Не, гэта не так, ні ЦК КПБ, ні Машэраў у звароце не фігуравалі. Больш за тое, адміністрацыя ўніверсітэта зрабіла ўсё, каб зварот не дайшоў да вышэйшых вушэй.

### Канспіратары і інквізітары

Як піша Яўген Хвалей, Разанаў, Ярац і Барташ былі «выдатныя канспіратары». Ён, хаця і жыў у адным пакоі з Разанавым, да апошняга нічога не ведаў ▶

ні пра падрыхтоўку да збору подпісаў, ні пра паездку Разанава, Яраца і Валянціны Коўтун да Ларысы Геніюш у Зэльву. Тая паездка да дысідэнткі, вязня сталінскіх лагераў таксама нарабіла шораху.

## Трэці беларускі

Пад такой назвай увайшоў у гісторыю той самы зорны курс філфака, а непасрэдна — аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры БДУ 1968–1969 гадоў. Было іх крыху больш за сто чалавек, чатыры групы трэцякурснікаў. Старастам быў будучы першы міністр інфармацыі незалежнай Беларусі, а потым — культуры і друку Анатоль Бутэвіч. Па алфавітным збегу абставінаў у адной групе сабраліся, па сутнасці, усе паэты курса: Генадзь Пашкоў, Алесь Разанаў, Яўген Хвалей, Яўгенія Янішчыц, Віктар Ярац. Разанаў і Янішчыц у далейшым стануць лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі…

Геніюш заўважыла-прадбачыла паэтычны талент Разанава яшчэ ў 1966 годзе, калі ў паэта былі надрукаваныя ўсяго чатыры вершы. У лісце гісторыку Міколу Прашковічу паэтка напіша: «Разанаў многаабяцаючы, будзем думаць, што вырасце ў сілу, якая нам цяпер найболей патрэбная».

Віктар Ярац згадвае, што здарылася праз некалькі дзён пасля той паездкі: «Разанава, Барташа (хоць ён і не быў у Зэльве) і мяне выклікалі проста з лекцый у рэктарат. Глянуўшы на тых, хто тут сабраў нас на допыт, чамусьці адразу ж прыгадаліся з прачытанага сцэны судоў сярэдневяковай інквізіцыі. Усе — дужа сур’ёзныя, змрочныя, надзьмутыя, быццам нехта іх вельмі ж моцна пакрыўдзіў ці абразіў навек».

«Інквізітараў» дужа цікавілі імёны выкладчыкаў, якія «штурхалі вас на такі ўчынак» (збор подпісаў). І раптам: «Хто дазволіў вам ездзіць да Геніюш? Вы ведаеце, што гэта — нацыяналістка?! Нашы людзі сачылі за вамі, нам усё вядома».

Алесь Разанаў мяркуе, што хтосьці з асведамляльнікаў з ліку студэнтаў перастараўся і паведаміў у адпаведныя інстанцыі, што «мы едзем у Гродна падымаць студэнцкае паўстанне».

### Попел быў

Вядома ж, «інквізітараў» дужа цікавілі тыя аркушы з подпісамі. На камсамольскіх «чыстках» Алесь Разанаў казаў, што спаліў іх, на што яму адказвалі: «Экспертыза попелу не выявіла». «Попел быў», — адказваў паэт. Напярэдадні ў інтэрнаце, на вачах у студэнтаў, ён спаліў некалькі аркушаў чыстай паперы.

Такім чынам ён уратаваў арыгіналы для гісторыі.




З АРХІВА АНАТОЛЯ БУТЭВІЧА

**Выпускны курс беларускага аддзялення на ганку філфака**, 1971 год. Філфак БДУ месціўся па адрасе Чырвонаармейская, 6 (цяпер тут знаходзіцца гістарычны факультэт). Літарай Я пазначаная Яўгенія Янішчыц — у будучыні папулярная паэтка, літарай Б — будучы міністр Анатоль Бутэвіч.

Віктар Ярац згадвае, як на той «інквізітарскай» нарадзе абураны рэктар крычаў: «Гэта ўсё развёў там на філфаку яшчэ Ларчанка!» (Прафесар, франтавік Міхась Ларчанка быў дэканам філфака ў 1943–1944 і 1955–1963 гадах.) Такі класічны роўлінгаўскі сюжэт: Дамблдора выцясняюць цёмныя сілы з Міністэрства магіі.

**Падпалкоўнік Шчарбіна**

Алег Лойка, у будучыні дэкан, а ў 1968-м — выкладчык філфака, прафесар, паэт, улюбёнец студэнтаў, расказваў, што выкладчыкам было загадана «рэзаць» тройцу на экзаменах. Загад даў рэктар Сеўчанка, «а яму загадалі звысоку».

Да гонару выкладчыкаў, паслухаліся не ўсе. Той жа Лойка на сваім экзамене паставіў бунтаўшчыкам «пяцёркі» — тады гэта быў найвышэйшы бал. Хоць пры гэтым, як кіраўнік універсітэцкай творчай суполкі «Узлёт», змушана кляйміў бунтаўнікоў як «кепскіх камсамольцаў».

# Ні Ярац, ні Разанаў не ўкладіся ў нарматывы па зборцы аўтамата Калашнікава

Не ўсе асмеліліся, як Лойка, паставіць пяцёркі. «Прадузятасць, насцярожанасць і скіраванасць выкладчыкаў на тое, каб нас заваліць, адчувалася амаль на кожным экзамене», — успамінае Ярац. Але, да гонару выкладчыкаў, і двойкай ніхто сябе не запляміў. Падлюга знайшоўся толькі на вайсковай кафедры — падпалкоўнік Шчарбіна.

Па афіцыйнай версіі, ні Ярац, ні Разанаў не ўклаліся ў нарматывы па зборцы аўтамата Калашнікава. І за гэта — выключылі.



Паркавая магістраль (пазней — праспект Машэрава, цяпер — праспект Пераможцаў), дзе **знаходзіўся інтэрнат філфака БДУ.** На яго месцы цяпер стаіць «Галерэя Мінск».

**«Пасягай на перамогу»**

Ці ведалі, на што яны ідуць? На гэтае пытанне Алесь Разанаў сёння адказвае так: «Загадзя ўсяго нельга было ні ўлічыць, ні прадбачыць, ішлі на невядомае, але гэта было наша права, і таму ўсё-такі спадзяваліся на паразуменне і дыялог... Студэнты беларускага аддзялення адчувалі сябе калі не абранымі, то пакліканымі».

Ці было выключэнне з філфака і пагром у душах яго аднакурснікаў паразай Разанава? І з другога боку: а ці займела б Беларусь паэта такога ўзроўню, калі б не тая гісторыя? Паэта, які, паводле Сяргея Дубаўца, зарадзіў сваёй энергіяй 80-я, выклікаўшы да жыцця «Тутэйшых». Сёння не ўсе гатовыя паверыць у тое, якой сілай валодала паэтычнае слова тады. Паводле Дубаўца, паэтычныя словы Разанава «ўсё маглі перавярнуць у маладой галаве, змяніць усю жыццёвую праграму чалавека».

...Апынуўшыся на вуліцы, Ярац і Разанаў зрабілі рэйд па паліклініках — праходзілі медагляды, каб уладкавацца будаўнікамі ў Сібір. Аднак Гілевіч і Танк дабіліся для хлопцаў магчымасці вучыцца.

Падаецца, найлепшым заканчэннем будуць радкі пункціра з дэбютнага, ушчэнт парэзанага цэнзурай, зборніка Алеся Разанава «Адраджэнне»:

Калі ўсе згублены ключы,
калі ні шанцу,
анічога —
усё ж ідзі,
любі,
крычы
і пасягай на перамогу.

**P.S.** На сайце філалагічнага факультэта БДУ ў раздзеле «Нашы выпускнікі» ёсць старонкі Алеся Разанава і Віктара Яраца. Са сціслай пазнакаю: «Перыяд вучобы: 1966–1968». Прычыны такога імклівага заканчэння ВНУ не тлумачацца. ◆

Аўтар шчыра ўдзячны пісьменніку Анатолю Бутэвічу і навуковаму супрацоўніку Нацыянальнага гістарычнага музея Алесю Зімніцкаму за пададзеныя фотаматэрыялы.




# Ці існавала завяшчанне Сталіна?

## «Усё маё жыццё — няспынная барацьба з сіянізмам, мэта якога — усталяванне новага сусветнага парадку пры панаванні яўрэйскай буржуазіі»

Дакумент, які назвалі «завяшчаннем Сталіна», пачаў распаўсюджвацца ў расійскіх нацыяналістычна-манархічных асяродках у 1990-я гады. У ім гаварылася: «Я ніколі не быў сапраўдным рэвалюцыянерам, усё маё жыццё — няспынная барацьба з сіянізмам, мэта якога — усталяванне новага сусветнага парадку пры панаванні яўрэйскай буржуазіі... Каб дасягнуць гэтага, ім неабходна разваліць СССР, Расію, знішчыць Веру, ператварыць рускі дзяржаўны народ у бязродных касмапалітаў».

Вось да якой ісціны нібыта прыйшоў напрыканцы жыцця (дакумент датуецца пачаткам 1953 года) савецкі дыктатар. У дакуменце з сумам канстатуецца: «Я адзінокі. Расія — каласальная краіна, а вакол ніводнага прыстойнага чалавека... Старое пакаленне пагалоўна ахоплена сіянізмам, уся наша надзея на моладзь».

Усю сваю дзейнасць, калі верыць «завяшчанню», Сталін нібыта накіроўваў на адраджэнне Расійскай імперыі і пабудову дзяржавы, дзе будзе «пануючая роля рускага народа (іншародцы і іншаверцы павінны ведаць сваё месца)». Нашчадкам жа ён пакідаў стварэнне новай арганізацыі замест старой камуністычнай партыі — «Рускі Ордэн Аляксандра Неўскага», галоўная задача якога — «аб'яднанне ўсіх сіл на барацьбу за Вялікую Русь».

Ці мог такое напісаць Сталін? Канечне, не. І ягоная добра даследаваная біяграфія, і тэарэтычная спадчына, якую ён пакінуў, і ўспаміны сучаснікаў — усё супярэчыць зместу «завяшчання». Не мог такое напісаць чалавек, які не меў у сваіх жылах ані кроплі рускай крыві і да канца жыцця размаўляў па-руску з вялікім акцэнтам.

Завяшчанне — гэта відавочная падробка, напісаная ў стылістыцы расійскай нацыяналістычнай публіцыстыкі, што ў 1990-я гуртавалася вакол часопіса «Наш современник», але многія прыхільнікі «рускага свету» вераць у яго. А вераць таму, што вакол смерці Сталіна да сёння шмат таямніц.

### Хвароба Сталіна

Пасля вайны Сталін шмат хварэў. Восенню 1945 года, калі яму было 65, у яго здарыўся першы інсульт. Па парадзе дактароў савецкі лідар упершыню з 1937 года з'ехаў у адпачынак на поўдзень. Аднак аднавіць былую працаздольнасць ён не змог і вымушаны быў па вяртанні больш часу праводзіць на дачы ў Кунцаве, чым у Крамлі.

У яго была гіпертанія, здараліся галавакружэнні і прыступы задышкі. А з набліжэннем восені дадаваліся яшчэ і прастуды.

**Пахаванне Сталіна.**
Труну нясуць Лаўрэнцій Берыя, Клімент Варашылаў, Мікіта Хрушчоў, Міхаіл Суслаў.

У кастрычніку 1949 года ў Сталіна здарыўся другі мікраінсульт, які суправаджаўся частковай стратай маўлення. Цягам наступных двух гадоў ён шмат часу бавіць адпачываючы на поўдні. Але не адчуваючы паляпшэння, з восені 1951 года больш не пакідае Масквы, знаходзячыся ўвесь час на кунцаўскай дачы. У Сталіна сталі здарацца правалы ў памяці. Летам 1952 года пасля агляду яго асабістым доктарам, акадэмікам Уладзімірам Вінаградавым, быў пастаўлены дыягназ — прагрэсуючы атэрасклероз мозга.

Дадаліся і праблемы з лёгкімі, ад чаго Іосіф Сталін нават кінуў курыць, чым моцна ганарыўся. Але ў выніку ў яго з'явілася нервознасць і ён моцна дабавіў у вазе, што садзейнічала павышэнню крывянога ціску.

16 кастрычніка 1952 года Сталін на адкрыцці пленума партыі падаў заяву аб вызваленні ад пасады генеральнага сакратара, матывуючы просьбу «станам здароўя». Але яго паплечнікі ўспрынялі гэта як праверку, кшталту той, якую ў свой час учыняў яшчэ Іван Жахлівы.

### Не шкадуючы адданых

Апошнія гады свайго жыцця Іосіф Сталін усё больш турбаваўся пра стан уласнай бяспекі і пасля другога мікраінсульту канчаткова перастаў давяраць крамлёўскім дактарам. Гэтаму пасадзейнічала і ранняя смерць аднаго з ягоных блізкіх паплечнікаў, Андрэя Жданава, якому, мусіць, у выніку памылкі ў дыягназе было прызначана няправільнае лячэнне. Распачынаецца «справа дактароў», у рамках якой быў арыштаваны і Уладзімір Вінаградаў.

Лячэннем Сталіна пэўны час займаецца яго асабісты памочнік Аляксандр Паскробышаў, які скончыў фельчарскія курсы. Але ў лістападзе 1952 годзе і незаменны Паскробышаў быў абвінавачаны ў страце важных дакументаў, і нават у крадзяжы сакрэтнай інфармацыі пра ненадрукаваны другі том рукапісу «Эканамічныя праблемы сацыялізму». Толькі смерць Сталіна ўратавала яго, нязменнага на працягу 20 гадоў сакратара і памочніка, ад смерці. Пасля прыходу да ўлады Хрушчова Паскробышава адправяць на пенсію, ён памрэ ў 1965 годзе.

Яшчэ менш пашанцавала кіраўніку аховы Іосіфа Сталіна Мікалаю Уласіку, дарэчы, ураджэнцу вёскі Бабынічы (сёння — Слонімскі раён Гродзенскай вобласці). Ён быў ▶

**Калі Сталін перастаў давяраць дактарам, яго лячэннем займаўся асабісты сакратар Аляксандр Паскробышаў, які скончыў фельчарскія курсы**

Завяшчанні вялікіх людзей з даўніх часоў выклікаюць спрэчкі. Іх нярэдка падраблялі. У выпадку рымскага імператара Канстанціна і першага расійскага імператара Пятра I яны ледзь не прывялі да падзення іх дзяржаў. У той жа час Кацярына II пакінула ажно два тастаменты. У першым яна клапацілася пра ўласнае пахаванне і завяшчала насіць яе труну толькі кавалергардам, «а не іншаму каму». Таксама яна напісала «маральны запавет», у якім, між іншым, засведчыла: «Двудушша чужое вялікім людзям: яны грэбуюць усімі нізасцямі». Сярод аўтараў найбольш вядомых завяшчанняў у свеце — Альфрэд Нобель і Гары Гудзіні.
Альфрэд Нобель, вынаходнік дынаміту, завяшчаў усю сваю маёмасць на заснаванне прэміі, якая сёння вядомая ва ўсім свеце. Таксама ён асобным пунктам прапісаў, што перад тым, як закапаць яго цела, на яго руках павінны перарэзаць вены. Нобель баяўся быць пахаваным жывым. Вядомы ілюзіяніст Гары Гудзіні пакінуў завяшчанне, у якім пазначыў, што яго таямніцы схаваныя ў адмысловым сейфе. Адкрыць той мусілі на яго 100-годдзе. У 1974 годзе сейф адкрылі. Ён выявіўся пусты.



**Сталін з паплечнікамі.** Злева направа — Лаўрэнцій Берыя, Георгій Малянкоў, Панцеляймон Панамарэнка, Лазар Кагановіч.

▶ нібыта адпраўлены на нізкую пасаду ў адзін з канцлагераў ГУЛАГа, а па прыбыцці на месца арыштаваны па «справе дактароў». Пяць гадоў ён правядзе ў турме. Памрэ ён 71-гадовым у 1967 годзе ў Маскве ад раку лёгкіх.

### Апошнія дні

На публіцы Сталін апошні раз з'явіўся 17 лютага 1953 года, калі ў Крамлі прымалі індыйскую дэлегацыю. Сустрэча доўжылася паўгадзіны. Адным з апошніх, хто бачыў зблізу Сталіна, быў генерал-лейтэнант, кіраўнік спецаперацый савецкай разведкі Павел Судаплатаў. Гэта адбылося 21 лютага: «Я бачыў стомленага старога. Сталін вельмі змяніўся. Яго валасы моцна парадзелі, і, хоць ён заўсёды гаварыў марудна, цяпер ён яўна вымаўляў словы як бы праз сілу, а паўзы паміж словамі сталі даўжэйшыя». Судаплатаў, дарэчы, прыязджаў абмеркаваць пытанні рэарганізацыі замежнай разведкі і план замаху на кіраўніка Югаславіі, маршала Ціта, пры дапамозе замаскіраванага ў адзенні бясшумнага механізму, які выпускае дозу бактэрый лёгачнай чумы. Забойства Ціта меркавалі ўскласці на беларуса Язэпа Грыгулевіча — аднаго з самых паспяховых агентаў савецкай разведкі, які зрабіў фенаменальную кар'еру ў Лацінскай Амерыцы, стаўшы паслом Коста-Рыкі пры Ватыкане і, па сумяшчальніцтве, у Югаславіі.

Увечары 27 лютага 1953 года Іосіф Сталін наведаў Вялікі тэатр, глядзеў «Лебядзінае возера».

28 лютага быў дзень нараджэння яго дачкі Святланы, пра які ён проста забыўся, правёўшы вечар у Крамлі за праглядам фільма разам з Лаўрэнціем Берыяй, Мікалаем Булганіным, Георгіем Малянковым і Мікітам Хрушчовым — гэтая чацвёрка складала блізкае кола «правадыра народаў» у апошнія гады яго жыцця. Берыя, Малянкоў і Булганін з 1951 года нават мелі права выкарыстоўваць факсіміле подпісу правадыра СССР на некаторых афіцыйных дакументах.

Згодна з тэорыямі канспіролагаў, у тую ноч на 1 сакавіка ён назваў імя будучага пераемніка.

Зранку Сталін яшчэ паспеў наведацца ў лазню, папарыўшыся па старой сібірскай завядзёнцы, да якой прызвычаіўся яшчэ з часоў ссылкі.

Апошнімі ў звычайным стане Сталіна бачылі яго ахоўнікі і служачыя дачы, адзін з якіх, падпалкоўнік Пётр Лазгачоў, узгадваў: «А пятай гадзіне ночы [Сталін вёў начны лад жыцця, чым страшэнна вымучваў савецкую вярхушку, якой даводзілася і ўначы быць гатовай да выкліку ці тэлефанавання] падаём машыны гасцям. А калі Гаспадар гасцей праводзіў, то прымацаваны таксама праводзіў — дзверы зачыняў за імі. І прымацаваны Хрусталёў Іван Васільевіч зачыняў дзверы і бачыў Гаспадара, а той сказаў яму: "Кладзіцеся вы ўсе спаць. Мне нічога не трэба. І я таксама кладуся. Вы мне сёння не спатрэбіцеся". Хрусталёў прыйшоў і радасна кажа: "Ну, хлопцы, ніколі такога распараджэння не было..." І перадаў нам словы Гаспадара... І, праўда, за ўвесь час, што я працаваў, гэта быў адзіны раз, калі Гаспадар сказаў: "Кладзіцеся спаць..." Звычайна спытае: "Спаць хочаш?" — і прасвідруе цябе вачыма з ног да галавы. Ну, які ж тут сон!»

### Архіў Сталіна і «чорны сшытак»

Дакладна вядома, што Іосіфа Сталіна разбіў паралюш і памёр ён ад кровазліцця ў мозг 5 сакавіка 1953 года. І нібыта гэтак сталася, што ў той самы дзень, калі ў Сталіна здарыўся ўдар, ягоны «чорны сшытак», нататнік для звышсакрэтных запісаў, у якім паплечнікі бачылі пагрозу ўласнаму становішчу, знік. Маўляў, паплечнікаў тырана навучыў прыклад «завяшчання Леніна», які ў 1924 годзе ледзь не перакрэсліў палітычную кар'еру Сталіна.

**На момант смерці Сталіна ў ГУЛАГу** ўтрымліваліся амаль 2,5 млн чалавек, занятых рабскай працай. Пасля смерці Сталіна 27 сакавіка 1953 года быў выдадзены ўказ аб амністыі цягам наступных трох месяцаў, пад якую падпадалі каля 1,2 млн чалавек. Яе затрымка прывяла да шэрагу паўстанняў «палітычных зняволеных» (у Варкуце, Нарыльску). Затое пад амністыю масава падпалі крымінальнікі, што прывяло да рэзкага росту злачыннасці летам таго ж года.

**«Завяшчаннем Леніна» часта называюць рэальны дакумент— «Ліст да з'езда»**, прадыктаваны ў канцы 1922 года ўжо безнадзейна хворым Уладзімірам Леніным. У гэтым лісце, сярод іншага, Ленін даў характарыстыкі некаторым сваім патэнцыйным пераемнікам, у тым ліку і Сталіну. Характарыстыка Сталіна была вельмі крытычная: «Тав. Сталін, зрабіўшыся генсекам, сканцэнтраваў у сваіх руках неабдымную ўладу, і я не ўпэўнены, ці здолее ён заўсёды дастаткова асцярожна карыстацца гэтай уладай»; «Сталін занадта грубы, і гэты недахоп, зусім цярпімы ў асяроддзі і ў размовах паміж намі, камуністамі, становіцца нецярпімым на пасадзе генсека. Таму я прапаную таварышам абдумаць спосаб перамяшчэння Сталіна з гэтага месца і прызначыць на гэтае месца іншага чалавека, які ва ўсіх іншых адносінах адрозніваецца ад тав. Сталіна толькі адной перавагай, менавіта: больш цярпімы, больш лаяльны, менш капрызны і г.д.». І калі «завяшчанне Леніна» схаваць магчымасці не было (з ім былі азнаёмленыя ўсе дэлегацыі перад XIII з'ездам РКП (б) у маі 1924 года), то з «завяшчаннем Сталіна» магла здарыцца зусім іншая гісторыя. Калі б, натуральна, яно сапраўды існавала.


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

Паперы Сталіна пасля яго смерці склалі асобны фонд (№ 558), які цяпер знаходзіцца ў Расійскім дзяржаўным архіве сацыяльна-палітычнай гісторыі і даступны ў інтэрнэце. Але гісторык Жарэс Мядзведзеў тлумачыць, што найбольш важныя асабістыя паперы Сталіна былі знішчаныя неўзабаве

## «Расія — каласальная краіна, а вакол ніводнага прыстойнага чалавека»

пасля ягонай смерці. Тое ж, што пакідалася, было моцна падчышчана пры Мікіце Хрушчове, які імкнуўся па магчымасці прыбраць усе згадкі пра свой удзел у рэпрэсіях. Пасля гэтага архіў перабіралі ў часы савецкай перабудовы, а пасля і ў 1990-я, ужо пасля распаду Саюза пры Барысе Ельцыне, — перад

**Сталін, які сам не раз аддаваў загады на атручванне людзей, паранаідальна не давяраў дактарам.** Захаваліся сведчанні, што калі ён хварэў на грып, то адпраўляў аднаго з ахоўнікаў па лекі не ў Маскву, а ў выпадковую падмаскоўную аптэку.

тым як перадаць для вывучэння экспертам Ельскага ўніверсітэта ў ЗША.

Даследчыкам, аднак, не дае спакою так і не выяўлены так званы «чорны сшытак». Справа ў тым, што, паводле ўспамінаў, Сталін, акрамя хрэстаматыйнай люлькі і пачка з папяросамі, заўсёды меў пры сабе і запісную кніжку з цёмнай вокладкай. Што ў той нататнік запісвалася — можна толькі строіць версіі, бо зазірнуць у яго нікому не ўдавалася. Так, напрыклад, расійскі гісторык Юрый Емяльянаў лічыць, што савецкі лідар у гэтым «чорным сшытку» занатоўваў заўвагі адносна паплечнікаў, ставячы крыжыкі і пытальнікі насупраць прозвішчаў аднапартыйцаў. Пасля запісная кніжка нібыта трапіла да Берыі, а ад яго — да першага старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР Івана Сярова, які, ратуючы пасля арышту і расстрэлу Берыі ўласнае жыццё, аддаў «чорны сшытак» Хрушчову.

Пацвердзіць гэта маглі б мемуары Івана Сярова, але іх арыгіналы так і не знойдзеныя. А тое, што нібыта знайшлі ў 2012 годзе ў двух чамаданах пры зносе сцяны гаража на яго дачы і выдалі ў 2016 годзе, найхутчэй што, фальсіфікацыя.

### А што ж сапраўды пісаў Сталін перад смерцю?

Калі ж адкінуць канспіралогію і глядзець на сітуацыю рэалістычна, то палітычнае завяшчанне Сталіна сапраўды існавала, але шукаюць яго не там. Каб зразумець, правядзенне якой палітыкі Сталін хацеў ад сваіх пераемнікаў (хоць і сам яшчэ паміраць не збіраўся), трэба прачытаць не адну старонку прапагандысцкай лістоўкі, а некалькі нудных тамоў. У апошнія гады свайго жыцця Сталін шмат увагі надаваў пытанням стратэгічнага планавання па самым шырокім коле пытанняў — ад пабудовы сацыялізму да развіцця мовы. Не абавязкова, вядома, ён усё пісаў сам, але, прынамсі, праглядаў і ўносіў там, дзе лічыў патрэбным, праўкі.

У 1950 годзе была апублікаваная вядомая праца Сталіна «Марксізм і пытанні мовазнаўства». Таксама ён удзельнічаў у стварэнні падручніка «Палітычная эканомія», што выйшаў ужо пасля яго ▶



**Ускладанне кветак** да помніка Сталіну на Цэнтральнай плошчы Мінска ў дзень яго пахавання.



Кадр з фільма «**Смерць Сталіна**».

смерці. У 1952-м з'явілася праца «Эканамічныя праблемы сацыялізму ў СССР». Асноўная ідэя гэтага твора — небяспека рэстаўрацыі капіталізму ў выпадку доўгага захавання таварнага характару гаспадаркі ў СССР. Грошы, таварная гаспадарка — гэта, маўляў, элемент рынку, а рынак — неэквівалентны абмен. Значыць, ёсць магчымасць прыбытку і, адпаведна, эксплуатацыі. Таму Сталін лічыў неабходным адмовіцца ад грашовых разлікаў і перайсці да натуральнага прадуктаабмену. Калі казаць прасцей: пражыві Сталін даўжэй, то і без таго знясіленае савецкае грамадства чакаў бы яшчэ адзін эканамічны эксперымент.

Адзін з галоўных паплечнікаў Сталіна, Анастас Мікаян, праз гады згадваючы ў мемуарах пра гэтыя ідэі «бацькі народаў», пісаў: «Гэта быў неймаверна лявацкі загін. Я тлумачыў яго тым, што Сталін, відаць, планаваў ажыццявіць пабудову камунізму ў нашай краіне яшчэ пры сваім жыцці, што, вядома, было рэччу нерэальнай». Але спрабаваць увасабляць у жыццё нерэальныя рэчы бальшавікам было не прывыкаць.

**Сталін лічыў неабходным адмовіцца ад грошай і перайсці да натуральнага прадуктаабмену**

Сваю працу па эканамічных праблемах Сталін вырашыў пакласці ў аснову новай праграмы Камуністычнай партыі, камісія па распрацоўцы якой была абрана на XIX з'ездзе КПСС у кастрычніку 1952 года. Працу, аднак, камісія так і не распачала, бо Сталін праз няпоўныя паўгода пасля з'езда памёр, а ў пераемнікаў погляды на далейшае развіццё краіны адрозніваліся. Палітычнаму завяшчанню правадыра яны, трэба прызнаць, сапраўды здрадзілі. Але краіна і грамадства ад гэтага толькі выйгралі. Апошнія дзесяцігоддзі існавання СССР былі не такія крывавыя, як гады кіравання Сталіна, было менш войнаў і рэпрэсій, не было голаду, людзям жылося багацей і спакайней. ◆

**Васіль Герасімчык**

### Бульба для Сталіна

Любімай стравай у Сталіна была — калі не лічыць шашлыка — свежапрыгатаваная печаная бульба. Не ведаючы, калі Сталін прыедзе на абед, новую порцыю бульбы гатавалі кожныя 30–40 хвілін. У выніку ў некаторыя дні магло быць змарнавана да двух мяхоў бульбы, якую прывозілі з Арлоўскай, Тамбоўскай і Ліпецкай абласцей.

### СССР на момант смерці Сталіна

У снежні 1947 года ў СССР была адменена карткавая сістэма і праведзена грашовая рэформа. Пасля праведзенай дэнамінацыі ўводзіліся новыя грошы, былі вызначаныя адзіныя рознічныя цэны. Заробак большасці гарадскога насельніцтва, не ў параўнанне з паўгалоднымі калгаснікамі, складаў 500–1000 рублёў. З 1 сакавіка 1950 года ў СССР спынялася прынятае ў ліпені 1937-га. вызначэнне курса рубля да замежных валютаў на падставе долара ЗША. Курс вызначаўся на базе пастаяннага залатога ўтрымання савецкіх грошай: было ўсталявана залатое ўтрыманне рубля ў 0,222168 грама чыстага золата.

Пры гэтым у 1947 годзе кілаграм жытняга хлеба каштаваў 3 рублі, пшанічнага — 4 рублі 40 капеек, кілаграм грэчкі — 12 рублёў, цукру — 15 рублёў, масла — 64 рублі, кавы — 75 рублёў, літр малака — 3–4 рублі, бутэлька піва «Жыгулёўскае» — 7 рублёў, 0,5 л гарэлкі «Маскоўская» — 60 рублёў.

Ужо пасля смерці Сталіна, 1 красавіка 1953 года, новае кіраўніцтва краіны, каб спадабацца народу, цэны знізіла: ялавічына замест ранейшых 30 рублёў стала каштаваць 12,5 рублёў, 1 л малака — 2,24, 1 кг масла — 27,8 руб., 1 кг цукру — 9,40 руб., бутэлька гарэлкі — 22,8 руб., піва — 2,96 руб., бляшанка крабаў — 4 руб. 30 кап., пара абутку ў сярэднім 188,5 руб. Аўтамабіль «Масквіч» — 9000 рублёў, аўтамабіль «Пабеда» — 16000 рублёў.

# Што было б, каб Пілсудскі аднавіў Рэч Паспалітую?

**У Польшчы бестселерамі сталі кнігі ў жанры альтэрнатыўнай гісторыі, піша беларус з Кракава Ян Гардзееў.**

У сучаснай Польшчы ёсць папулярны журналіст, які спецыялізуецца на пераасэнсаванні ледзь не ўсіх найважнейшых для польскай нацыянальнай самаідэнтыфікацыі падзей XX стагоддзя.

Уявім сабе, што ў 1920 годзе, калі польскае войска здзейсніла знакаміты «цуд на Вісле» і перайшло ў паспяховае контрнаступленне, адкінуўшы бальшавікоў ад Варшавы аж да Мінска, Юзаф Пілсудскі не спыніўся. Ён не стаў бы дамаўляцца з бальшавікамі пра мір, як гэта і адбылося насамрэч, а працягваў наступленне ва ўсходнім кірунку і ўрэшце ўзяў Маскву.

Пасля гэтага Рэч Паспалітая адраджаецца ў межах 1772 года. ні бальшавізм, ні нацызм не перамагаюць, Сталін і Гітлер застаюцца звычайнымі людзьмі. Апошні, будучы да канца жыцця толькі шараговым аўстрыйскім мастаком, у 1939 годзе прыбывае ў новую культурную сталіцу Еўропы, якой ёсць Варшава. Сярод іншага ён завітвае ў палац князёў Радзівілаў, гаспадар якога набывае пару ягоных карцін. Вар'яцтва нейкае, скажаце вы? Але менавіта такі альтэрнатыўны сцэнарый цалкам сур'ёзна мадэлюе сучасны польскі аўтар Пётр Зыховіч у сваёй кнізе «Пакт Пілсудскага – Леніна».

### І паўстанне было памылкай, і супрацоўленне?

Пётр Зыховіч, гісторык па адукацыі і журналіст па прафесіі, — асоба ў сённяшняй Польшчы папулярная. Кнігі на гістарычную тэматыку, якія ён піша адну за адной, выдаюцца вялікімі накладамі. «Пакт Пілсудскага – Леніна» — не першая праца аўтара, якая выклікала ў нашых суседзяў гарачую дыскусію. У папярэдняй кнізе «Пакт Рыбентропа – Бека» Зыховіч, напрыклад, праводзіць думку, што альянс з Германіяй на першым этапе вайны быў бы для Польшчы лепшым варыянтам, чым саюз з Вялікабрытаніяй і Францыяй — што Польшча абышлася б меншай крывёю, калі б не супрацоўлялася Гітлеру. У кнізе ж «Вар'яцтва-44» ён сцвярджае, што Варшаўскае паўстанне было непатрэбным і нават шкодным.

Пра працы Зыховіча дыскутуюць не толькі простыя чытачы і публіцысты на старонках папулярна-навуковых выданняў — да іх абмеркавання падключаюцца таксама некаторыя прафесійныя даследчыкі. Карацей, гісторык-журналіст бярэцца за перагляд ключавых для Польшчы падзей XX стагоддзя, і на ўсё ў яго знаходзіцца альтэрнатыўная канцэпцыя.




### Памылкі Пілсудскага?

У кнізе «Пакт Пілсудскага – Леніна» правакацыйнасць пачынаецца ўжо з вокладкі. Многія бачаць у ёй намёк на існаванне нейкага рэальнага супрацоўніцтва вынесеных у загаловак персанажаў. Але гэта толькі спецыфічная аўтарская адсылка да тых гістарычных падзей, якія мелі месца ў другой палове 1919-га, падчас савецка-польскай вайны. Польскія войскі тады спынілі сваё паспяховае наступленне ў Беларусі на лініі Бярэзіны, пасля чаго пачалі адначасова весці перамовы з «чырвонымі» ды «белымі» расійцамі. Лічачы бальшавікоў «меншым злом», Пілсудскі свядома вырашыў не дапамагаць белым у іх барацьбе. Менавіта гэты факт Зыховіч і меў на ўвазе, даючы гучную назву сваёй кнізе. Фармальнага пагаднення паміж Пілсудскім і Леніным, вядома, не было.

Менавіта ў рашэннях жніўня-верасня 1919 года аўтар бачыць першую тагачасную памылку польскага боку і асабіста Пілсудскага. Той, маўляў, мог бы не затрымліваць падначаленую сабе армію і ісці далей, пакуль бальшавіцкія сілы змагаліся з унутранымі праціўнікамі ў Грамадзянскай вайне. Але палякам так і не ўдалося дасягнуць паразумення з тагачасным лідарам белага руху, генералам Антонам Дзянікіным. На гэта паўплывалі перадусім два фактары — негатыўнае стаўленне Пілсудскага да «белай» Расіі і гатоўнасць Дзянікіна прызнаць Польшчу толькі ў межах Царства Польскага, якое існавала да Першай сусветнай вайны. Пазней, ужо на эміграцыі, Дзянікін, дарэчы, вінаваціў Пілсудскага, што менавіта з-за адмовы супрацоўніцтва палякаў з белым рухам бальшавікам і ўдалося ўтрымацца пры ўладзе. ►

▶ Другая істотная памылка Пілсудскага, на думку Зыховіча, мела месца пасля чарговага наступлення польскіх сілаў восенню 1920 года, калі існавала рэальная магчымасць аб'яднаць намаганні палякаў з арміяй ужо іншага белага генерала — Пятра Урангеля. Той, у адрозненне ад Дзянікіна, быў схільны да кампрамісаў. Аднак падпісанае 12 кастрычніка 1920-га замірэнне паміж Варшавай і Масквой перашкодзіла гэтым планам. Зыховіч спрабуе пераканаць сваіх чытачоў, што гэта менавіта Пілсудскаму не хапіла палітычнай волі, хоць на самай справе ўсё было, канечне, куды больш складана.

Галоўны ж запал сваёй крытыкі Зыховіч скіроўвае на Рыжскую мірную дамову. Не падбіраючы словаў, ён акрэслівае яе як «ганьбу», «здраду» і параўноўвае з Ялцінскай канферэнцыяй 1945 года, на якой быў прадвызначаны лёс Польшчы пасля Другой сусветнай вайны. Падпісанае 18 сакавіка 1921 года мірнае пагадненне аўтар разглядае як змарнаваны шанец на ажыццяўленне федэралісцкай канцэпцыі Пілсудскага і аднаўленне старой Рэчы Паспалітай.

У гэтым месцы асноўныя крытычныя стрэлы Зыховіч зноў кіруе ў бок Пілсудскага, які быццам бы не выкарыстаў свайго аўтарытэту і тагачаснай слабасці бальшавікоў, каб увасобіць-такі ў жыццё сваю федэралісцкую канцэпцыю. Каб надаць сваёй знішчальнай крытыцы рыжскага пагаднення большай пераканаўчасці, Зыховіч згадвае пра сумны лёс палякаў, якія засталіся пасля падзелу ў межах савецкай дзяржавы. Ды што там палякі? У кнізе ёсць таксама сцверджанні пра здраду не толькі ў дачыненні да іх, але таксама адносна беларусаў, украінцаў і рускіх.

## Не ўсё так проста

Што, калі адкінуць эмоцыі і паглядзець на сітуацыю з улікам тагачаснага гістарычнага кантэксту? Тады выйдзе, што ўсё далёка не так проста і адназначна, як хоча давесці Зыховіч. Па-першае, якая б ні была палітычная воля Пілсудскага, ён мусіў улічваць такія фактары, як псіхалагічная стомленасць насельніцтва і арміі ад вайны, якая ішла сёмы год.



**Юзаф Пілсудскі** (1867–1935) — польскі палітык, з іменем якога неадлучна асацыюецца аднаўленне незалежнасці Польшчы ў 1918 годзе. Род ягоны вёў пачатак са шляхты былога Вялікага Княства Літоўскага, а сам ён нарадзіўся і правёў дзяцінства ў маёнтку Зулаў пад Свянцянамі. Сёння гэта тэрыторыя Літвы, але пры самай мяжы з Беларуссю. Пілсудскі быў стваральнікам канцэпцыі польскай дзяржаўнасці, якая атрымала назву федэралізму. Яе сутнасцю было аднаўленне ў новых умовах колішняй Рэчы Паспалітай. Але паколькі ён разумеў, што без паразумення з лідарамі беларускага, літоўскага і ўкраінскага нацыянальных рухаў гэта немагчыма, то ім было прапанавана стварыць супольную з палякамі федэратыўную дзяржаву. Гэтую канцэпцыю спрабавалі ўвасобіць у жыццё падчас польска-савецкай вайны 1919–1920 гадоў, але па розных прычынах гэта не ўдалося. Канчатковы крыж на ёй паставіла Рыжская мірная дамова ад 18 сакавіка 1921 года, якая падзяліла тэрыторыю Беларусі і Украіны паміж Польшчай і СССР.

Калі ж казаць пра перамовы ў Рызе, то нельга забывацца, што ў польскай дэлегацыі там пераважалі зусім не прыхільнікі Пілсудскага, а прадстаўнікі ягоных зацятых палітычных апанентаў — польскіх нацыяналістаў-эндэкаў. Якія ніколі не хавалі думкі, што надта вялікая колькасць прадстаўнікоў іншых народаў у новай польскай дзяржаве адгукнецца для яе шматлікімі праблемамі. І дзеля таго прынцыпова не хацелі мець у складзе адроджанай польскай дзяржавы занадта шмат тэрыторый з перавагай яўна няпольскага насельніцтва. Разумеючы, што ператравіць іх праз паланізацыю ў такім выпадку будзе не проста цяжка, а ўвогуле немагчыма.

Глянуўшы з іншых бакоў, можна паставіць яшчэ нямала нязручных пытанняў. Ці не быў увогуле праект стварэння шматнацыянальнай дзяржавы ва ўмовах відавочнага ўздыму нацыянальных свядомасцяў і фарміравання нацыянальных дзяржаў пасля Першай сусветнай вайны занадта ідэалістычным і рамантычным? Ці пагадзіліся б беларусы і ўкраінцы, літоўцы і латышы з іншым рашэннем Пілсудскага, калі б ён, дапусцім, яго прыняў? А як бы на ўсё гэта адрэагавалі эліты заходніх вялікіх дзяржаў, ад падтрымкі якіх Польшча ў той час крытычна залежала і якія мелі ўласную думку адносна сітуацыі ў гэтым рэгіёне?

Падобныя рэфлексіі, аднак, не ў стылі Пятра Зыховіча. Аўтар ставіць пытанне і імгненна вымалёўвае адзіны «правільны» сцэнарый развіцця падзей, падганяючы тыя ці іншыя факты пад загадзя падрыхтаваную версію. Іншыя ж, альтэрнатыўныя, варыянты пры такім падыходзе проста ігнаруюцца. І гэта нягледзячы на тое, што ў кнізе даволі багатая бібліяграфія, у тым ліку ўспаміны, дакументы, тагачасная публіцыстыка і, вядома, навуковыя працы.

Дзякуючы такой спрошчанасці і эмацыйнасці, тэксты Зыховіча лёгка чытаюцца. Прафесійныя гісторыкі такія кнігі справядліва крытыкуюць, але яны маюць і несумненную карысць. Бо правакуюць дыскусію, змушаюць людзей задумвацца, што ў мінулым рабілася правільна, а што — не. А яшчэ такія кнігі нагадваюць і гісторыкам, як важна пісаць ясна і яскрава. ◆

# 2019: падзеі і святы

**Студзень**

**1** – Новы год
– 100 гадоў таму ў Смаленску абвешчана БССР
– 100 гадоў таму нарадзіўся амерыканскі пісьменнік Джэром Сэліндждэр, аўтар рамана «Лавец у жыце»
**3** – 75 гадоў таму нарадзіўся этнограф Міхась Раманюк, аўтар кнігі «Беларускія народныя крыжы»
**4** – 150 гадоў таму нарадзіўся пісьменнік Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі)
**6** – Тры Каралі ў рыма-каталікоў, Вадохрышча ў грэка-каталікоў
**7** – Раство ў праваслаўных
**13** – 150 гадоў таму нарадзіўся паэт і збіральнік фальклору Адам Гурыновіч
**16** – 100 гадоў таму нарадзіўся кампазітар Уладзімір Алоўнікаў
**19** – Вадохрышча ў праваслаўных
**28** – 100 гадоў таму Марк Шагал у Віцебску заснаваў мастацкае вучылішча

**Люты**

**1** – 100 гадоў таму ў Вільні пачаліся заняткі ў Беларускай гімназіі
**2** – Грамніцы ў каталікоў
– 525 гадоў таму нарадзілася каралева Бона Сфорца
**14** – 100 гадоў таму пачалася польска-савецкая вайна
**14** – Дзень святога Валянціна
**15** – Грамніцы ў праваслаўных
**21** – Міжнародны дзень роднай мовы

**Сакавік**

**6** – Пачатак Вялікага паста ў рыма-каталікоў
**8** – Міжнародны жаночы дзень
**9** – Пачатак Вялікага паста ў праваслаўных
**15** – 25 гадоў таму Вярхоўным Саветам прынятая Канстытуцыя Беларусі.
**21** – Пурым у юдэяў
**24** – 225 гадоў таму пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі
**25** – Дзень Волі

**Красавік**

**14** – Вербніца ў каталікоў
**21** – Вялікдзень у каталікоў і пратэстантаў, Вербніца ў праваслаўных
**24** – 75 гадоў таму нарадзіўся палітык і мастацтвазнаўца Зянон Пазняк
**26** – Дзень Чарнобыльскай трагедыі
**28** – Вялікдзень у праваслаўных

**Май**

**1** – Дзень працы
**3** – 550 гадоў таму нарадзіўся Нікало Макіявелі, італьянскі філосаф
**5** – 200 гадоў таму нарадзіўся кампазітар Станіслаў Манюшка
– Пачатак Рамадана ў мусульман
**7** – Радаўніца ў праваслаўных
**9** – Дзень Перамогі
**30** – Ушэсце ў каталікоў

**Чэрвень**

**6** – 75 гадоў таму адбылася высадка ў Нармандыі, адкрыўся другі фронт
– Ушэсце ў праваслаўных
**9** – Сёмуха ў каталікоў
**16** – Тройца ў праваслаўных
**20** – Свята Божага Цела ў рыма-каталікоў
**25** – 75 гадоў таму пачалася аперацыя «Баграціён»
**28** – 100 гадоў таму падпісаная Версальская мірная дамова, якая афіцыйна завяршыла Першую сусветную вайну
**29** – Пятра і Паўла ў каталікоў

**Ліпень**

**1** – 450 гадоў таму паміж ВКЛ і Польшчай заключаная Люблінская унія, утвораная дзяржава Рэч Паспалітая
**2** – Дзень Божай Маці Будслаўскай, апякункі Беларусі
**3** – 75 гадоў таму Мінск вызвалены ад нацыстаў, Дзень Рэспублікі
**7** – Купалле
– 150 гадоў таму нарадзіўся Лявон Вітан-Дубейкаўскі, грамадскі дзеяч, архітэктар
**10** – 25 гадоў таму першым прэзідэнтам Беларусі абраны Аляксандр Лукашэнка
**12** – Пятра і Паўла ў праваслаўных
**21** – 50 гадоў таму чалавек (Ніл Армстранг) упершыню ступіў на паверхню Месяца
**27** – Дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце ў 1990-м
**28** – 75 гадоў таму тэрыторыя Беларусі цалкам вызваленая ад нацыстаў

**Жнівень**

**6** – Перамяненне Госпада ў каталікоў
**11** – Курбан-Байрам у мусульман
**15** – 250 гадоў таму нарадзіўся Напалеон Банапарт
– Спленне ў каталікоў
**19** – Яблычны Спас у праваслаўных
**25** – Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі нададзена сіла канстытуцыйнага закона ў 1991-м
**28** – Спленне ў праваслаўных

**Верасень**

**1** – Сусветны дзень ведаў
– Рас-ас-Сана (Новы год) у мусульман
**8** – Дзень беларускай вайсковай славы
**14** – Узвіжанне ў каталікоў
**20** – 500 гадоў таму пачалося першае ў гісторыі кругасветнае падарожжа пад кіраўніцтвам Фернана Магелана
**27** – Узвіжанне ў праваслаўных
**29** – Роша Га-Шана (Новы год) у юдэяў

**Кастрычнік**

**1** – Пакроў у грэка-каталікоў
**2** – 150 гадоў таму нарадзіўся адзін з лідараў вызвольнага руху Індыі Махатма Гандзі
**14** – Пакроў у праваслаўных

**Лістапад**

**1** – Дзень усіх святых у рыма-каталікоў
**2** – Дзяды
**15** – Пачатак Піліпаўкі ў грэка-каталікоў
**16** – Дзень Маці Божай Вастрабрамскай
**28** – Пачатак Піліпаўкі ў праваслаўных

**Снежань**

**1** – 50 гадоў таму нарадзіўся прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Румас
**2** – Пачатак Адвэнту ў рыма-каталікоў
**10** – Дзень правоў чалавека
**25** – Раство ў каталікоў і пратэстантаў
– 175 гадоў таму нарадзіўся славуты партызан Васіль Талаш (Дзед Талаш)
**31** – 150 гадоў таму нарадзіўся французскі мастак Анры Матыс

**Юбілеі года**

**1000 гадоў Брэсту.**

## СТУДЗЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| аў | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| чц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| пт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| нд | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## ЛЮТЫ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| аў | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| пт | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| сб | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| нд | 3 | 10 | 17 | 24 | |

## САКАВІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| аў | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| нд | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

## КРАСАВІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| аў | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ср | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| пт | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| нд | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## МАЙ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| аў | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| пт | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| нд | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## ЧЭРВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| аў | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| ср | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| чц | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| пт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 19 |
| нд | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

## ЛІПЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| аў | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| пт | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| нд | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## ЖНІВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| аў | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| нд | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## ВЕРАСЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| аў | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| пт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| нд | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## КАСТРЫЧНІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| аў | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| чц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| пт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| нд | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## ЛІСТАПАД

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| аў | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| нд | 3 | 10 | 17 | 24 | |

## СНЕЖАНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| аў | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| пт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| нд | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

1. Алесь Адамовіч 2. Язэп Адамовіч 3. Уладзімір Алоўнікаў 4. Францішак Аляхновіч 5. Канстанцін Астрожскі 6. Палута Бадунова 7. Ян Баршчэўскі 8. Васіль Быкаў 9. Ларыса Геніюш 10. Уладзімір Дубоўка
11. Алесь Дудар (Аляксандр Дайлідовіч) 12. Жыгімонт Аўгуст 13. Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны) 14. Кастусь Каліноўскі 15. Уладзімір Караткевіч 16. Тадэвуш Касцюшка 17. Якуб Колас 18. Янка Купала 19. Іосіф Лангбард
20. Вацлаў Ластоўскі 21. Антон Луцкевіч 22. Іван Луцкевіч 23. Станіслаў Манюшка 24. Пятро Машэраў 25. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі 26. Алаіза Пашкевіч (Цётка) 27. Эмілія Плятэр 28. Язэп Пушча 29. Барбара Радзівіл
30. Караль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку 31. Мікалай Радзівіл Сіротка 32. Леў Сапега 33. Францыск Скарына 34. Стэфанія Станюта 35. Бона Сфорца 36. Антоній Тызенгаўз 37. Аляксандр Уласаў 38. Кузьма Чорны
39. Марк Шагал 40. Соф'я Шамардзіна 41. Мінай Шмыроў 42. Ягайла 43. Іван Якубоўскі

Партрэт **Казіміра Ягайлавіча і ягонай жонкі Эльжбеты Габсбург.** XVII стагоддзе. Нацыянальны музей у Стакгольме.

WIKIMEDIA COMMONS

# Праклён Ягелона

## «Рукі каралёў сягаюць далёка»

**Ад чаго памерлі маладыя даследчыкі, што адкрылі пахаванне Казіміра IV? Тлумачыць гісторык Васіль Герасімчык.**

Вялікі князь літоўскі, кароль польскі Казімір Ягелончык загадаў змясціць у сваёй крыпце наступны надпіс: «Разбуральнік гэтай працы будзе праклятым». Праз паўтысячы гадоў 15 навукоўцаў, якія адкрылі пахаванне, сапраўды памерлі. Так паўстала легенда пра «праклён Ягелона», якая стала ў адзін шэраг з «праклёнам Тутанхамона». Няўжо Казімір сапраўды перасцярог нашчадкаў ад ускрыцця ўласнага саркафага, на якім выбіты надпіс: «Ці ведаеш ты, што рукі каралёў сягаюць далёка?».

### Пятніца 13-га

У пятніцу 13 красавіка 1973 года польскія навукоўцы прасвідравалі сцяну пахавальнай камеры вялікага князя і караля Казіміра Ягелончыка (1427–1492), размешчаную ў капліцы Святога Крыжа на Вавелі ў Кракаве. Рашэнне аб даследаванні пахавання было прынята яшчэ пры канцы 1972 года, калі ў адным з найважнейшых храмаў сталіцы Каралеўства Польскага і Рэчы Паспалітай пачаліся будаўнічыя работы.

Ускрыццё каралеўскіх пахаванняў на Вавелі даўно стала справай звычайнай. Напрыклад, шматразова, пачынаючы яшчэ з XVII стагоддзя, адчынялі труну кананізаванай каралевы Ядвігі: у 1887 годзе для мастака Яна Матэйкі, у 1949 і 1976 гадах з мэтаю вызначэння выгляду каралевы. У 1902 годзе

праводзілі эксгумацыю чацвёртай жонкі Ягайлы — Соф'і Гальшанскай, маткі Казіміра. Аднак толькі пасля адкрыцця пахавання самога Казіміра Ягелончыка амаль усе, хто ўдзельнічаў у эксгумацыі, хутка памерлі. Гэта выглядала па-містычнаму дзіўна, бо ахвярамі сталі здаровыя мужчыны сярэдняга ўзросту.

Па запрашэнні Польскай каталіцкай царквы навукоўцы павінны былі ўскрыць пахаванне, каб праверыць, ці не пацярпела яно падчас Другой сусветнай вайны. За работамі пад кіраўніцтвам прафесараў Ежы Шыблоўскага і Альфрэда Маеўскага сачыў ксёндз Францішак Валанцік.

І вось 13 красавіка 1973 года навукоўцы прасвідравалі наскрозь сцяну таўшчынёю 90 см, за якой размяшчалася пахавальная камера. Але малы дыяметр адтуліны (2 см) не дазволіў убачыць змесціва. Дапамогу прапанаваў інжынер Ян Мырляк, кіраўнік будаўнічага аддзела на Вавелі і вялікі энтузіяст археалогіі.

### «Хто першы туды ўвойдзе, той першы і сыдзе»

На другі дзень навукоўцам перадалі прыстасаванне, названае «каціным вокам». Яно складалася з доўгага дроту і прымацаваных да яго батарэйкі ды невялікай лямпачкі. Аднак жаданага выніку гэтая прылада не прынесла. Невялікая адтуліна дазваляла ўбачыць хіба толькі некалькі незразумелых драўляных кавалкаў, а гульня ценяў адно будзіла фантазію.

Пасля шматлікіх безвыніковых спробаў удасканаліць тэхніку назірання 7 мая археолагі вырашылі прыбраць адзін з каменных блокаў, з якіх складалася сцяна. Уваход у пахавальную камеру Казіміра Ягелончыка быў адчынены. Заставалася атрымаць афіцыйны дазвол ад царкоўных уладаў.

Падчас даследавання навукоўцы высветлілі, што Казімір, як і яго маці Соф'я Гальшанская, быў высокага для свайго часу росту — 179 см, вёў здаровы лад жыцця і амаль не ўжываў алкаголю.

Але даследчыцкая цікавасць перамагла — прысутныя вырашылі, што могуць наведаць пахаванне яшчэ да атрымання дазволу. Адзіным, хто выступіў супраць, быў Стэфан Вальчы. Ён спрабаваў адгаварыць калег, зачытваючы фрагменты з кнігі пра раскопкі пахавання фараона Тутанхамона. Якраз споўнілася паўстагоддзя з 1923 года, калі «праклён Тутанхамона» пачаў забіраць сваіх ахвяр (іх колькасць у выніку пераўзышла два дзясяткі чалавек). Але словы Вальчага ўспрымаліся не больш чым жарт.

Затое паўстала новая праблема: хто з членаў каманды стане першым наведвальнікам пахавальнай камеры? «Хто першы туды ўвойдзе, той першы і сыдзе», — сказаў Стэфан Вальчы інжынеру Чэславу Добашу і накіраваўся да праёма ў сцяне. Наступным стаў археолаг Станіслаў Козел.

**...труна развалілася на дзве часткі, адна з якіх вісела ў паветры. Косткі дарослай асобы ляжалі россыпам...**

### З дазволу будучага папы

У пахавальнай камеры панаваў хаос: драўляная труна развалілася на дзве часткі, адна з якіх вісела ў паветры амаль на метровай вышыні, другая абвалілася на падлогу. Былі знойдзеныя косткі дарослай асобы, якія ляжалі россыпам, прычым чэрап быў перавернуты і знаходзіўся побач з плечавой косткай, тазам і некалькімі пазванкамі. З каралеўскіх рэгалій на вочы адразу трапляўся фрагмент мяча. Усё гэта сведчыла: даследчыкі сталі першымі наведнікамі крыпты.

Афіцыйны дазвол на даследаванне змесціва пахавальнай камеры быў атрыманы 19 мая. А даваў яго кракаўскі кардынал Караль Вайтыла, будучы папа рымскі Ян Павел II.

Пахавальная камера Казіміра Ягелончыка мела памеры 300 на 120 см. На сценах знаходзіліся абстрактныя малюнкі, зробленыя вугалем або графітам. Сярод іх толькі адзін рэалістычны — у выглядзе пчалы.

Труна з цэльнага дрэва мела даўжыню 220 см, вышыню каля 55 см, а найбольшую шырыню — 60 см. Спачатку яна стаяла на ўзвышэнні ў 80 см і ўтрымлівалася жалезнымі прутамі. Аднак з часам цэнтральны прут прагнуўся, і труна разламалася папалам. Шкілет выпаў на падлогу, ператварыўшыся ў бязладны россып костак, пасярэдзіне якога тырчала рукаятка з перакрыжаваннем знішчанага карозіяй мяча. Да каралеўскіх рэгалій адносіўся і скіпетр, частку якога, з тонкім драўляным тронкам, знайшлі сярод парэштак. Таксама быў знойдзены залаты пярсцёнак.

Відавочна, пахаванне было даволі сціплым нават па сярэднявечных мерках. А яшчэ больш здзіўляла адсутнасць багатай каралеўскай вопраткі. Чаму ж так сталася?

### Смерць Казіміра

У 1492 годзе 65-гадовы — па тых часах гэта быў ужо ўзрост глыбокай старасці — Казімір Ягелончык падарожнічаў па землях Вялікага Княства Літоўскага. У дарозе ў яго пачалася дыярэя. У якасці лячэння манахі-бернардзінцы параілі ўжываць печаныя грушы і чорны хлеб. Але гэты сродак дапамагаў нядоўга. У чэрвені вялікі князь вымушаны быў спыніцца ў Гродне. Яму балела сэрца, распухлі ногі. Лекар Якуб з Залесся пераспрабаваў усё, але аказаўся бяссільны: «Гаспадар, шчыра кажучы, я не ведаю для Вашай Вяльможнасці выратавання». 7 чэрвеня 1492 года Казімір памёр у сне.

Жалобная працэсія з целам вялікага князя і караля рушыла ў 700-кіламетровае падарожжа з Гродна ў Кракаў. Цэлы месяц у невыноснай спёцы. ▶



Фрагмент **надгробка Казіміра Ягелончыка.** Кракаў.

▶ Напярэдадні падарожжа цела караля абкруцілі малінавай парчой і абклалі нягашанай вапнаю. Зверху вечка труны пакрылі тканінай, складзенай у восем слаёў, абмазалі глінай і заклеілі смалою. У труну адразу паклалі ўсе атрыбуты, якія Казімір меў з сабой. Адкрываць труну па прыбыцці ў Кракаў, відаць, ужо не рызыкнулі.

## Смерць археолагаў

Пасля чатырохмесячнага вывучэння, 18 кастрычніка 1973 года, у прысутнасці кардыналаў Стэфана Вышынскага і Караля Вайтылы парэшткі Казіміра Ягелончыка і яго жонкі Лізаветы, вядомай як «маці каралёў» (яна падаравала мужу 13 дзяцей, і чацвёра яе сыноў сталі каралямі), былі перапахаваныя.

А на працягу наступнага года памерлі тры ўдзельнікі даследавання: 12 чэрвеня 1974 года ад крывацёку ў мозг — Фелікс Даньчак, 28 чэрвеня — інжынер Стэфан Вальчы, 6 жніўня — інжынер Казімір Гурляк. Яшчэ праз год, 17 мая 1975 года, ад разрыву анеўрызмы памёр інжынер Ян Мырляк. Усяго да 1983 года памерлі 15 экспертаў. Так паўставала гісторыя пра «праклён Ягелона».

## Таямніца праклёну

Сярод даследчыкаў пахавання Казіміра Ягелончыка быў мікрабіёлаг Баляслаў Смык. Напярэдадні ён быў упэўнены, што камера, якая амаль паўтысячы гадоў была закрытая, нічым не пагражае. Але змены ў стане здароўя пасля першага ж наведвання сведчылі пра іншае.

Пасля некалькіх гадзін побач з парэшткамі Казіміра даследчыкам пачалі балець галава і сэрца, парушылася каардынацыя. Мікрабіёлаг ледзь не страціў прытомнасць. Знік сон, і наступныя два тыдні ён не мог канцэнтраваць увагу. Працаваць было проста немагчыма. Як навуковец, Смык нават не задаваўся пытаннем пра існаванне нейкага містычнага праклёну. Магчыма, каманда атруцілася? Але чым?

30 ліпеня Баляслаў Смык узяў пробы з каленнай косткі Казіміра Ягелончыка. Спачатку даследаванне не дало вынікаў. Аднак матэрыялы вырашылі пакінуць у тэрмастаце.

І якім было здзіўленне, калі высветлілася, што калоніі бактэрый і цвілі выраслі! Гэта была сапраўдная сенсацыя, пра якую 26 лістапада 1973 года на ўвесь свет паведаміла агенцтва Франс Прэс: «Невядомыя бактэрыі адкрытыя ў пахаванні. Эксперты, якія займаліся адкрыццём пахавання Казіміра Ягелончыка, выявілі бактэрыі, што знаходзіліся ў стане анабіёзу амаль 500 гадоў».

Як высветлілася, менавіта тут хавалася разгадка кепскага самаадчування і наступнай серыі смяротных выпадкаў сярод даследчыкаў. Ва ўзятых пробах мелася цвіль жоўтая. Яна ўтрымлівае афлатаксіны, якія спрыяюць узнікненню розных хвароб, у тым ліку выклікаюць развіццё ракавых пухлін.

Таямніца праклёну Ягелона была адкрытая. Але пахаванне Казіміра ўжо спрацавала як своеасаблівая «біялагічная бомба», і ахвярамі яе сталі 15 чалавек. ◆

## Цікава ведаць

Соф'я Гальшанская зацяжарыла Казімірам у 22 гады. Яе мужу, каралю Ягайлу, на той час было каля 76. Узніклі плёткі пра нявернасць каралеўны. Ягайлу іх пераказаў князь Вітаўт на сустрэчы ў замку Гародле. Дзве служкі Соф'і былі схопленыя і пасля катаванняў выдалі імёны некалькіх каханкаў сваёй гаспадыні. Каралеўну арыштавалі, і толькі пасля прынесенай ачышчальнай прысягі з яе былі знятыя абвінавачванні. Былых каханкаў Соф'і таксама вызвалілі і вярнулі да двара.

**Тут жывуць людзі, чый продак згадваецца ў дакументах 1661 года.**

# Нашчадкі чараўніка:

## як жыве вёска, дзе ў XVII стагоддзі адбыўся адзін з апошніх вядзьмарскіх працэсаў

**Вяскоўцы вырашылі назаўжды пазбавіцца ад гадкага суседа, але ў апошні момант адумаліся. Гісторыю знайшоў у архівах Андрэй Скурко.**

357 гадоў назад, лістападаўскім днём 1661 года, у маёнтак Касцяневічы Ашмянскага павета прыехаў генерал. Генераламі ў Рэчы Паспалітай называлі не вайсковых чыноў з вялікімі зоркамі. «Генерал», або «енерал» — гэта лацінскі адпаведнік слова «возны», а сказаўшы па-сучаснаму — следчы, дэтэктыў.

Са словаў «енерала павета Ашмянскага» Самуэля Гасеўскага гэтая гісторыя і трапіла ў кнігу Ашмянскага гродскага суда, якая захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі.

Па следчага ажно ў Ашмяны паслаў гаспадар Касцяневіч, ягамосць суддзя браслаўскі Уладзіслаў Уняхоўскі. 15 лістапада, пасля завяршэння цяжкіх работ на зямлі, мусіла вырашыцца справа, якая, відаць, доўга спела ў наваколлі.

Сабраўшы ў двор усіх падданых, суседзяў і чужых людзей, пан Уняхоўскі загадаў арыштаваць і паставіць «перад зборам мужоў» Якуба Бэднара, селяніна з вёскі Лоцевічы, «у чараўніцтве ад розных людзей абвінавачанага». Гэта былі не жарты: у Рэчы Паспалітай XVII стагоддзя ведзьмакоў яшчэ палілі жыўцом.

Той суд, хоць на ім і быў прадстаўнік улады, меў выгляд спаконвечнай «капы» — звычаёвага судзілішча, на якім з паганскіх часоў вырашала падобныя справы вясковая грамада.

Выпадак, аднак, быў нетыповы для тагачаснай юрыдычнай практыкі. Кнігі Ашмянскага

**Касцяневічы** — вёска Людвіноўскага сельсавета Вілейскага раёна, да 2013-га — цэнтр сельсавета. Ляжыць пры трасе Мінск — Мядзел. У Касцяневічах знаходзіцца старадаўні барочны касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. У XVII стагоддзі ў Касцяневічах жылі ўладары гэтых ваколіц Уняхоўскія.

**Лоцевічы** — вёска ў складзе Людвіноўскага сельсавета, знаходзіцца на мяжы Вілейскага і Мядзельскага раёнаў. Да Касцяневіч ад вёскі каля 5 км.

гродскага суда за 1661 год запоўненыя ўсё больш пералікамі маёнткаў, разрабаваных «непрыяцелем масквіцінам», ды скаргамі на свавольствы гусарскіх і татарскіх харугваў Рэчы Паспалітай, ад якіх насельніцтва цярпела мала менш, — ужо сем год ішла «Невядомая вайна» між Рэччу Паспалітай і Расійскай дзяржавай.

Вайна 1654–1667 гадоў — адна з самых кровапралітных у гісторыі беларускіх зямель. У 1655-м расійскія войскі занялі ўсю тэрыторыю Беларусі, дайшлі да Вільні. Войскі Рэчы Паспалітай вызвалілі рэгіён толькі ў 1661-м.

### Заеўся з участковым

Галоўным сведкам супраць «чараўніка» Якуба Бэднара быў яго аднавясковец Юрка Шэгень, лоцевіцкі лаўнік. Такую пасаду — накшталт цяперашняга ўчастковага — у вёсках ВКЛ увялі згодна з «Уставай на валокі». Лаўнікі разглядалі дробныя вясковыя спрэчкі, сачылі за парадкам у вёсцы, выконвалі міліцэйскія функцыі.





Той самы дакумент.

Пры такой пасадзе ўсім добры не будзеш: між Якубам і Юркам яўна быў стары канфлікт. Юрка цытаваў перад судом Якубавы «пахвалкі» — праклёны на свой адрас: каб табе дзеці паўміралі і быдла паздыхала.

Гэта цяпер за такое яшчэ падумаюць, ці даваць штрафу. А трыста год таму людзі верылі, што слова ведзьмака мае сілу і яго праклёны могуць збывацца. Заставалася давесці, што Бэднар — вядзьмак. Шэгень «называў Якуба чараўніком і галавой кляўся».

### Мікіта і заламанае жыта

Відавочна, Якуб быў чалавекам не вельмі зычлівым, раз супраць яго ўзнялася цэлая вёска. Праклінаў і сварыўся не з адным участковым. Зямянін Халімон Лётка, які наступным прамаўляў на судзе, бачыў, як Якуб Бэднар ехаў канём праз палеткі свайго аднавяскоўца Мікіты Захарынага. А назаўтра гаспадар знайшоў у тым месцы заламанае жыта.

Залом лічыўся традыцыйным вядзьмарскім прыёмам: Юрка Мардасёнак з вёскі Мінічы дадаў, што «Мікіта, якому было заламанае жыта, адшукаўшы значэнне гэтага залому, зразумеў: Якуб зрабіў гэта, каб Мікіта паўтара дня блукаў па балотах і лясах без памяці, а пасля ў хуткім часе памёр».

Праўда, залом, відаць, не спрацаваў: Мікіта Захарын на момант суда быў жывы і здаровы, ён згадваецца сярод прысутных на судзе. І сам, дарэчы, ні слова пра тыя заломы не кажа. Маўчалі і іншыя лоцеўцы. «Участковы» Шэгень быў у роспачы: справа пачала сыпацца. Аднавяскоўцы Герасім

## «Называў Якуба чараўнікам і галавой кляўся»

Ліхачонак, Мікіта Захарын, Фёдар Карневіч, Цімошка Сівец, якія пра ўсе Якубавы «чары» ведалі і раней абяцалі засведчыць законным парадкам, «маўчалі, невядома з якой прычыны».

Відаць, паабураўшыся міжсобку злым на язык суседам, яны ўсё ж вырашылі не даходзіць да граху і не аддаваць чалавека на смерць.

Такім чынам, канстатаваў Гасеўскі, суд змог давесці толькі факт, што Якуб абражаў суседзяў: «рознымі часамі розныя казаў пахвалкі». За гэта пан Уняхоўскі прызнаў Бэднара «ад смерці вольным», аддаўшы «на слова» жыхарам Лоцевіч. Тыя, хто яшчэ нядаўна быў гатовы пазбавіцца непрыемнага суседа назаўжды, цяпер узялі яго на парукі. Гаспадары Гарасім Ліхачонак, Хведар Карневіч, Мікіта Захарын, Аўсей Даніловіч, Ян Пілат, Давыд Кандратаў і Сымон Жыжла паручыліся за суседа: «абяцалі, што ад таго часу нічога таму падобнага... рабіць не будзе». ▶



**Рэшткі міжваеннага маёнтка** за Лоцевічамі.

### Жыжла і Пілат

Дакумент пра незвычайны суд цікавы і тым, што ў ім столькі імёнаў тагачасных сялян. Гэта дае магчымасць праверыць, ці жывуць яшчэ іх нашчадкі ў Лоцевічах і ці захавалася там памяць пра гучную, безумоўна, для ўсяго наваколля справу.

Лоцевічы сёння — вялікая вёска. Хоць хапае тут пустых хат, а металапрофільны плот у рост чалавека пазначае будынкі, выкупленыя дачнікамі.

## Бандаронкі, імаверна, нашчадкі «чараўніка» Якуба

Вёска каталіцкая: тут яшчэ захоўваецца традыцыя ставіць на падворках крыжы. Месцамі і падворкаў няма ўжо, а крыжы стаяць... Першы драўляны касцёл у Касцяневічах збудавалі праз год пасля суда над Якубам.

Фантастыка, але праз усе войны, пошасці і перасяленні да XXI стагоддзя тут захаваліся два прозвішчы са спісу 350-гадовай даўніны. «Жыжла быў тут, нядаўна памёр. Дачка яго ў горадзе жыве. А Пілаты — ёсць сям'я, маладыя, на ферме працуюць», — расказаў сустрэты лоцевец. Заспець нашчадкаў Яна Пілата дома не ўдалося.

Пры канцы вёскі, дзе вуліца ператвараецца ў палявую дарогу, знаходзяцца могілкі, абнесеныя ў старой частцы каменнымі валамі. На старых помніках стаяць імёны Жыжлаў, Пілатаў. Бэднараў няма.

Прозвішча Бондар (як і польскі аналаг *Bednarz*) паходзіць ад рамеснага занятку: бондарам называлі майстра па вырабе бочак ды іншага драўлянага посуду.

### Хто такі бэднар

«Бацькі-дзяды нашы мо што зналі, але нам не пераказвалі», — каментуе тую даўнюю вядзьмарскую гісторыю Ганна Іванаўна Карніловіч, адна з найстарэйшых жыхарак Лоцевіч. Ёй налета споўніцца 80, і яна тут «прыродная». Карніловіч па мужыку, па бацьку яна Бандаронак — таксама пашыранае лоцевіцкае прозвішча.

Пра двор у Касцяневічах, да якога некалі адносілася вёска, яна не чула таксама. «На Чырвонай Горцы пан жыў», — успамінае яна маёнтак міжваенных часоў у ваколіцах.



**Ганна Карніловіч,** у дзявоцтве Бандаронак, адна з найстарэйшых жыхарак вёскі.

Здавалася б, сляды «чараўніка» Якуба згубіліся ў часе. Каб не адно «але». Па-польску, на мове, якой следчы Самуэль Гасеўскі пісаў свой «квіт»-справаздачу, *bednarz* — гэта бондар. Таму ёсць імавернасць, што ўсе лоцевіцкія Бандаронкі — гэта нашчадкі Якуба Бэднара-Бондара.

І яшчэ адно. Перш, чым вызваліць Якуба з-пад варты, суд пастанавіў даць яму бізуна за тое, што кляў суседзяў. Навука падзейнічала: працягу гісторыі ў судовых кнігах няма. Не выключана, што Якуб пераасэнсаваў сваё паводзіны і далей жыў у згодзе з аднавяскоўцамі, якія ўратавалі яго ад вогнішча. ◆



Лоцевічы — каталіцкая вёска. **Тут захоўваецца традыцыя ставіць крыжы на падворках.**

**Пра старыя беларускія сады і сарты піша доктар гісторыі Алесь Белы і расказвае чалавек, які ведае пра яблыкі больш за ўсіх, — доктар сельскагаспадарчых навук Зоя Казлоўская**

# Каштэлі, ранэты, пепінкі



Раней садоўніцтва для Беларусі было хіба што большым, чым сёння. Нямецкі садавод А. Янсан, які наведаў Расійскую імперыю ў канцы XIX стагоддзя, сцвярджаў, што, калі ў Мінскай і Магілёўскай губернях здымалі яблыкі — цэны на іх зніжаліся па ўсёй Еўропе. Добрае геаграфічнае становішча дазваляла краю быць адным з галоўных пастаўшчыкоў яблык у расійскія сталіцы, асабліва ў Пецярбург. А калі пачынаўся сезон беларускіх паставак — рэзка падала патрэба ў заходніх.

**Садовы бум** здарыўся ў нас на мяжы XIX і XX стагоддзяў. У канцы XIX-га на Беларусі налічвалася 11,5 тысячы гектараў саду, а ў пачатку XX стагоддзя — ужо 20 тысяч (цяпер у 5 разоў больш). Пераважалі ў іх антонаўка, цітаўка, баравінка, штрыфель, белы наліў, валошка, пепінка літоўская (англійскі пепін), цукровы літоўскі, святаянскі (на Случчыне). У шляхецкіх сядзібах вырошчвалі і паўднёвыя сарты: бельфлёр жоўты, бойкен, штэцінка чырвоная, данцыгскі рабрысты, крансельскі празрысты, ранэт ландсбергскі.

**Калі ў Мінскай і Магілёўскай губернях здымалі яблыкі — цэны на іх зніжаліся па ўсёй Еўропе**

Адносная блізкасць да паўночнай сталіцы стымулявала прамысловае садоўніцтва нават у не вельмі, здавалася б, цёплых Полацкім, Лепельскім, Аршанскім паветах. Што датычыць паўднёвых Слуцкага, Мазырскага, Рэчыцкага, Магілёўскага, Гомельскага паветаў, дык іх лідарства ў вытворчасці таварных яблыкаў на мяжы XIX–XX стагоддзяў выглядае цалкам лагічным.

Развіццю ў Беларусі садоўніцтва, як і жывёлагадоўлі, даў моцны штуршок сусветны аграрны крызіс 1880-х, які зрабіў вытворчасць збожжа ў многіх рэгіёнах нерэнтабельнай. У выніку за чвэрць стагоддзя (1888–1913) плошча садоў у цэнтральнай і ўсходняй Беларусі павялічылася амаль удвая — з 11,5 тыс. га да 20 тыс. га. Пераважна гэта былі вялікія «панскія» сады. Сяляне таксама часта мелі некалькі пладовых дрэваў, але больш для ўласных патрэб. Уражвае і сталы рост паставак: у 1900–1902 гадах з беларускіх губерняў вывезлі 653 тысяч пудоў яблыкаў, а ў 1911–1913 — удвая болей. ▶

**Памолаг** — даследчык, які вывучае сарты пладовых і ягадных раслін (ад лац. *pomum* — «плод»).

Апроч расійскіх сталіц, як ні дзіўна, беларускія яблыкі актыўна вывозілі ў Варшаву і Лодзь, а таксама ва ўкраінскія Нікалаеў, Адэсу, Екацярынаслаў (сёння Дняпро) — хоць, здавалася б, куды нашым яблыкам да ўкраінскіх. Найбольш славілася прыдняпроўская антонаўка — з-пад Магілёва і Гомеля.

На пачатку XX стагоддзя памолаг Васіль Пашкевіч даследаваў распаўсюджанне сартоў яблыняў у Беларусі. Самымі папулярнымі на той момант былі антонаўка, цітаўка, баравінка, «штрыфель» (штрэйфлінг), белы наліў, валошка, суйслепскі, віргінскі ружовы, апорт, медунічка, серынка, арабка, пепін літоўскі — ён жа «глогераўка», — цукроўка літоўская, святаянскі, бабушкін. На поўдні Беларусі раслі таксама данцыгскі рабрысты, штэцінка чырвоная, бойкен, бельфлёр жоўты, крансельскі празрысты, ранэт ландсбергскі.

### Каштэля

Адзін з самых старых сартоў яблыкаў, здаўна папулярны і ў Беларусі. Гэта чыста дэсертныя яблыкі, якія не надта надаюцца на перапрацоўку. Вялікімі аматарамі каштэлі былі кароль Рэчы Паспалітай Ян Сабескі і ягоная жонка Марысенька, якія, паводле папулярнай у сучаснай Польшчы легенды, і далі новую назву сорту, які раней называўся вярбоўкай. Нібыта ў адзін год ураджай яблыкаў аказаўся настолькі малы, што ўражаны кароль выгукнуў: *«Kosz tylko?»* («Толькі адзін кош?») Прысутныя прыдворныя гэтае выказванне падхапілі і панеслі далей у народ. Так, маўляў, сорт і «перахрысцілі» — зразу ў *kosztylki*, а потым у *kosztelki*. Натуральна, сур'ёзна да падобнай легенды ставіцца наўрад ці выпадае.

Сорту ўласцівая пераменная ўраджайнасць, два гады запар ён ніколі не родзіць. З сучаснага пункту гледжання вялікім недахопам з'яўляецца і доўгі перыяд росту дрэў. Чакаць першага ўраджаю трэба 8–12 гадоў. У Беларусі сёння гэты сорт распаўсюджаны перадусім у Брэсцкай і Гомельскай абласцях, хоць нярэдка расце і ў іншых рэгіёнах. Каштэля дае салодкія, зялёныя, цвердаватыя яблыкі, якія адносна добра захоўваюцца і могуць даляжаць амаль да вясны, хоць часам пачынаюць гніць з сярэдзіны. Некалі яны былі ці не самым салодкім з масавых сартоў на нашым рынку, часам іх называлі яшчэ «польскі цукровы». Мая жонка, якая родам з Баранавічаў, памятае іх з дзяцінства як самыя смачныя яблыкі з тых, што раслі на падворку.

Большасць вядомых гатункаў — прадукт шматвяковай народнай селекцыі. Калі цяжка назваць раён узнікнення сорту, яго вызначаюць па ўскосных прыкметах: раёне і ступені распаўсюджання, даўнасці вырошчвання, назве. Так вызначылі, што антонаўка паходзіць з Цэнтральна-чарназёмнай паласы Расіі. **Беларусь і Літва, землі былога Вялікага Княства, — радзіма гатункаў баравінка, гарэцкая, каробаўка буйнаплодная, глогераўка, белы салодкі, серынка, белы наліў, цукровы літоўскі**.

Цікава, што ў Расіі каштэля зусім невядомая, і ў інтэрнэце лёгка знайсці гісторыі, як беларусы здзівілі яе смакам сваякоў або сяброў з-за ўсходняй мяжы.

### Пепін літоўскі, або Глогераўка

Гэты сорт сёння ў нас не такі папулярны, а вось ягоны нашчадак, беларускі сінап, выведзены ў 1929 годзе гібрыд глогераўкі і антонаўкі, афіцыйна лічыцца першым сортам уласна беларускай селекцыі. Вывелі яго муж і жонка Аляксей і Эма Сюбаравы, заснавальнікі селекцыйнай працы ў Беларускім НДІ бульбаводства, пладаводства і агародніцтва ў Самахвалавічах. Сорт атрымаўся ўдалы, устойлівы да пладовых хваробаў. Плады яго буйныя і смачныя, з вялікім утрыманнем пекціну. Гэта цвёрдыя кісла-салодкія яблыкі акругла-канічнай формы, зялёныя, з чырванню толькі з сонечнага боку.

«Хросным бацькам» глогераўкі быў Ян Глогер, бацька славутага польскага этнографа і гісторыка, аўтара «Старапольскай энцыклапедыі» Зыгмунта Глогера. У сваім маёнтку Ежава на Падляшшы ён вёў узорную гаспадарку, у тым ліку меў невялікі, але славуты далёка за межамі рэгіёна піўны бровар і выдатны сад.




**Глогераўка.** У Германіі яна была вядома пад назвамі Kleiner Steinpepping, Litauischer Pepping



**Беларускі сінап** лічыцца першым сортам навуковай беларускай селекцыі. Муж і жонка Аляксей і Эма Сюбаравы стварылі гэты гібрыд пепіна літоўскага і антонаўкі.

▶ Праўда, у 1890-х Зыгмунт Глогер адмаўляў, што менавіта ягоны бацька сам вывеў новы сорт. Нібыта ён адкрыў яго выпадкова, пакаштаваўшы ў адной з падляшскіх вёсак. У кожным разе, неаспрэчная заслуга Яна Глогера ў распазнанні патэнцыялу сорту і шырокім распаўсюджанні саджанцаў (гаспадар рассылаў іх сябрам і знаёмым). Сорт ад пачатку атрымаў шырокую вядомасць у Германіі, але ў першую чаргу — на Падляшшы і на Віленшчыне.

## Белы наліў

Адзін з самых вядомых сартоў шырокае распаўсюджанне атрымаў у канцы XIX стагоддзя. Яго размнажэннем і распаўсюдам займаўся садоўнік М. Вагнер, уладальнік саду пад Рыгай. У 1850–1860-я гады ён масава адпраўляў саджанцы ў Германію, Францыю і Англію. Хутчэй за ўсё, менавіта Вагнер быў аўтарам нямецкай назвы яблыка *Weisser Klarapfel*. Сёння гэта — адзін з найбольш распаўсюджаных у Паўночным паўшар'і яблычных сартоў.

Сучасная расійская назва, паводле якой ведаюць гэты яблык у нас, — не першая. Да рэвалюцыі яго называлі папяроўкай (бо спелы яблык белы, бы папера), а таксама аліўкай інфлянцкай. Інфлянты — гэта тэрыторыя сучасных Латвіі і Эстоніі, некалі землі Лівонскага ордэна, а пасля — супольнае валоданне Польшчы і ВКЛ. У часы Расійскай імперыі частка рэгіёна ўваходзіла ў Віцебскую губерню. Мясцовая шляхта нямецкага паходжання мела высокі ўзровень гаспадарчай культуры і аказвала прыкметны ўплыў на Літву і Беларусь.

## Цукроўка літоўская

Была шырока распаўсюджана на Віленшчыне, Ковеншчыне і Віцебшчыне на пачатку XX стагоддзя. Селекцыянер Уладзіслаў Смарджэўскі ў 1917-м пісаў пра вельмі старыя дрэвы гэтага сорту, узростам каля 80-ці гадоў. Славуты памолаг, прафесар Адам Грабніцкі-Дактаровіч, ураджэнец Ушаччыны, успамінаў, як малым хлопцам (у 1860-х) бачыў гэтыя яблыкі ў садзе свайго дзядзькі Антонія ў маёнтку Туросы (сучасны Ушацкі раён) — ледзь не адзінага таварнага саду на тэрыторыі Белай Русі на тыя часы. Магчыма, гэты сорт і выведзены на тэрыторыі Беларусі? І ці не гэтыя яблыні намаляваў Фердынанд Рушчыц на вядомай карціне «Старыя яблыні»? ◆



**Сорт Памяць Сікоры** названы ў гонар селекцыянера з Полаччыны Івана Сікоры, які вывеў 500 сартоў яблынь і 100 — ігруш. Сікора быў таксама актывістам нацыянальнага руху, а ягоны сын Віктар — арганізатарам незалежніцкага партызанскага атрада.

Фердынанд Рушчыц. **«Старыя яблыні».**

**Расказвае Зоя Казлоўская з Інстытута пладаводства ў Самахвалавічах.**

Старыя сарты: каштэлі, штрыфель, літоўская ранэта, шарая ранэта, малінаўка, глогераўка, пепінка — усё можна купіць у Інстытуце садаводства ў Самахвалавічах. «Мы размнажаем усё, у калекцыях больш за 1000 сартоў!» — з гонарам кажа доктар сельскагаспадарчых навук Зоя Казлоўская.

Зоя Аркадзеўна загадвае лабараторыяй генетычных рэсурсаў



# Дзе купіць шарыя ранэты

пладовых, арэхаплодных культур і вінаграду Інстытута пладаводства ў Самахвалавічах. Яна была апошняй аспіранткай легендарнай Эмы Сюбаравай (1897–1983), якая разам з мужам вывела 124 сарты пладовых культур, у тым ліку 24 яблыні, сярод іх страшна папулярныя ў нашай краіне Антэй, Бананавы, Беларускі малінавы.

Патрабаванні да сучасных сартоў высокія: яны маюць быць ураджайныя — не менш за 30 тон з гектара, рана пачынаць радзіць — ужо ў 3–4 гады, яблыкі маюць быць не дробныя — важыць не менш за 150 г і добра ляжаць.

*The last but not the least*, цяпер усе хочуць яблыкі з дэгустацыйнай адзнакай, не меншай за 4,5. Што такое дэгустацыйная адзнака, як яе вызначаюць? Гэта адзнака смаку. Збіраюцца 10 чалавек, спецыялісты памалагічнай камісіі з розных аддзелаў нашага інстытута, рэжуць адзін плод, другі — і ацэньваюць, расказвае спадарыня Зоя. Але і смак — яшчэ не ўсё. Рынак, фермеры цяпер хочуць сарты, устойлівыя да хвароб, шкоднікаў і замаразкаў.

Найбольш запатрабаваныя беларускія сарты апошняга часу: Алеся, Беларускі салодкі, Весяліна, Вербны, Дарунак, Імант, Надзейны, Лучазарны, Заслаўскі, Поспех, Сябрына, Памяць Каваленкі, Памяць Сюбаравай, Чараўніца, Антэй.

Хто дае новаму сорту імя? Чалавек, які кіруе яго стварэннем і знае пра яблыні Беларусі найбольш, — Зоя Казлоўская. «Іх усе назвала я!» — трохі разгублена кажа спадарыня Зоя ў адказ на наш пералік. Як нараджаюцца назвы? «Як у паэта вершы», — кажа даследчыца.

Дарунак — гасцінец для ўсіх тых, хто любіць яблыкі, Зорка — бо чырвоная афарбоўка і ў значэнні ўсяго добрага. Сорт Надзейны хацелі назваць Надзея, але аказалася, што ўжо ёсць такая капуста, прыйшлося мяняць.

Трэба сказаць, што большасць сартоў названыя па-беларуску.

У самой Зоі Аркадзеўны цудоўная беларуская мова, яна родам з самага сэрца Беларусі, яе вёска Крапачы знаходзіцца паміж Баранавічамі і Навагрудкам. Сваёй вёсцы Зоя Казлоўская прысвяціла новы сорт. «У нас у вёсачцы землі былі камяністыя, людзі вынослівыя, крэпкія, таму і называецца старажытным словам Крапачы. І сорт я назвала ў гонар вёсачкі — Крапач». Купіць Крапач пакуль няможна, яго адправілі на дзяржаўныя выпрабаванні, трэба пачакаць яшчэ гадоў 5 — пакуль здымуць тры ўраджаі. Раней і па 10 гадоў чакалі, кажа спадарыня Зоя. ◆

Як набыць саджанец, можна даведацца на сайце інстытута **belsad.by**.

Сарты, якія маюць гены імунітэту да паршы, лічацца самымі надзейнымі. З сучасных сартоў гэта Беларускі салодкі, Белана, Дарунак, Дыямент, Поспех, Надзейны, Нававіта, Сакавіта, Сябрына, Імант. Са старых — гэта антонаўка і штрыфель. Моцна шкодзіць парша ў садах, што стварaліся ў 80-я гады, дзе пераважаюць папулярныя тады гатункі Спартан, Аўксіс, Беларускі малінавы, Айдарэд, Лоба. Цяпер у Інстытуце пладаводства выводзяць сарты, якія здолеюць процістаяць ракавым захворванням кары і драўніны.

# Яблыні перажылі дыназаўраў,
## а першы беларускі гадавальнік закрылі пасля паўстання

**Цікавосткі з кнігі «Селекцыя яблыні ў Беларусі» Зоі Казлоўскай.**

● У свеце ад 10 да 20 тысяч сартоў яблынь. Агульная плошча яблыневых насаджэнняў — 5 млн гектараў, з іх 106 тысяч — у Беларусі. Лідар у вытворчасці яблык — Кітай, на другім месцы ЗША. Беларусь выглядае някепска, знаходзячыся на адным узроўні з Вялікабрытаніяй, Казахстанам, Азербайджанам — у нас збіраюць **300–800 тысяч тон** яблыкаў залежна ад года.

● Яблыні жывуць 30–80 гадоў, у залежнасці ад умоваў жыцця, асобныя 120–200 (дзікія **да 300 гадоў**).

● У прыродзе расліны роду яблыня (*Malus*) сустракаюцца **толькі ў Паўночным паўшар'і**. У Афрыку, Аўстралію, Паўднёвую Амерыку іхзавезлі еўрапейцы.

● Шукаць цэнтр паходжання большасці родаў лясной флоры Паўночнага паўшар'я трэба ва Усходняй Азіі. 12 тысяч гадоў таму, калі ледавік знішчыў усю расліннасць на нашых землях ды і па ўсёй Еўропе, новыя віды **прыйшлі з Азіі**, куды ледавік не дайшоў. Так на Беларусі з'явілася яблыня.

● Яблыні ўзніклі **ў мезазоі** 66 млн гадоў таму. Зямля перажыла катастрофу (прычыны яе пакуль да канца не ясныя), у выніку вымерлі дыназаўры, а яблыні — выжылі. Гэта былі высокія дрэвы, 20–25 метраў, з тоўстымі ствaламі (да 2 метраў дыяметрам) і напаўвечназялёнымі лістамі (ападзенне лісця адбывалася ў некалькі этапаў). Кветкі такой яблыні былі 3–5 см, плады таго ж памеру, а формай нагадвалі маленькую грушу, пладаножкі былі ў два разы даўжэйшыя за плод. Цяпер рэліктавыя віды ▶



ФОТА З САЙТА «ОДНОКЛАССНИКИ»

**Хто дае новаму сорту імя? «Іх усе назвала я!» — трохі разгублена кажа Зоя Казлоўская**




**Яблыкі на кафлі беларускіх майстроў у маскоўскім храме** Казьмы і Дзям'яна ў Замаскварэччы (не захавалася).
Падчас вайны 1654–1667 гадоў расійскі цар Аляксей Міхайлавіч захапіўся яркай кафляй беларускіх замкаў і сядзіб і загадаў перанесці вытворчасць у Маскву. На Беларусі такая кафля захавалася хіба ў музеях, затое ў Маскве неверагодна яркую паліву беларускіх майстроў можна ўбачыць, напрыклад, у храме Успення Багародзіцы на Ганчарах.

▶ яблынь можна сустрэць у Лаосе, на поўдні Кітая і Японіі і ў краінах Міжземнамор'я.

● Асноўны родапачынальнік дамашняй яблыні — яблыня Сіверса, якая расце ў Сярэдняй Азіі — Казахстане, Узбекістане — і добра пераносіць зіму. Яблыня Сіверса множыцца карнявымі атожылкамі. Прыкметы яблыні Сіверса можна знайсці ў штрэйфлінгу, скрыжапелі, баравінцы, анісах. З усіх яблынь, якія існуюць у прыродзе, менавіта яблыня Сіверса **генетычна самая блізкая да культурных сартоў**.

● Дзічка, або яблыня лясная, — адзіная дзікая яблыня, якая расце ў нашых мясцовасцях. Гэта не здзічэлыя хатнія яблыні, а асобны від, з чалавекам ніяк не звязаны. Высокая (да 14 метраў), з калючкамі, расце на любой глебе, жыве па 100 гадоў. Вытрымлівае маразы да мінус 35. Смак дзічак кіслы і аскомісты. Яблыня лясная дала пачатак антонаўцы, баравінцы, скрыжапелю. Старажытныя рымляне кіслыя і горкія яблыкі-дзічкі **выкарыстоўвалі як лекі**, калі чалавек непрытомнеў, пры расстройстве жывата і праблемах з нервовай сістэмай.

● Самым распаўсюджаным у Беларусі сортам у XX стагоддзі была **антонаўка**. Яна вылучаецца даўгавечнасцю: жыве 60 і нават 100 гадоў. У 1960-м годзе на Беларусі вырошчвалі больш за 20 сартоў: Антонаўку звычайную, Камянічку (яна больш лёжкая за звычайную), Белую (восеньскі сорт з кепскай лёжкасцю), Шэрую (іржавую) — шарахаватыя лёжкія плады былі выведзеныя ў памалагічным садзе Беларускай сельгасакадэміі, Шклянчатую (плады большыя за Антонаўку звычайную), Шасцісотграмовую (выведзена Іванам Мічурыным з Антонаўкі белай, вага маладых пладоў — да 600 г), Новую (атрыманая селекцыянерам Сямёнам Чарненкам у 1905 годзе ад апылення антонаўкі пылком сорту Бабушкін), Скараплодную, менш кіслую за іншыя антонаўкі, Шафранную, якая атрымалася ў Мічурына ад скрыжавання Антонаўкі звычайнай з Ранэтам арлеанскім.

● Яблыня-кітайка, высокае дрэва з маленькімі чырвонымі пладамі, у XX стагоддзі была адной з самых любімых у Мінску. Яе ведалі як **«райскія яблычкі», або райкі**. Кітайку цэняць за стойкасць да халадоў, устойлівасць да хвароб і ўраджайнасць. Назва невыпадковая: дрэва сапраўды паходзіць з Кітая, паўночнага і паўночна-заходняга. І да 1870 года гэта быў адзіны від яблыні, які ў Кітаі культывавалі. Лічыцца, што кітайка ўтварылася ад паўторнага перакрыжоўвання сібірскай (ягаднай) і лясной яблыні. Любімыя мінчукамі кітайкі, відаць, былі створаны Мічурыным ад скрыжоўвання кітайкі (або сліваліставай яблыні) з буйнаплоднымі сартамі — так утварыліся Пепін-кітайка, Пепін шафранны, Кітайка залатая ранняя, Кандзіль-кітайка, Барсдорф-кітайка, Бельфлёр-кітайка. (А з кітаек і вытворных ад сібірскай яблыні некалі ў старажытнасці ўтварыліся ранэткі.)

● **Модныя і сімпатычныя карлікавыя яблыні** паходзяць ад Яблыні туркменаў. Кампактная, вышынёй 3–5 метраў, але з буйнымі яблыкамі, Яблыня туркменаў расце ў горных цяснінах у басейне ракі Артэк.

● Плады з чырвонай мякаццю паходзяць ад дзікай яблыні Нядзвецкага. Гэта дрэва з **неймаверна яркімі ружовымі кветкамі** і пурпурным лісцем паходзіць з кітайскага Цянь-Шаня, але цяпер у дзікім выглядзе яе можна пабачыць хіба ў Казахстане.




Відаць, такія плады — дробныя, меншыя за грушы — раслі ў нас у XVII стагоддзі. Разьба іканастасаў увасабляла эдэм, райскі сад, таму майстры шырока выкарыстоўвалі выявы яблык, груш, граната і вінаграда. Гэтыя райскія яблыкі ў маскоўскім Данскім манастыры стварылі **беларускія разбяры Абросім Андрэевіч, Рыгор Аляксеевіч і Карп Іванавіч, якіх у 1650–1660-я гады вывезлі на работы ў Маскву** ў ліку соцень майстроў з Копысі, Шклова, Мсціслава, Полацка, Віцебска і Куцеінскага манастыра пад Оршай. На Беларусі тагачасная разьба захавалася ў Свята-Мікольскай царкве Магілёва.

● Адны з найбольш устойлівых да паршы і шкоднікаў, лёжкіх сартоў ствараюцца на аснове паўночнаамерыканскіх зялёных яблыкаў. Напрыклад, цяпер нашы селекцыянеры выкарыстоўваюць гібрыд антонаўкі і амерыканскага сорту Крэб Кола. Нізкарослыя аёўскія яблыні цаніў адзін з пачынальнікаў беларускай селекцыі Аляксей Сюбараў. Аёўская яблыня здаўна расце **ў басейне Місісіпі і Місуры**. Яе завезлі ў Еўропу ў канцы XIX стагоддзя.

● У розных рэгіёнах свету яблыню называюць па-свойму, значыць, чалавек ведаў гэту расліну са старажытнасці. Найстарэйшыя парэшткі яблыні знойдзены ў паселішчах узростам 10–15 тысяч гадоў. Першы датаваны факт спажывання яблык — у неалітычным пасяленні Чатал-Хююк у Турцыі (6 500 гадоў да н.э.). Відавочна, у той час сады стваралі так: высякаючы лес пад пашу, найлепшыя пладовыя дрэвы пакідалі некранутымі, а **маладыя дрэўцы пераносілі бліжэй да паселішча**. Яблыні сталі культываваць у III тысячагоддзі да н.э. на поўначы Ірана, Грузіі, Арменіі і Турцыі. Законы цара Хамурапі прызначалі штраф за псаванне садоў.

● Парадыз — па-персідску «закрыты сад». Праз грэчаскую мову слова дайшло да нас, яно абазначае «рай», а парадызкі — райскія яблынькі. Такія карлікавыя яблынькі ў кадках вельмі **любілі рэнесансныя прынцэсы**. Найлепшымі яблыкамі персы лічылі прывезеныя з Грузіі, імі частавалі на пірах. Спажывалі яблыкі ва ўсіх формах: сухія і свежыя змешвалі з гароднінай, мёдам, спецыямі, гранатавым сокам, тушылі яблыкі з мясам і бабамі.

● У Еўропе яблыні распаўсюдзіліся ў часы Рымскай імперыі. Еўрапейцы трапілі ў дзікія лясы Азіі, пракладаючы гандлёвыя шляхі ў Кітай. У I стагоддзі да н.э. землі Італіі сталі бязмежным садам, пісаў паэт Гарацый, і займелі



**Вожыкі збіраюць яблыкі.** Мініяцюра з сярэднявечнага рукапісу.

нават **багіню садоў — Памону**. Памас — «плод» па-грэчаску, адсюль і назва навукі пра плады — памалогія.

● У I стагоддзі рымляне ўжо мелі больш за 20 сартоў яблыні: Эпірскі, Сірыйскі чырвоны, Мядовы, Маленькі грэк, Армянскі, Умбрыйскі... Яшчэ ў старажытнасці яблыні сталі статуснай раслінай: вядома, што **яблыню ў сваім садзе пасадзіў фараон Рамзэс II**. У Сярэднявеччы яблыні культывавалі пры манастырах — такія лакальныя сімвалы раю. Закладваць сады ў наваствораных Полацкай і Тураўскай епархіях (X–XI стагоддзі) запрасілі манахаў з Грэцыі. Прыклад нашым землям у той час паказваў Кіеў сваім знакамітым яблыневым садам пры Кіева-Пячэрскім манастыры.

● Пра яблыні на землях неўраў (а значыць, недзе недалёка ад нас) **згадваў Герадот**. З часам сады сталі ствараца пры манастырах і княжацкіх рэзідэнцыях, побач са шляхецкімі палацамі. Саджанцы для іх прывозілі з-за мяжы (напрыклад, зімовы Залаты пармен, які вякамі культываваўся ў беларускіх садах, узнік у Англіі ў XIII стагоддзі). Простыя людзі доўга перасаджвалі ў свае сады дзічкі, а сартавыя яблыні здабывалі хіба пры нагодзе. Садаводства стала папулярным гадоў 200–250 таму, і найлепшыя садаводы жылі тады на Піншчыне.

● Першы гадавальнік на Беларусі адкрылі ў Горы-Горках у 1840 годзе. Саджанцы пастаўлялі з усёй імперыі — ад Рыгі да Пензы. Закрылі яго разам з сельгасакадэміяй **у 1863 годзе**, пасля таго як студэнты паўдзельнічалі ў паўстанні і нават на дзень захапілі ўладу ў горадзе.

● Захад Беларусі меў асаблівы бонус: прапагандыста садоў прафесара Уладзіміра Бяляева з Варшаўскай сельгасакадэміі. Ён **рассылаў саджанцы па школах** і арганізоўваў заняткі па доглядзе саду. Так на заходнебеларускіх землях распаўсюдзіліся сарты яблынь з Заходняй Еўропы.

● У 1940 годзе на душу насельніцтва БССР прыпадала ўсяго 45 кг яблык. Чаму так мала? У 1939 Сталін увёў падатак на прыватныя гаспадаркі. На велічыню ўплывала і колькасць фруктовых дрэў, таму **гаспадары многія свае яблыні проста павысякалі**. Пры гэтым 35 тысяч тон яблык штогод ішло на экспарт. ◆

**Падрыхтавала Паўліна Скурко**



**Збор яблык.** Сярэднявечны рукапіс.

# Яблычны сыр, яблычны інжыр, яблычная наліўка

**Праверанымі рэцэптамі дзеліцца шэф-кухар, аўтарка кулінарных кніг Алена Мікульчык.**

Для беларусаў яблыкі — садавіна і гародніна адначасова. Самы вядомы варыянт яблычнага смаку — салодкі, які выкарыстоўваецца ў дэсертных і мучных вырабах і ўсялякага роду варэннях. Але ў той жа час яблыкі могуць быць закускай (мочаныя яблыкі, яблычны сыр з соллю і кменам), часткай страў з бульбы (таркаванка з яблыкамі і разынкамі, пірагі бульбяныя з яблыкамі, клёцкі з яблычным начыннем, дранікі з яблыкамі), інгрэдыентам або дадаткам да рыбных страў (белая рыба з яблычным соусам), першых страў (боршч з яблыкамі, капуста з яблыкамі), страў з птушкі (гусь з яблыкамі).

Таксама з яблык гатуюць розныя напоі, як неалкагольныя — узвары, збітні, кампоты, квасы, так і алкагольныя і слабаалкагольныя — сідр, віно, наліўкі.

Ёсць у мяне ўлюбёныя стравы з яблык, вядома ж, старажытныя, рэдкія і незвычайна вытанчаныя. Гатаваць варэнні з яблык для мяне банальна (карона шэф-кухара перашкаджае), а вось зрабіць яблычны сыр, яблычную смокву ці яблычную наліўку — самы смак.



МІКУЛЬЧЫК АЛЕНА

Яблычны сыр.

### Яблычны сыр

Яблычны сыр можна пачынаць нарыхтоўваць яшчэ ўлетку, адразу пасля Яблычнага Спасу, але самы адпаведны час — гэта восень, асабліва калі паспявае антонаўка. Гэты сорт найлепш падыходзіць для яблычнага сыру, бо ў ім шмат пекціну.

Зрэшты, яблычны сыр можна згатаваць з любых яблык, у любы перыяд года. На шчасце, гэтая садавіна ёсць у крамах заўжды, розніца толькі ў тым, як доўга вы будзеце сыр варыць. З антонаўкі найхутчэй. Тэхналогія гэтай стравы простая, але патрабуе часу і цярпення.

На 5 кг яблык вам спатрэбіцца 100–150 грам цукру (можна і без цукру, калі яблыкі салодкія), 1 сталовая лыжка молатай карыцы, 150–200 грам грэцкіх арэхаў. Яблыкі разрэзаць на чатыры часткі, выдаліць насенную каробачку, парэзаць дробнымі кавалкамі. Засыпаць цукрам і пакінуць на ноч, каб выйшаў сок. Затым перасыпаць яблыкі ў каструлю з тоўстым дном і варыць, пастаянна памешваючы, 15–20 хвілін. Адкінуць ад масы 1/5 частку, а астатняе варыць далей на невялічкім агні, пакуль маса не стане аднароднай і не пачне аддзяляцца ад сценак рондаля.

Не забываем мяшаць!

У залежнасці ад сорту яблык вам на другі заход спатрэбіцца ад 20 хвілін да гадзіны. Затым усыпаць у яблычнае варыва карыцу, адкінутую 1/5 яблык і драблёныя грэцкія арэхі. Усё добра перамяшаць. На драўляную дошку пакласці адрэз бавоўнянай тканіны, якую папярэдне змачыць вадой і адціснуць. На тканіну выкласці яблычную масу. Разраўняць таўшчынёй у палец ці трошкі больш, сфарміраваць кола і накрыць другой часткай тканіны. Зверху паставіць гнёт, напрыклад каструлю з вадой.

Ёсць варыянты тоўстых яблычных сыроў, але мне больш даспадобы тонкія, бо высушыць іх можна на звычайнай кухні.

Праз 12 гадзін гнёт трэба зняць, адхінуць тканіну, накрыць сыр пергаментнай паперай і сухой драўлянай дошкай, перавярнуць усё, зняць другую частку тканіны. Так сыр будзе сушыцца. Кожны дзень трэба пераварочваць яго з боку на бок, пакідаючы верх адкрытым.

Вільготную паперу, якую вымаеце з-пад сыру, не выкідайце (мы ж беларусы, нічога ніколі не выкідаем) — няхай падсыхае да наступнага дня.

Праз 7–10 дзён сыр стане шчыльным і пругкім. Можна зняць першую пробу. У маёй сям'і гэта небяспечны момант: калі не дагледзіш, то тут жа і з'ядуць, бо любяць яблычны сыр больш за ўсё на свеце. Толькі свойская паляндвіца можа паспрачацца з сырам за першынство.

Захоўваць яблычны сыр можна да шасці месяцаў (у мяне ніколі не выходзіла, з'ядалі хутчэй).

Традыцыйна яго падавалі на Раство і Новы год.

Яблычны сыр можна згатаваць і з дадаваннем солі і кмену: тэхналогія тая ж, але замест цукру трэба дадаць трошкі солі, а пры канцы варкі кмен. У такім выглядзе сыр будзе добрай закускай ці гарнірам да мясных страў.

### Яблычная смоква

Пакуль сохне сыр, можна паласавацца яблычнай смоквай, якая больш простая ў гатаванні.

Раней такая слодыч была вельмі папулярнай з прычыны даступнасці. У канцы XIX стагоддзя скрутак смоквы можна было набыць за капейчыну, калі за аднафунтовую скрыначку пасцілы (400 г) прасілі 25 капеек, у той час як курыца ацэньвалася ў 1 рубель.

Смокву рабілі не толькі з яблык, вядомыя рэцэпты з арабіны і сліў, у якіх таксама ёсць пекцін. Гэты дэсерт не што іншае, як народны і просты варыянт дарагога ласунку – інжыру. Інжыр прывозілі здалёк, дазволіць яго сабе мог не кожны, таму ў нейкі момант людзі пачалі рабіць свае варыянты з даступных інгрэдыентаў. Хатняя смоква атрымалася нечым сярэднім паміж пасцілой і мармеладам.

Існуюць два асноўныя метады гатавання смоквы. Першы: уварыць пюрэ з садавіны з цукрам, выкласці тонка на пергаментную паперу, дасушыць у духоўцы, нарэзаць палоскамі і скачаць у трубачку. Другі: з уваранай масы зрабіць рукамі шарыкі і падсушыць іх на вольным паветры. Мне даспадобы другі варыянт.

Для яблычнай смоквы вам спатрэбіцца каля 1 кг яблык, 100–120 грам цукру, 30–50 грам цукровай пудры.

Яблыкі абабраць ад скуркі, выдаліць насенне і зрабіць пюрэ. Гэта пюрэ трэба ўварыць без дадавання вады наколькі магчыма. Прыкмета гатовасці — яно не павінна прыліпаць да сценак каструлі.

Наступны этап — дадаванне цукру (яго трэба па аб'ёме столькі ж, колькі ёсць уваранага пюрэ). Ізноў варым на маленькім агні, пастаянна памешваючы драўлянай лыжкай да таго часу, пакуль маса не пачне сама адставаць ад сценак посуду. Увесь працэс зойме прыкладна 40–50 хвілін. Затым яшчэ цёплую масу рукамі скруціць у невялікія шарыкі, якія абкачаць у цукровай пудры. Смокве даць падсохнуць на працягу сутак — і можна падаваць гэты старадаўні дэсерт.



ТАЦЦЯНА КАРМАНОВА

**Яблычная смоква.**

### Наліўка

І трэцяя мая ўлюбёная страва з яблык — гэта наліўка. Таксама з яблык можна зрабіць сідр і яблычнае віно, але сідр у хатніх умовах якасным не выйдзе і тэхналогія вельмі складаная, а віно часта бывае кіслае і нясмачнае. Лепш за ўсё з яблык робіцца воцат! Стараешся, стараешся, розныя рэцэпты знаходзіш, чакаеш добры напой, але ўсё роўна выходзіць воцат. Але ёсць у мяне варыянт бяспройгрышны і правераны. Наліўку трэба ставіць не на свежых яблыках, а на сухіх.

Дарэчы, у нашых продкаў быў звычай не проста піць гарэлку, а ставіць на яе аснове напоі з дадаваннем карэньчыкаў, духмяных траў, спецый, садавіны і ягад. Кожны інгрэдыент надаваў напою асаблівыя ўласцівасці, напрыклад, знакамітую хранавуху і ядловец рэкамендавалі як сродак прафілактыкі прастудных захворванняў, а лікёр на аснове глогу супакойвае нервы і спрыяе добраму сну. Але памятайце: трэба ведаць меру! Калі і пілі нашы продкі, то маленькімі чарачкамі — кілішкамі. Хто думае спрачацца наконт гэтага, то адразу скажу: як балявала шляхта — не лічыцца. Мера і толькі мера!

Але ж вернемся да яблык і наліўкі пад назвай «яблычнік».

На трохлітровы слоік вазьміце дзве-тры добрыя жмені сухіх яблык, заліце гарэлкай і дайце настаяцца ў цёмным месцы не больш чым два тыдні. Затым напой працадзіць, яблыкі выкінуць, а ў вадкасць дадаць мёд ці цукар. Колькі? Ды на смак. Усё залежыць ад сорту яблык і вашага густу. Калі напой для вас вельмі моцны, то можна дадаць кіпячонай вады, але не больш чым 1/4 ад аб'ёму, бо інакш будзе брадзіць і сапсуе ўвесь смак. А навошта вам воцат?

Яблычнік дапамагае працы страўніка, але памятаем, што ўжываць яго трэба, як лекі, маленькімі кілішкамі. І будзьце здаровыя! ◆

# *Старажытнейшая за ўсе цывілізацыі:* ГІСТОРЫЯ СОЛІ


**Саляныя гроты** ў Вялічцы пад Кракавам.

Каб не яна, чалавечы род доўга б не працягнуў: дэфіцыт солі ў арганізме выклікае спазмы, псуе нервовую сістэму, без солі не ўтвараецца страўнікавы сок...

Нашы дзікія продкі харчаваліся сырым мясам з крывёй і гора не зналі: сырое мяса ўтрымлівае соль. Але як толькі старажытны чалавек навучыўся гатаваць, палюбіў садавіну і гародніну, кашу ды хлеб, варанае і смажанае — прыйшлося шукаць соль дадаткова, бо падчас гатоўкі яна з мяса выварваецца. А займеўшы траваедных свойскіх гадаванцаў — свіней, коз, кароў, — давялося забяспечваць соллю і іх.

Хто жыў каля мора ці салёнага возера, навучыўся выпарваць соль з вады. А астатнія? Нейкі час старажытны чалавек атрымліваў соль, запякаючы ўпаляваную жывёлу разам з поўсцю. Са спаленых поўсці, травы, трыснягу навучыліся здабываць паташ — соль калію і вугальнай кіслаты. Попел кідалі ў ваду і ставілі на агонь. Калі вада выкіпала, на дне заставалася трошкі солі. Сёння паташ (карбанат калію) зарэгістраваны як харчовы дадатак.

Першай пісьмовай згадцы пра соль чатыры тысячы гадоў. «Усё мяса, якое маеш, разрэж і змясці ў соль» — строга пісала шумерская гаспадыня да слугі. Магчыма, нервавалася, што ў суседзяў усе прыпасы даўно гатовыя — вялізныя склады салёнай рыбы, качак, перапёлак археолагі знаходзяць між Тыграм і Еўфратам дагэтуль. Саленне прадуктаў тысячагоддзямі было самым простым спосабам кансервацыі.

На аснове солі рабілі і першыя соусы, якія дадавалі ў ежу. Іх таксама прыдумаў невядомы геній кулінарыі на тэрыторыі сучасных Ірака і Сірыі. Напрыклад, гэты старажытны кухар вынайшаў соевы соус, які мы цяпер набываем да сушы і пельменяў.


**Сальнічка са Старажытнай Грэцыі.** Афіны, V стагоддзе да н.э.

### Лекі і магія

Соль — не толькі неабходны арганізму элемент, цудоўны кансервант, адна з першых у свеце прыпраў. Гэта яшчэ і лекі. Найстарэйшы ў свеце медыцынскі трактат (Шумер, канец III тысячагоддзя да нашай эры) згадвае соль у трох рэцэптах. Яна і ў складзе мазі для зажыўлення ран (разам з тоўчаным чарапахавым панцырам, гарчыцай і півам), і ў процізапаленчым парашку, і як сродак ад зубнога болю (драбок солі + правільны заклён — вось і ўся стаматалогія).

Тое самае практыкавалі і ў нашых шыротах, толькі заклёны былі свае. Вясковыя шаптухі загаворвалі соль, напрыклад, ад спалоху. Або ад нешчаслівага кахання (лічылася, што «прысушыць» да сябе чалавека можна, абнёсшы яго соллю).

Лечымся мы соллю дагэтуль: падчас прастуды награваем яе ў духоўцы, высыпаем у палатняны мяшэчак і грэем пераноссе.

### Абярэг

Соль з даўніх часоў асвячаюць у царкве перад Вялікаднем, у Чысты чацвер. Чацвярговая соль для нашых продкаў была найлепшым абярэгам. Яе сплёўвалі на парог, каб у хаце не паміралі дзеці. Яе збіралі ў анучку і падвязвалі маладой, каб засцерагчы ад чараў (пазней на змену солі прыйшлі зашпілька і чырвоная нітка). А калі баяліся ліхога погляду, то проста прыгаворвалі: «Соль табе ў вочы».

«Маці схапіла сальнічку, завязала ў хусцінку — і мы пабеглі», — успамінае жанчына, чыя сям'я хавалася ў лесе ў час нацысцкай акупацыі. І ў ХХ стагоддзі ў трагічны час спрацавалі старажытныя механізмы: соль была і неабходнасцю, і берагіняй.

### Хто гэта — соль зямлі?

Мы пастаянна ўжываем выразы «соль жыцця», «соль зямлі». Яны прыйшлі ў культуру з Бібліі. У Старым Запавеце соль аберагае і падтрымлівае жыццё, усё, што прысыпаюць соллю, не псуецца і не гніе. Немаўлят пасля нараджэння абціралі соллю. А прарок Елісей, кінуўшы драбок солі ў крыніцу ля Ерыхона, ачысціў ваду, якая раней несла неўраджаі і смерць. Адсюль і «соль жыцця» (дарэчы, магчыма, таму памінальная ежа традыцыйна несалоная).

Як соль аберагае ежу ад псавання, так і апосталы аберагаюць свет ад грахоў. «Соль зямлі» — гэта ўжо з Новага Запавету, так называў апосталаў Хрыстос.

А Кніга Мудрасці Ісуса, сына Сірахава называе соль у ліку дзесяці рэчаў, неабходных чалавеку (апроч яе — вада, агонь, жалеза, мука, мёд, малако, вінаградны сок, алей і адзенне).

Лацінскія словы, якія абазначаюць дабро (*salus*) і здароўе (*salubritas*), паходзяць ад лацінскага *sal* — «соль». Ад гэтага ж слова даследчыкі выводзяць і англійскае *salary* — «заробак»: соллю калі-нікалі плацілі за службу рымскім салдатам. А тыя кавалкамі солі разлічваліся за пакупкі.

### Салёны кітайскі гарбуз

На процілеглым баку свету, у Старажытным Кітаі, соль таксама трапіла ў пералік базавых для жыцця рэчаў, разам з соевым соусам, воцатам, рысам, алеем, дровамі і чаем. А адной з самых урачыстых кітайскіх страў, якую яшчэ ў I тысячагоддзі да н. э. падавалі гасцям і духам продкаў, быў "з густым пахам салёны гарбуз".

Соль трымала пазіцыі найпапулярнейшай прыправы аж да Сярэднявечча, калі саступіла перцу, шафрану, карыцы, кардамону...

Яна патаннела, але яшчэ доўга заставалася сімвалам заможнасці, нават

раскошы. Згадаем легенду пра тое, як Караль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку, захацеўшы летам праехацца на санках, засыпаў дарогу да Нясвіжа соллю.

### Соль у ВКЛ: з Крыма, Люнебурга і Францыі

Адкуль бралі соль нашы продкі? Сляды салянога гандлю маем нават на небе. Даследчык Цімафей Авілін піша, што ў Беларусі сустракаецца ўкраінская назва Млечнага Шляху — Чумацкая Дарога. Чумакі — гэта гандляры соллю, якія ў XV–XIX стагоддзях ездзілі па яе да Чорнага мора. Арыентаваліся па Млечным Шляху, адсюль, відаць, і назва. Чумакі трапілі і ў народную творчасць:

— Ты чумача, чумача,
Жыццё тваё лядача:
Ты не косіш, не арэш,
Чаго рана з Крыма йдзеш,
Усіх таварышаў вядзеш?
— Вяду, вяду, да не ўсіх,
Толькі нету аднаго,
Братца майго родненькага,
Самага большанькага.
Ён застаўся ў Крыму:
Прабіла соль галаву;
Не соль прабіла — вясы,
Клаўшы соль на вазы.

Калі на поўдзень беларускіх земляў соль трапляла з Украіны, дык у паўночныя рэгіёны — з Балтыкі. Соль і селядцы — асноўныя тавары, што праходзілі ў XVII стагоддзі праз полацкую мытню, выявіў Юрый Бохан. У Рэчы Паспалітай былі і свае радовішчы солі (напрыклад, у Вялічцы каля Кракава), але на ўсю дзяржаву гэтай солі не хапала.

У Сярэднявеччы ўвесь балтыйскі рэгіён забяспечваў соллю нямецкі горад Люнебург. Проста пад ім залягае магутнае радовішча солі, якая выходзіць на паверхню з вадой. Знайшлі яго, згодна з легендай, калі паляўнічы забіў непадалёк дзіка і пабачыў, што ў таго ўся скура ў солі — дзік купаўся ў салёнай крыніцы. У сярэднявечным Люнебургу было дзвесце саляварняў, у якіх выпарвалі соль. На той солездабычы трымалася магутнасць Ганзы — знакамітага гандлёвага саюза.

### Смак дэвону

Самаму старому солездабыўнаму прадпрыемству свету, знойдзенаму ў Кітаі каля возера Юньчэн, 6–7 тысяч гадоў. Найстарэйшаму ў Еўропе

### Зальцбург і Саламір’е

У Еўропе засталіся «саляныя» дарогі (Вія Салярыя з Рыма да ўзбярэжжа Адрыятыкі), гарады — Зальцбург, Гальштат, Норыдж («зальц» — гэта соль па-нямецку, «галь» — па-старажытнанямецку, у англійскіх назвах на месцы солездабычы і гандлю ўказвае фіналь «-ыдж»). Ёсць «саляныя» вёскі і ў Беларусі: Салонікі і Саламір'е на Полаччыне, Саланое на Гомельшчыне, Саланая на Валожыншчыне, ажно двое Саленікаў і Баля Сольная на Гродзеншчыне. Такія назвы сведчаць, што тут жылі гандляры соллю або ішоў гандлёвы шлях. Можна ўспомніць і Друскенікі ў Воранаўскім раёне: *druska* па-літоўску — соль.

саляному «заводу» пры салёнай крыніцы вёскі Правадзія-Салніцата на тэрыторыі сучаснай Балгарыі 5500 гадоў.

Беларуская солездабыча ў параўнанні з кітайскай ці балгарскай зусім маладая, бо наша соль схаваная нашмат глыбей. 50 гадоў таму на Мазыршчыне, пасля пяці гадоў разведак, пачалі будаваць «Мазырсоль». У Беларусі няма салёных азёр і крыніц, але некалі было вялізнае мора. Яно высахла, а соль засталася. Цяпер яе дастаюць з глыбіні 1200 метраў: распускаюць саляныя глыбы ў вадзе, выпампоўваюць расол наверх, а затым выпарваюць з яго соль.

Саляныя паклады ўтварыліся ў Прыпяцкай упадзіне 400–420 мільёнаў гадоў таму, у дэвонскую эпоху. Што гэта быў за час? На Зямлі з'явіліся хвашчы і папараці, іх адразу ж сталі заплятаць павуціннай першыя павучкі. Земнаводныя наважыліся зрабіць крок на сушу, а ў морах і рэках развялася надзвычайная колькасць каляровых рыб.

Ацаніць гэту прыгажосць яшчэ не было каму: да з'яўлення першых гамінідаў (сямейства прыматаў, да якога адносіцца і чалавек) заставалася 390 мільёнаў гадоў. Але цяпер мы можам пакаштаваць на смак 400-мільённую гісторыю нашай планеты. Сведка ўсіх цудаў — у нашай сальнічцы. ◆

**Паўліна Скурко**



**Сальера** (ад італьянскага saliera — «сальнічка») — залатая настольная статуэтка, створаная для французскага караля Францыска I фларэнційскім залатаром Бенвенута Чэліні ў 1543 годзе. Шэдэўр дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў стылі маньерызму.
Чэліні стварыў сальнічку як алегорыю саюзу зямлі і мора, дзякуючы якому і нараджаецца соль. Зямлю сімвалізуе рымская багіня ўраджаю Цыцэра, мора — бог Няптун, якога нясуць марскія коні. Сама сальнічка зроблена ў форме карабля для перавозкі солі.
Вышыня — 26 см, шырыня — 33,5 см. Аснова зроблена са слановай косці, п'едэстал — з эбенавага дрэва. Сальніца перамяшчаецца на драўляных колцах.
У 2003 годзе Сальеру выкралі з Музея гісторыі мастацтваў у Вене падчас рамонту. Яна ацэньвалася ў 50 млн еўра, але за вяртанне ўрад прапанаваў усяго 70 тысяч еўра — быў упэўнены, што збыць такі вядомы твор выкрадальнік не зможа. Разлік апраўдаўся: праз тры гады сальніцу знайшлі ў лесе, закапаную ў свінцовай скрыні.

# ЯСІНСКІЯ, ЛУЦКЕВІЧЫ,

# І ЎСЕ Н

# ТАТА

**Пакуль уся Еўропа змагалася з сарацынамі і граміла яўрэяў, продкі сучасных беларусаў інтэгравалі гэтыя групы перасяленцаў у сваю супольнасць**



**Пра беларускіх татар, унікальны народ, пішуць доктар палітычных навук Сяргей Богдан і кандыдат гістарычных навук Анжаліка Пабеданосцава Кая.**

У Сярэднявеччы беларускія ўладары плылі супраць агульнаеўрапейскай плыні. Пакуль уся Еўропа змагалася з сарацынамі і граміла яўрэяў, Вітаўт Вялікі, амаль як Ангела Меркель сёння, прымаў гэтых уцекачоў з распасцёртымі абдымкамі.

Гісторыя татарскай мусульманскай грамады Беларусі пачынаецца ў XIV стагоддзі. Прысутнасць усходніх вавароў, праўдападобна цюркаў, засведчана яшчэ ў войску вялікага князя Гедыміна. Змяшаныя напаўпаганскія-напаўхрысціянскія перакананні гэтага ды іншых вялікіх князёў, найперш Кейстута ды Альгерда, спрыялі прыязнаму стаўленню да ўсходніх вавароў, многія

…, АЛЕКСАНДРОВІЧЫ

# …АШЫ …АРЫ



Мячэць у Іўі.

WIKIMEDIA COMMONS, FUTUREAL

На пачатак XX стагоддзя колькасць беларуска-літоўскіх татараў склала каля дзесяці тысяч чалавек і на сёння прыблізна такой і застаецца. У старадаўні час гэтая грамада была ў разы большай. Першы даследчык нашых татараў, пецярбургскі прафесар Антоні Мухлінскі (1808–1877), ацэньваў іх максімальную колькасць у ВКЛ у 20–25 тысяч чалавек.

з якіх таксама былі мусульманамі толькі ўмоўна.

Культурны ўплыў Залатой Арды на Вялікае Княства Літоўскае быў, вядома, не такі, як на Маскоўскае княства, але таксама немалы. Нават на ранніх манетах ВКЛ, бітых пры канцы XIV стагоддзя, даследчыкі адзначаюць уплывы залатаардынскай традыцыі.

Вялікія князі, уключна з Вітаўтам, аж да пачатку XV стагоддзя актыўна ўдзельнічалі ў залатаардынскай палітыцы. Адзін з самых уплывовых князёў Арды, Тахтамыш, пасля таго як прайграў у барацьбе за ўладу Цімуру (Тамерлану), уцёк у ВКЛ з вялікай колькасцю сваіх прыхільнікаў.

Татары былі карысныя Вялікаму Княству, бо ўмелі карыстацца вяроўкамі-арканамі і прымянялі іх супраць крыжакоў, сцягваючы тых з сядла. Скінутыя на зямлю рыцары ў сваіх цяжкіх латах былі бяссільныя.

Удзел татараў на чале з сынам Тахтамыша, Джалаладдзінам, на баку ВКЛ у Грунвальдскай бітве быў адзначаны ўсімі летапісамі таго часу.

### «Мы не татары, але шляхта-мусульмане»

Паходжанне так званых беларуска-літоўскіх татар куды складанейшае, чым гэта вынікае з назвы. У 1905 годзе слынны лідскі краязнаўца Міхал Шымялевіч зрабіў маштабнае палявое даследаванне па ўсёй паўночна-ўсходняй Беларусі і выявіў, што некаторыя з татар нават адмаўляюцца зваца «татарамі». «Мы не татары, але шляхта-мусульмане, а татарамі нас завуць толькі сяляне», — сцвярджалі яны.

Гэта і не дзіва, бо сама гэтая супольнасць паўстала са шматлікіх і разнародных плыняў імігрантаў, што перамешваліся з мясцовым славянскім і балцкім насельніцтвам, з якога і паўстаў у будучыні беларускі народ. Імігранты былі прадстаўнікамі розных усходніх народаў і плямён, збольшага цюркскіх.

Імігранты вельмі хутка пераймалі мясцовую мову. Нешматлікія цюркскія тэксты, якія засталіся ад продкаў беларуска-літоўскіх татараў, перанятыя з Асманскай імперыі. ▶



Беларуская татарка **Разалія Александровіч**, 10 клас, Наваградак.

### Татарскі баль

У заходняй Беларусі да 1980-х гадоў захоўвалася такая з'ява, як татарскі баль. Моладзь з'язджалася, браты супраўваджалі сясцёр. На такіх балях і знаёміліся маладыя прадстаўнікі татарскіх родаў, пазней з гэтых знаёмстваў утвараліся сем'і.

«На балі ўпершыню сустрэліся і мае бацькі, — расказвае Разалія Александровіч. — Звычайна пад баль здымалі вялікую хату ў некага з мясцовых жыхароў (не абавязкова татараў). Збіраліся хлопцы і дзяўчаты з усіх татарскіх мястэчак: з Міра, Клецка, Слоніма, Іўя, Наваградка. Баль працягваўся некалькі дзён. Тыя, хто здалёк, заставаліся начаваць у сваякоў ці знаёмых. На балі запрашалі і немусульман — сяброў, суседзяў. Старэйшыя, як больш мудрыя, хацелі захаваць свой народ. Але я была маладая, мне здавалася гэта ў пэўнай ступені штучным, таму я на балі не ездзіла. А сабралася на падобны баль толькі аднойчы, у Вільню ўвосень 1982 года. У мяне захаваліся здымкі двух выдатных хлопцаў-«жаніхоў», якія прыйшлі назаўтра ў дом маіх сваякоў, каб працягнуць нашае знаёмства. На той час маё сэрца належала майму будучаму мужу, але шчымлівыя ўспаміны пра тыя падзеі засталіся… Цяпер я ўжо сама займаю пазіцыю захавальніцы — і нават не роду, а свайго вельмі нешматлікага народа, існаванне якога на маіх вачах паступова становіцца амаль міфічным».

Цікава, што Разалія Александровіч выйшла замуж за грамадзяніна Рэспублікі Чад. Яе дачка вучылася ў беларускім класе, скончыла Акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «мастацтвазнаўства».

І больш мы нічога пра іх мовы не ведаем (апроч цьмяных успамінаў, што некаторыя з продкаў гаварылі на нейкіх усходніх гаворках).

Праўда, ужо ў 1990-я часопіс беларускіх татараў «Байрам» друкаваў даўжэзныя спісы крымскататарскіх слоў для завучвання і, так бы мовіць, вяртання мовы, але гістарычна абгрунтаваць такое адраджэнне складана.

Пра разнароднае паходжанне літоўскіх татараў сведчыць і адсутнасць характэрных для іншых татараў звычаяў. Джаміль Александровіч прызнаваў: «Спажыванне каніны і кумысу, мусіць, даўно звялося са звычаяў літоўскіх татараў, прынамсі, цяпер яны засвоілі шарыяцкі погляд на конскае мяса як на “макрух”, г.зн. ежу, дазволеную толькі ў крайняй патрэбе».

З усіх канфесійных супольнасцяў беларускага народа толькі татары прыдумалі і выкарыстоўвалі свой алфавіт з арыгінальнымі літарамі для перадачы адметных гукаў беларускай мовы, а менавіта [ц] і [дз]. У 1920-х Джаміль Александровіч, не схільны да беларушчыны панцюркісцкі актывіст (ён нават узяў сабе «аўтэнтычнейшае» прозвішча Насыфі), прызнаваў: «Штодзённай мовай для літоўскіх татар з'яўляецца беларуская, дакладней украінска-беларуская. Цюркскіх слоў ацалела вобмаль: душман (вораг), гяур(ын) (няверны), чыфут (яўрэй), яссык = ястык (падушка), вушак = касяк дзвярэй [гэтае слова ўвайшло і ў беларускую літаратурную мову], а таксама атурэчаныя арабскія і персідскія словы».

Ёсць і яшчэ адна цікавая дэталь, датычная сувязі паміж беларуска-літоўскімі татарамі і беларусамі: беларуска-літоўскія татары жывуць толькі на абшарах, што з этнаграфічнага пункту гледжання належаць да арэалу рассялення беларусаў. Нешматлікія паселішчы, якія існавалі на ўкраінскай Валыні, зніклі яшчэ ў XIX стагоддзі.

### Калі палалі мячэці

Пакуль татарская супольнасць была шматлікай, а ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай пераважала рэлігійная і культурная талерантнасць, мусульманская культура плённа развівалася. Па ўсёй Беларусі будаваліся дзясяткі мячэцяў, ствараліся мноства рукапісных кніг. Большая частка Карана, а мусіць, і ўвесь ён, была перакладзена на старабеларускую мову. Татарская мусульманская культура вызначалася большай адкрытасцю і знітаванасцю з іншымі канфесійнымі і культурнымі супольнасцямі нашага краю. Нядаўна даследаваны Міхаілам Тарэлкам і Ірынай Сынковай зборнік тэкстаў беларуска-літоўскіх татар XVII стагоддзя пад умоўнай назвай «Адкуль пайшлі ідалы...», на думку навукоўцаў, «прасякнуты духоўнай атмасферай еўрапейскага Рэнесансу і Рэфармацыі». Сапраўды, невядомыя мусульманскія аўтары зборніка цытуюць хрысціянскую палеміку таго часу і пераклады Сымона Буднага.

Распачатая неўзабаве паланізацыя і рост уплыву Каталіцкай царквы ўдарылі не толькі па праваслаўных беларусах, але і па нашых суайчынніках-мусульманах. Дайшло




ФОТА РАЗАЛІІ АЛЕКСАНДРОВІЧ

Мугір — прыгожа афармленая цытата з Карана, якую ў татарскіх сем'ях вешаюць, як хрысціяне — іконы. Дадзены мугір вырабіў майстар Раеўскі з Мінска. **Цікава, што ён не меў пальцаў на руцэ.**

### Як я зразумела, што я татарка

— Гэта было яшчэ да школы. У хаце маёй вясковай сяброўкі ў чырвоным куце вісела некалькі ікон, ахінутых вышыванымі ручнікамі. Я параўнала: у пакоі маёй бабулі на сцяне ёсць адна, але без выявы чалавека, хоць таксама ззяе. **Гэта наш мугір — цытата з Карана (на фота)**. Быў ён аформлены на беларускі манер. Гэта такое маляванне па шкле фарбай: арабскай вяззю выконваецца малюнак са слоў, а вакол яго — з кветак, пад шкло падкладаецца фальга і ўсё афармляецца ў рамку. Калі я пайшла ў школу, нас запыталі, хто мы па нацыянальнасці. Я ўжо тады разумела, што я татарка, але адказала толькі: «Я не беларуска» — і не ўдакладняла. Хоць па іроніі лёсу школа месцілася на Інтэрнацыянальнай вуліцы, перайменаванай за некалькі гадоў да майго нараджэння з Татарскай. Калі прыйшоў час атрымліваць пашпарт — гэта было ў СССР, калі ў пашпарце існавала асобная графа, — хоць мела выбар (маме ў сельсавеце нацыянальнасць пазначылі як беларуска, і гэта перайшло мне ў пасведчанне аб нараджэнні), я без ваганняў запісала: татарка, — расказвае Разалія Александровіч.




**Генерал Гасан Канапацкі** ў 1919 годзе быў прызначаны камандзірам беларускіх вайсковых частак. На фота — з жонкай і дачкой.



**Галівудскі акцёр Чарльз Бронсан** меў у жылах частку татарскай крыві. Па бацьку ён быў **Бучынскі**.




**Ібрагім Канапацкі** (1949–2005) адыграў выключную ролю ў адраджэнні татарскіх традыцый.



**Сцяг беларускіх татараў.**

да таго, што ў 1609 годзе фанатыкі спалілі ў Троках мячэць, а таксама пратэстанцкі храм ды сінагогу. Пераслед то ўзмацняўся, то слабеў. Нейкі час мусульманам не дазвалялі нават рамантаваць мячэці і жаніцца з хрысціянкамі. Да канца Рэчы Паспалітай мусульмане, як і ўсе некаталікі, былі абмежаваныя ў грамадзянскіх правах.

У 1860-х многія літоўскія татары, як і многія мусульмане еўрапейскай часткі Расійскай імперыі, як то чаркесы ці крымскія татары, выехалі ў Асманскую імперыю. Праўда, як і варта было чакаць, пасля яны вярталіся і адгаворвалі ехаць туды іншых. Бо супольнага з туркамі, нягледзячы на намінальную ▶

**Татары пакінулі след і ў тапаніміцы** мясцовасцяў, дзе яны здаўна жылі. Ад татарскіх слоў і ўласных імён паходзяць назвы многіх паселішчаў Беларусі: **Апчак** каля Мінска, **Арда** ў Клецкім раёне, **Агдэмер** у Драгічынскім раёне, **Койданава** (цяперашняя афіцыйная назва — Дзяржынск), **Мамаі** ў Глыбоцкім раёне, шмат **Татарак** і **Татаршчын** з **Уланаўшчынамі** ды **Уланамі** па ўсёй Беларусі, **Якшыцы** ў Бярэзінскім раёне і іншыя.
Яшчэ нядаўна мінчукі ведалі, што Татарскія Агароды — гэта раён на месцы Палаца спорту. На гэтых агародах дбайныя татары вырошчвалі найлепшыя ў Мінску цыбулю і агуркі. У тым раёне праходзіла вуліца Мала-Татарская (у савецкі час Калгасная). А Вялікай Татарскай да рэвалюцыі называлася сучасная Дзімітрава. Была ў Мінску і вуліца Замячэтная, сама мячэць стаяла на месцы гасцініцы «Юбілейная» да 1962 года. А першы драўляны мусульманскі храм у Мінску з'явіўся яшчэ ў канцы XVI стагоддзя, у 1599-м. У 2016-м на вуліцы Грыбаедава ўзвялі мячэць, якая выглядае гэтак сама, як узарваная ў 1962-м, праўда, у 4,5 разу большая за стары храм.



**Іван Луцкевіч** — беларускі інтэлектуал са шляхецкага роду, які меў татарскае паходжанне. Разам з братам Антонам стаяў ля вытокаў беларускага руху ў пачатку XX стагоддзя.

рэлігійную блізкасць з Турэччынай, было няшмат. Куды жвавей пайшла пазней эміграцыя на амерыканскі кантынент. У выніку культура татараў-мусульманаў Беларусі заняпала, мячэці амаль не будаваліся, кнігі толькі капіяваліся, змест іх не мяняўся і зводзіўся да простага пераказу рэлігійнага вучэння, паданняў ці карысных парадаў.

Але і нягледзячы на такое знякроўленне, татарская грамада зрабіла непрапарцыйна вялікі ўнёсак у развіццё беларускай нацыі. У XX стагоддзі адным з самых выбітных беларускіх літаратуразнаўцаў стаў Сцяпан Хусейнавіч Александровіч з Капыля, а палкоўнік расійскага імператарскага войска мінчук Гасан Амуратавіч Канапацкі вядомы тым, што ў 1919–1920-х гадах быў камандуючым беларускімі вайсковымі часткамі, якія ствараліся Беларускай вайсковай камісіяй у польскім войску. Супрацоўнічаў з беларускімі арганізацыямі Гасан Канапацкі і ў міжваеннай Польшчы, і больш за тое — перадаў прыхільнасць да беларушчыны і сыну Мацею. Татарскія карані мелі такія выбітныя персанажы беларускай гісторыі, як пераможца ў Клецкай бітве 1506 года (па іроніі лёсу, якраз над татарамі) Міхайла Глінскі, паплечнік Касцюшкі палкоўнік Якуб Ясінскі, мастак Напалеон Орда, паэт Максім Багдановіч, грамадска-палітычныя і культурныя дзеячы Іван і Антон Луцкевічы.

**Галоўная святыня беларускіх татар месціцца ў вёсцы Лоўчыцы на Навагрудчыне. Гэта магіла святога Кунтуся**

### Чароўныя палёты з Наваградчыны ў Мекку

Галоўным складнікам ідэнтычнасці для татараў быў іслам, дакладней яго суніцкае адгалінаванне. Жывучы ў далечыні ад цэнтраў ісламскага свету, яны ставіліся да веры неартадаксальна.

У вёсцы Лоўчыцы на Наваградчыне месціцца, бадай, галоўная святыня-прошча беларуска-літоўскіх татар. А менавіта магіла святога Кунтуся. Апошні быў мясцовым пастухом і, як казалі, мог імгненна лётаць з Лоўчыц у Мекку, каб прачытаць намаз у святым месце. Пра тое ніхто не ведаў, але аднойчы ён дапамог такім чароўным чынам вярнуцца дамоў свайму пану, які апынуўся ў Мецы без грошай. Кунтусь узяў з таго слова, што ён нікому не


WIKIMEDIA COMMONS, POLIMEREK

Найчасцей беларускія татары малявалі мячэці ў зялёнае. **Злева: мячэць у Крушынянах на Падляшшы мае барочныя рысы, дзве вежы-мінарэты.** Зверху: мячэць у Лоўчыцах пад Навагрудкам. Чорна-белая: мячэць у Мінску ў XIX стагоддзі.


RADZIMA.ORG, АРЦЁМ АБЛАЖЭЙ



SHUTTERSTOCK, MR.DMITRY




Сучасная мінская мячэць (злева) — копія старой, толькі ў 5 разоў большая і на новым месцы. **Даўнейшая стаяла на месцы цяперашняй гасцініцы «Юбілейная».**

распавядзе гэтай таямніцы, але той урэшце сказаў сваёй жонцы. У выніку той Кунтусь памёр.

Цікава, што татары зусім не адгароджваліся ад іншых канфесій, а апошнія таксама пазбягалі варажнечы да мусульманскіх суродзічаў. Гэта вялікае адрозненне Беларусі ад тых славянскіх краін, дзе склаліся традыцыі ісламафобіі.





Сапраўды, Шымялевіч у 1905 годзе апісваў супольнае ахвяраванне чорнага барана мусульманамі і праваслаўнымі, паломніцтва хрысціян і яўрэяў на мусульманскія могілкі. Больш за тое, ён адзначаў: «Працоўнае жыццё літоўскага татарына аздабляецца тымі самымі народнымі святамі, якія захаваліся ў сялян і шляхты нашага краю. Шляхціц-мусульманін, таксама як і хрысціянін — сусед ▸

Да Другой сусветнай вайны ў Беларусі (пераважна ў заходняй яе частцы) налічвалася больш за 20 мячэцяў і малітоўных дамоў. Пасля вайны, у гады савецкай улады, ацалела толькі адна дзейная мячэць — у Іўі на Гродзеншчыне. Дзякуючы ў тым ліку і таму, што тут існавала неперарыўная традыцыя, сёння гэты горад лічыцца нефармальнай сталіцай беларускіх татараў. Тут жыве найвялікшая ў сучаснай Беларусі татарская грамада — каля 800 чалавек. Іншыя гарады, мястэчкі і вёскі, дзе гістарычна і да гэтага часу ў большай ці меншай колькасці жывуць беларускія татары — Мінск, Капыль, Клецк, Маладзечна, Мядзел, Смілавічы, Узда Мінскай вобласці, Астрына, Ашмяны, Ліда, Мір, Навагрудак, Сандыкаўшчына (Шчучынскі раён), Скідзель, Слонім Гродзенскай вобласці, Відзы, Глыбокае, Докшыцы Віцебскай вобласці, Ляхавічы Брэсцкай вобласці.
Мячэці, апрача Іўя, сёння дзейнічаюць у Слоніме, Смілавічах, Навагрудку, Відзах, Клецку, Лоўчыцах Навагрудскага раёна, Маладзечне і Мінску. Помнікам архітэктуры XVIII стагоддзя з'яўляецца драўляная мячэць у Лоўчыцах, XIX стагоддзя — драўляныя мячэці ў Іўі і Навагрудку. Акрамя таго, у Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Азярцо пад Мінскам у 1991 годзе была перавезена драўляная мячэць XVIII стагоддзя з вёскі Даўбучкі Смаргонскага раёна. Раней шматлікая мусульманская грамада цяпер там цалкам вымерла.

## Мова кітабаў

Унікальным помнікам культуры беларускіх татараў з'яўляюцца кітабы (ад арабскага слова «кніга»). Гэта спецыяльныя рукапісныя зборнікі, у якіх змяшчаліся паданні аб прароку Мухамедзе, апісанні абрадаў, рытуалаў мусульман, маральна-павучальныя апавяданні і палемічныя творы. У кітабах адлюстраваныя побыт, звычаі, традыцыі беларускіх татараў, таму іх тэксты — каштоўны матэрыял для лінгвістаў, этнографаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў. Ці не найбольшая цікавостка — мова, якой напісаныя кітабы. У іх дамінуе беларуская мова, запісаная арабскай вяззю. Прытым мова кітабаў блізкая да той мовы, якой карысталіся нашы продкі ў штодзённым жыцці, і да размоўнай беларускай мовы нашых дзён.



WIKIMEDIA COMMONS

**Кітабы** — рэлігійныя кнігі беларускіх мусульман, напісаныя беларускай мовай арабскімі літарамі. На фота: кітаб другой паловы XVIII стагоддзя з Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

яго, паклаўшы першае бервяно пад зруб дома, адзначае "закладзіны", пасля, уваходзячы ў новую хату, не праміне зладзіць "уваходзіны". Зжаўшы першы сноп жыта ў полі, татарын ставіць у чырвоным куце сноп-"гаспадар", а калі скончыцца жніво, — "гаспадара" выносіць у пуню, а ў чырвоным куце вешае вянок з жытніх каласоў».

Відавочны ўплыў агульнабеларускага дойлідства, найперш цэркваў, і на татарскія мячэці. Таму і не дзіва, што немцы падчас Першай сусветнай вайны нават падпісалі на сваіх здымках іўеўскую мячэць «Турэцкая царква».

Самабытная культура беларуска-літоўскіх татар сёння перажывае нялёгкі час, як і астатнія атожылкі беларускай культуры. З аднаго боку, дзякуючы сучасным камунікацыйным тэхналогіям на яе ўплываюць глабалізаваныя формы ісламскай ідэнтычнасці. З другога боку, з пачатку XX стагоддзя беларуска-літоўскіх татараў інтэнсіўна спрабавалі наблізіць да сябе паволжскія і крымскія татары, разглядаючы іх як сваю дыяспару. У выніку пачалося адзначэнне пашыранага на Паволжы свята «Сабантуй», якое раней на Беларусі не фіксавалася. Перайmaліся і традыцыі іншых татараў, напрыклад, адзначалася жалобная дата высялення крымскіх татар...

Беларускім татарам да апошняга ўдавалася захавацца як супольнасці дзякуючы таму, што кожны з іх успамінаў пра свае карані, калі сыходзіў з зямнога жыцця апошні з яго бацькоў. 600 гадоў татары едуць на беларускім возе, і яны сталі неад'емнай часткай Беларусі. ◆

**Я слухаў мелодыю беларускай мовы, якой разважна-павольна размаўлялі беларускія сяляне Ібрагім ды Муста, Ізмаіл ды Ях'я**

## Барадулін вітаўся «Салям алейкум»

— Нашыя дамы блізка, — расказвае Разалія Александровіч, — і калі здаралася сустракацца на вуліцы, то Рыгор Іванавіч выстройваў свой этыкет вітання так: ён нахіляў галаву, цалаваў мне руку і казаў: «Салям алейкум». Звычайна на гэта адказваюць «Алейкум ас-салам», але ў мяне быў іншы адказ. Я шчыра ўсміхалася і казала: «Што ў перакладзе азначае "Жыве Беларусь"».





**Татары былі не толькі сялянамі, але і шляхтай.** На Наваградчыне ў XIX стагоддзі шляхцічы-магаметане ўдзельнічалі ў органах самакіравання, выявіў Мікола Нікалаеў. Мячэць у Навагрудку. 1930-я гады.

Памятаю, калі першы раз прыйшоў у [івейскую] мячэць і збіраліся перад службай вернікі ды сядалі на падлозе, я з вялікім задавальненнем слухаў мелодыю беларускай мовы, як разважна-павольна размаўлялі з выгляду стапрацэнтныя беларускія сяляне Ібрагім ды Муста, Язэп (Ізмаіл) ды Ях'я.
— Ну дык пара ўжо й пачынаць, пэўня, — кажа нехта.
— Але. Дык хто ж палезе?
— Дык хто — Муста, во.
— Ат, нешта лянуюся, увесь час лажу. Хай Ібрагім.
Ібрагім няспешна пачаў падымацца па лесвіцы на гару, а сяляне-агароднікі з гэтакай беларускай, як мне здавалася, самавітасцю паселі ў радок і падрыхтаваліся да малітвы. І раптам з гары рэзкім і гарлавым голасам па-чужому залямантаваў Ібрагім. Мячэць перамянілася ў імгненне вока, зніклі мужычкі-беларусы. Азія, незразумелая і таемная, малілася гарлавымі гукамі. Прарэзлівы голас малны, ад якога трымцела, здавалася, шкло, чужыя словы, значэння якіх не ведаў ніхто, пранікалі ў душу, як самум, як гарачы вецер пустыні... Лавіна татарскай конніцы.
Я быў агаломшаны, уражаны да глыбіні душы. Я ўбачыў у рэальнасці, адчуў па мурашках на скуры містычную магутнасць мовы. Тады я зразумеў, што гук, мелодыя мовы для душы чалавека важнейшыя за значэнне слоў. Для розуму — змест, мелодыя — для сэрца.
Скончылася маленне. Зноў з'явіліся мужычкі, беларусы-агароднікі, стоўпіліся перад выхадам, дзяліліся булачкамі, раздавалі гальму, жартавалі ды няспешна выходзілі за дзверы ў ліпеньскі змрок, дзе пахла мальвамі і кропам. І дробненькі дождж шапацеў аб бульбоўнік.

*Зянон Пазняк. Татары*



Татары называлі Вялікае Княства Літоўскае, Літву, «Ліпка». Ад гэтага саміх татар сталі называць «ліпкамі».

ФОТА З АРХІВА РАЗАЛІІ АЛЕКСАНДРОВІЧ

## Як татары захавалі сябе

— У савецкі час татары захоўвалі сваю ідэнтычнасць найперш праз рэлігію, мусульманскія святы. У нашай сям'і святкавалі два байрамы — Курбан-Байрам і Ашурэ-Байрам, хоць усяго іх чатыры. Гатавалі рытуальныя стравы, напрыклад, на Ашурэ-Байрам кампот з розных сухафруктаў (грушы, слівы, яблыкі, разынкі) — важна, каб было патроху, але як мага больш featured рознага, бо на гэта ёсць сваё тлумачэнне.

Мой бацька Адам Сулейманавіч Александровіч быў начальнікам мукамольнага цэха ў Навагрудку.

Мы ведалі, што паміж сабой яго называлі «Сулейманавіч» ці нават проста «татарын», пры гэтым паважалі. Памятаю, як прыносіў нам поўныя кішэні чырвоных яек на Вялікдзень.

У татараў меліся свае звычаі. Пра адзін такі звычай нядаўна ўзгадвала старэйшая жыхарка вёскі Іванава на Клеччыне, адкуль родам мая мама Лілія Карыцкая. Маладых на татарскім вяселлі ставілі на новы кажух, і мална (імам) з малітвай бласлаўляў іх шлюб. А пасля ладзілася такая гульня: трэба было перацягнуць кажух — хлопцы ў свой бок, а дзяўчаты ў свой.

І вось Ірына Аляксееўна Чарнабай — яна праваслаўная, пры гэтым была сведкай на татарскім вяселлі — расказала: хлопцы і дзяўчаты з такім імпэтам перацягвалі кажух, што яго разарвалі!

Кожны, нават той, хто адкрыта не называў сябе ні татарынам, ні мусульманінам, адразу ж успамінаў пра свае карані, калі сыходзіў з зямнога жыцця апошні з яго бацькоў. Тады дзеці нябожчыка шукалі імама і выконвалі ўсе рытуалы. Бо не зрабіць гэтага — вялікі грэх перад тым, хто перайшоў у іншы свет.

І калі ў сям'і сыходзіў нехта са старэйшых, на яго месца абавязкова прыходзіў новы старэйшы. Ніхто нікога не прымушаў, чалавек проста прымаў, скажам так, «сакральны каменьчык», які трэба было захоўваць і пры сабе, і ў сабе…

Могілкі ў Іўі, сучасны выгляд. Звярніце ўвагу, што татары пазначаюць на помніку **імя маці** чалавека. Яшчэ звярніце ўвагу, што яны абкладаюць магілы камянямі.

# ЛЬВОЎ

## Lemberg Lwów Львів

**Найцікавейшымі месцамі Львова нас правядзе львоўскі беларускамоўны экскурсавод Андрэй Кусій.**

Хараство гэтага горада бачыш адразу ж, з акна цягніка. 8-я раніцы, ты сядзіш такі бадзёры і свежанькі пасля дзвюх гадзін начнога праходжання мяжы. І раптам у акне — першая аўстрыйская камяніца, за ёй наступная. На малых балкончыках горда сушыцца бялізна. Львавяне ў капелюшах і капялюшыках, поўныя ўласнай годнасці, ідуць на


SHUTTERSTOCK, RUSLAN LYTVYN

працу (а калі выхадны, дык у цэнтр на ранішнюю каву — тут гэтая традыцыя жыве). У галаве пачынае граць нешта тутэйшае: «Мертвий півень», «Океан Ельзи», Хрысціна Салавей... Гэта Львоў, і ўсё тут дыхае гонарам, і ўсё прамаўляе са стоенай страсцю. Ты ўжо забыў начную мяжу, духату цягніка. Распрастаўшы спіну, узняўшы галаву, ступаеш на перон, каб стаць часткай усяго гэтага.

### Чаму Львоў

Адносна назвы маляўнічага горада на захадзе Украіны да гэтага часу


SHUTTERSTOCK, RUSLAN LYTVYN

# ...магіла віцебскага паўстанца, тур па кавярнях, кішэня Мазоха...

ідзе дыскусія: хто ж назваў горад Львовам? Паводле версіі ўкраінскіх гісторыкаў, назву даў галіцка-валынскі князь, кароль Русі Даніла I Раманавіч (1201–1264) у гонар старэйшага сына — Льва Данілавіча.

Датай першай пісьмовай згадкі пра Львоў пакуль лічыцца 1256 год — нягледзячы на рэгулярныя запэўніванні гісторыкаў у больш раннім нараджэнні горада. За больш чым сем з паловай стагоддзяў афіцыйнай гісторыі ў Львове свой след пакінулі прадстаўнікі розных культур: украінскай, нямецкай, польскай, яўрэйскай, расійска-савецкай, італьянскай, грэцкай і нават армянскай. Горад за час свайго існавання шмат разоў мяняў дзяржаўную прыналежнасць, што адбівалася і на яго дэмаграфічным абліччы.

### Пад палякамі і аўстрыякамі

Спачатку Львоў належаў да Галіцка-Валынскага княства, у 1349 годзе быў захоплены польскім каралём Казімірам III. Пасля гэтага і пачаў складвацца шматаблічны і шматкультурны горад. Казімір даў яму магдэбургскае права і пабудаваў на поўдзень ад ранейшага цэнтра новы горад, дзе большасць насельніцтва складалі каланісты рознага этнічнага паходжання. Колішняя рознаэтнічнасць адлюстравана ў старадаўніх назвах вуліц, якія захаваліся да нашага часу: Армянская, Руская, Стараяўрэйская. На львоўскіх месцічаў, аднак, моцна ўплывала паноўная польская культура — з цягам часу многія з іх моўна і культурна паланізаваліся, хоць доўга і захоўвалі свае звычаі і рэлігію.

У 1527 годзе зборльшага драўляны горад быў амаль цалкам знішчаны вялікім пажарам, які пачаўся з дома півавара. У наступныя дзесяцігоддзі тут будуюцца іншыя, рэнесансныя дамы. Практычна пад кожным былі піўніцы, ад слова «піва», — халодныя падвалы для захоўвання прадуктаў і напояў. Сёння гэтыя памяшканні масава прыстасоўваюць для кавярань.

У 1772 годзе ў выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай Галіччына разам са Львовам на паўтара стагоддзя стала часткай Аўстрыйскай (пасля Аўстра-Венгерскай) імперыі. З 1772 па 1918 год горад афіцыйна насіў назву Лемберг. Мовай адміністрацыі ў гэты час стала нямецкая, а большасць пасадаў ►

## Асноўныя даты з гісторыі Львова

**1256** — першая згадка Львова ў Галіцка-Валынскім летапісе ў сувязі з вялікім пажарам у горадзе Холм

**1349** — польскі кароль Казімір III захапіў Львоў

**1356** — Львоў атрымаў магдэбургскае права, што дало моцны штуршок яго развіццю

**1527** — вялікі пажар, які пачаўся з дома півавара, знішчыў большую частку горада

**1772** — у выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай горад увайшоў у склад Аўстрыйскай (пасля Аўстра-Венгерскай) імперыі, стаў цэнтрам яе ўсходняй правінцыі, якая атрымала назву «Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі» (так называлі колішняе Галіцкае і Уладзімірскае княства, якое атрымала статус каралеўства пры Даніле Галіцкім)

**1772–1918** — горад афіцыйна насіў нямецкую назву Лемберг

**1 лістапада 1918** — украінскія палітыкі абвясцілі горад сталіцай Заходне-Украінскай Народнай Рэспублікі (ЗУНР)

**Лістапад 1918 – ліпень 1919** — польска-ўкраінская вайна за Усходнюю Галіччыну, у якой перамаглі палякі

**1919–1939** — Львоў уваходзіць у склад Польшчы, адміністрацыйны цэнтр Львоўскага ваяводства

**22 верасня 1939** — у Львоў уступілі савецкія войскі. Пачатак бальшавіцкага тэрору

**30 чэрвеня 1941** — Львоў захоплены нямецкімі войскамі. У той жа дзень украінскія нацыяналісты склікалі Нацыянальны сход, які абвясціў адналенне Украінскай Дзяржавы. У адказ немцы арыштоўваюць і змяшчаюць у канцлагер арганізатараў абвяшчэння незалежнасці, у тым ліку і лідара АУН Сцяпана Бандэру

**27 ліпеня 1944** — у Львоў вяртаецца савецкая ўлада

**1991** — Украіна здабывае незалежнасць



SHUTTERSTOCK_LIUB SHTEIN

**Помнік Адаму Міцкевічу**
У 1904 годзе, у перыяд Аўстра-Венгерскай імперыі, у горадзе ўрачыста адкрылі помнік ураджэнцу Наваградка Адаму Міцкевічу. Нягледзячы на тое, што ў Львове паэт ніколі не быў, нашага земляка тут любяць. Ва Украіне яго вершы (асабліва «Крымскія санеты») вучаць у школах.

у гарадскім кіраванні занялі немцы і чэхі. Аднак горад працягваў заставацца важным цэнтрам польскай, рускай (так тады называлі ўкраінскую) і яўрэйскай культур.

У другой палове XIX стагоддзя пачынаецца сапраўдны эканамічны і культурны ўздым Львова. У яго ваколіцах сталі распрацоўвацца багатыя радовішчы нафты, будуецца чыгунка, развіваецца прамысловасць. У 1853 годзе ў адной з львоўскіх аптэк была вынайдзена газа, што стала ў будучыні палівам для лямпаў і самалётаў. Праз 8 гадоў у Львоў з Вены прыйшоў першы цягнік. Хутка будуюцца новыя гарадскія кварталы, адчыняюцца навучальныя ўстановы.

### Крывавыя змаганні

Наладжанае жыццё, аднак, рэзка перарвала Першая сусветная вайна. Аўстра-Венгерская імперыя вайну прайграла і распалася. А на яе руінах пачалося змаганне за незалежную дзяржаву. Дакладней, адразу за дзве незалежныя дзяржавы. Палякі, якія ў той час складалі амаль палову насельніцтва горада, вялі барацьбу за незалежную Польшчу з Галіччынай у яе складзе. Украінцы, якія складалі толькі 1/5 насельніцтва ў горадзе, але пераважную большасць у навакольным рэгіёне, змагаліся за незалежную Украіну. 1 лістапада 1918 года над Ратушай залунаў жоўта-блакітны сцяг і адбылося абвяшчэнне Заходне-Украінскай Народнай Рэспублікі. Пачаліся актыўныя баі паміж польскімі і ўкраінскімі фарміраваннямі. Інтэнсіўныя ваенныя дзеянні ў самім Львове доўжыліся тры тыдні, у Галіччыне ўвогуле — каля паўгода. Украінцы вайну прайгралі, у 1919 годзе Львоў адышоў да Польшчы.

У міжваеннай польскай дзяржаве горад быў несумненным цэнтрам украінскага руху. Тут месціліся цэнтральныя ўстановы большасці нацыянальных арганізацый. Украінска-польскія ўзаемадачыненні складваліся надзвычай складана, паміж дзвюма нацыянальнымі супольнасцямі не было паразумення. Многія ўкраінцы расчароўваліся ў мірных метадах змагання, як вынік — расла папулярнасць радыкальных арганізацый, арыентаваных на ўзброеную барацьбу. Найбольш буйной і ўплывовай сярод іх была створаная ў 1929 годзе Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў (АУН), якая арганізоўвала тэракты супраць польскіх чыноўнікаў.

1 верасня 1939 года, пасля нападу Германіі на Польшчу, пачалася Другая сусветная вайна. 17 верасня памежную раку Збруч перайшла Чырвоная Армія. У заходнеўкраінскіх абласцях пачаўся масавы тэрор. Пасля нападу фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз перад адступленнем са Львова органы НКВД з 22 па 30 чэрвеня 1941-га знішчылі без суда і следства ў львоўскіх турмах тысячы арыштаваных прадстаўнікоў інтэлігенцыі, студэнтаў, навучэнцаў гімназіі. Знаходка тысяч цел у турэмных дварах стане гіганцкім


**Ратуша.** Від з плошчы Рынак.

шокам для заходнеўкраінскай грамадскай думкі.

30 чэрвеня 1941 года ў Львове ўкраінскія нацыяналісты сабралі Нацыянальны сход, які абвясціў аднаўленне Украінскай Дзяржавы. Быў сфарміраваны Часовы ўрад. Гэта, аднак, не ўваходзіла ў планы немцаў. 12 ліпеня Адольф Гітлер загадаў арыштаваць увесь украінскі ўрад. Шматлікія актывісты АУН, у тым ліку і яе лідар Сцяпан Бандэра, апынуліся ў турме, многія былі расстраляныя.

Пачалася крывавая нацысцкая акупацыя. Нямецкія ўлады арганізавалі канцэнтрацыйны лагер у раёне Цытадэлі, у якім знішчылі больш за 140 000 савецкіх ваеннапалонных, а таксама Львоўскае гета і Янаўскі канцлагер для знішчэння яўрэйскага насельніцтва. Былі расстраляныя і многія выбітныя прадстаўнікі мясцовай польскай інтэлігенцыі.


SHUTTERSTOCK, RUSLAN LYTVYN

**Помнік Івану Фёдараву (Федаровічу)**
У канцы XVI стагоддзя ў Львове развівалася кнігадрукаванне. Не ў апошнюю чаргу — дзякуючы Івану Фёдараву, заснавальніку першай на тэрыторыі Украіны друкарні. Гэты чалавек вядомы і як расійскі першадрукар. Навукоўцы лічаць, што Фёдараў паходзіць з дробнай заходнебеларускай або палеска-падляшскай шляхты. Існуе гіпотэза аб нараджэнні Івана Фёдарава на тэрыторыі сучаснага Вілейскага раёна. Магчыма, з-за пераследу з боку вышэйшага маскоўскага духавенства і баярства ён пакінуў Маскву і пераехаў у Львоў. Тут Фёдараў падрыхтаваў і выдаў першы ўсходнеславянскі навучальны дапаможнік — «Буквар» з граматыкай. У тым жа самым годзе здзейсніў і другое выданне «Апостала».


**Каб падняцца на Ратушу, трэба адолець 408 прыступак**

THE-VILLAGE.COM.UA

У ліпені 1944 года ў Львоў ізноў вярнулася савецкая ўлада. Яна заставалася на гэтых землях амаль паўстагоддзя, хоць яшчэ доўга ў лясах Галіччыны вялі ўпартую барацьбу за незалежнасць жаўнеры Украінскай паўстанцкай арміі.

Вайна і пасляваенныя гады адзначыліся сур'ёзнымі зменамі ў складзе насельніцтва. Яўрэяў вынішчылі нацысты. Палякі масава выехалі ў Польшчу, а з Польшчы, у адваротным кірунку, прыехалі ўкраінцы і лемкі. Пасля вайны ўкраінцы ўпершыню за 500 гадоў пачалі складаць у Львове большасць насельніцтва.

### Найцікавейшыя месцы Львова

Стандартныя турыстычныя маршруты па Старым горадзе (які ў 1998 годзе быў унесены ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА) уключаюць помнікі пераважна перыяду Рэчы Паспалітай. Далей жа, у «аўстрыйскай» частцы горада, знаходзяцца жылыя раёны, навучальныя ўстановы, былыя палацы. Цікавостак столькі, што пра ўсе ў кароткім артыкуле не згадаеш пры ўсім жаданні. Таму толькі пра асноўныя.

### Ратуша

З атрыманнем магдэбургскага права ў 1356 годзе ў горадзе з'яўляецца Ратуша — галоўны будынак гарадской управы. Першая Ратуша мела няшчасце згарэць у пажары 1381 года, а ў пачатку XVI стагоддзя іншы пажар пашкодзіў і другую яе версію. Трэці будынак стаяў да пачатку 1800-х, пакуль не абвалілася гадзіннікавая вежа. Пасля таго ў 1827-м быў пастаўлены новы, ужо чацвёрты па ліку. У гэтым будынку сёння размяшчаюцца мэрыя і гарадская рада. 65-метровая вежа Ратушы выкарыстоўваецца як аглядная пляцоўка, галоўная ў горадзе. Уверх падняцца можна ▶




Купал **капліцы Боімаў.**

штодня ў працоўны час, заплаціўшы за квіток 30 грыўняў (каля 2,3 беларускага рубля). Праўда, трэба ўлічваць, што, каб падняцца на вежу, трэба пераадолець 408 прыступак, прытым 306 з іх — абавязкова пехатой. Гэта прыблізна як падняцца на 15-павярховы дом. Але краявіды, вядома, вартыя гэтых намаганняў.

### Сабор Святога Юра

Гэта галоўны грэка-каталіцкі сабор Львова, які да 2013 года, пакуль не быў асвечаны Патрыяршы сабор Уваскрасення Хрыстовага ў Кіеве, з'яўляўся і галоўнай святыняй усёй Украінскай грэка-каталіцкай царквы. Узведзены ён у 1744–1770 гадах у стылі класічнага барока.

Акрамя ўласна сабора, на Святаюрскай гары размяшчаецца цэлы архітэктурны комплекс, у які ўваходзяць званіца, палац мітрапаліта, капітульныя будынкі, будынак стайні пры агароджы, брамы і сады. На званіцы сабора вісіць найстарэйшы ва Украіне звон, адліты ў 1341 годзе.

### Капліца Боімаў

Побач з галоўным рымака-таліцкім храмам горада, Лацінскім кафедральным саборам, калісьці ўзніклі і могілкі. У старыя часы пахаванні побач са святынямі былі не экзотыкай, а звычайнай практыкай. Да нашых дзён дайшла капліца роду Боімаў — сям'і гандляра сукном Георгія Боіма і ягонай жонкі Ядвігі. Помнік канца XVI стагоддзя ўражвае багатым скульптурным дэкорам. Боімы — род венгерскага паходжання, але — яшчэ адзін доказ мультыкультурнага духу горада — сын Георгія і Ядвігі, Павел, стаў войтам і бурмістрам Львова.

З гэтай капліцай звязана легенда пра... яблыкі. Супрацоўніца музея неяк забылася ў куце капліцы кошык з садавінай. Больш чым праз паўтара года яна нечакана на яго наткнулася і выявіла, што яблыкі за гэты час зусім не страцілі сваёй сакавітасці і водару. Скептыкі ж сцвярджаюць, што яблыкі проста былі з кансервантамі.

### Оперны тэатр

Неабходнасць у вялікім гарадскім тэатры Львоў адчуў у канцы XIX стагоддзя. Тады ж быў арганізаваны конкурс, у якім перамог таленавіты архітэктар Зыгмунт Гаргалеўскі.

Будаўніцтва тэатра пачалося ў 1897 годзе і працягвалася тры гады. У 1900-м Вялікі гарадскі тэатр (так тады называўся будынак) быў урачыста адкрыты. Ягоны фасад шчодра ўпрыгожаны, а вянчаюць яго тры крылатыя бронзавыя фігуры — «Генія драмы і камедыі», «Славы» з залатой пальмавай галінкай у руках, «Генія музыкі».

У 2000 годзе, да стагоддзя Львоўскай оперы, тэатр быў адрэстаўраваны і пераназваны ў гонар Саламеі Крушальніцкай (1872–1952), выдатнай украінскай опернай спявачкі, вядомай ва ўсім свеце.

### Замкавая гара

Каб пабачыць усе гэтыя месцы, варта прыкласці трохі намаганняў, падняўшыся на найвышэйшы даступны пункт Львова — пагорак Высокі замак (413 м над узроўнем мора), з якога адкрываецца від на большую частку горада. На пагорку натуральнага паходжання (дзе, уласна кажучы, да канца 1700-х і стаяў замак) ёсць дадатковы

Адметнасцю ўкраінцаў Галіччыны з'яўляецца прыналежнасць у большасці да Грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы, створанай у 1596 годзе ў выніку Берасцейскай царкоўнай уніі. Па іроніі лёсу, якраз пабожныя галічане ў свой час найбольш супраціўляліся ўвядзенню уніі і трымаліся за ранейшае праваслаўе найбольш доўга і ўпарта ў параўнанні з жыхарамі іншых тэрыторый Рэчы Паспалітай. Толькі праз стагоддзе, у пачатку XVIII стагоддзя, і царкоўная іерархія, і вернікі змірыліся з наяўным станам рэчаў. У выніку ж менавіта Уніяцкая царква стала не толькі духоўным, але і культурным ды палітычным цэнтрам для русінаў-украінцаў Галіччыны. Спробы савецкай улады ў 1946 годзе яе ліквідаваць, далучыўшы да падкантрольнай Рускай праваслаўнай царквы, скончыліся нічым. Як толькі камуністычны таталітарны рэжым у канцы 1980-х гадоў аслаб, Украінская грэка-каталіцкая царква выйшла з падполля, і ў яе афіцыйна вярнулася большасць прыхаджан, перад гэтым гвалтам пераведзеных у расійскае праваслаўе.

штучны насып канца XIX стагоддзя, які выкарыстоўваецца сёння як назіральная пляцоўка. У польскіх крыніцах ён завецца «Курган Люблінскай уніі», бо пачалі яго насыпаць у 1869 годзе, акурат праз тры стагоддзі пасля гэтай гістарычнай падзеі. Польскія ініцыятары гэтага насыпу хацелі ўшанаваць тую унію, і адначасова насып мусіў сімвалізаваць надзею на адраджэнне Рэчы Паспалітай. Але паколькі ўкраінцы, як і беларусы, унію з Польшчай успамінаюць з куды меншым захапленнем, то ў наш час гэты штучны пагорак завуць проста «верхняй аглядальнай пляцоўкай».

### Канцэптуальныя рэстараны

Вярнуўшыся з Высокага замка ці Лычакаўскіх могілак на цэнтральныя вуліцы, варта завітаць у адзін, а нават і некалькі рэстаранаў, у якіх таксама праяўляецца адметнасць сённяшняга Львова. Перадусім гэта сетка крэатыўных устаноў (своеасаблівых музеяў), аб'яднаных у так званы «Холдынг эмоцый *!Fest*». Такіх устаноў у сетцы на дадзены момант 18, і кожная з іх мае сваю канцэпцыю. Згадаем толькі пра некалькі.

**«Крыіўка»** (плошча Рынак, 14)

Адным з шырокавядомых брэндаў сённяшняга Львова з'яўляецца ўстанова пад назвай «Криївка» (што перакладаецца як «схованка»). Гэта рэстаран, які нават не мае

## Гуляючы па праспекце Свабоды і любуючыся Операй, турысты не здагадваюцца, што пад імі цячэ нябачная рака

шыльды. Уваход у яго — проста з Рынка (галоўнай плошчы), у адным з дамоў насупраць Ратушы. Драўляныя дзверы ў пад'ездзе таксама не маюць ніводнага надпісу, затое перад імі часта стаіць чарга з ахвотных патрапіць у залу. Каб гэта зрабіць, трэба пагрукаць. Пасля таго, як дзверы адчыняцца, чалавек ▶


SHUTTERSTOCK, TOMASZ KARWOWSKI

Для жыхароў раўніннай Беларусі **львоўскія горы** — гэта так рамантычна.


WIKIMEDIA COMMONS, STAKO

**Лычакаўскія могілкі**

Усяго за 20–30 хвілін хады ад цэнтра знаходзіцца месца, насельнікаў якога нельга назваць жыхарамі горада. Гаворка пра знакамітыя Лычакаўскія могілкі, якія часта параўноўваюць з парыжскім некропалем Пер-Лашэз.

Могілкі вельмі цікавыя і самі па сабе, але сярод іншых ёсць тут адна магіла, да якой беларусы традыцыйна прыходзяць і ўскладаюць кветкі. Знаходзіцца яна на месцы пахавання ветэранаў паўстання 1863–1864 гадоў, куды ад цэнтральнага кола Лычакаўскіх могілак вядзе ўверх крутая зігзагападобная сцежка і бетонныя лесвіцы. Пры самым уваходзе на гэты комплекс размешчаны помнік актыўнаму ўдзельніку паўстання Шыману Візунасу Шыдлоўскаму. Ён быў харунжым Віцебскай зямлі, а пасля паразы паўстання эміграваў і да смерці (1906) жыў у Львове.

Помнік выяўляе Шыдлоўскага на высокім пастаменце, апранутым у сялянскую світку, з разгорнутым сцягам Віцебскай зямлі з гербамі Польшчы, Літвы і Русі. У каменны пастамент умураваныя дзве гранітныя мемарыяльныя таблицы з надпісам *«Exoriare aliquis nostris ex ossibus ultor»* («Каб з нашых парэштказ паўстаў нейкі мсцівец») і прозвішчамі выдатных паўстанцаў, членаў Народнага ўрада, якія былі пакараныя смерцю ў Варшаве, Вільні, Мінску і Магілёве, а таксама з прозвішчамі тых, хто загінуў у баях.



SHUTTERSTOCK, RUSLAN LYTVYN

### Полтва (падземная рака)

Львоў — адзіны буйны горад Украіны з «нябачнай» ракой у цэнтры горада. Полтва пачынаецца ў адным з гарадскіх паркаў, дзе адразу ж спускаецца пад зямлю. Турысты, гуляючы па праспекце Свабоды і любуючыся прыгажосцю Опернага тэатра, нават не здагадваюцца, што проста пад іх нагамі цячэ нябачная рака. У межах Львова рэчышча ракі і яе прыток схаваныя ў каналізацыйны калектар. Увесну і ўлетку з ліўневых рашотак над цэнтральным калектарам адчуваецца спецыфічны каналізацыйны пах сцёкавых вод. Існуе гарадская легенда, быццам з аркестравай ямы ў Львоўскай оперы можна ўслухацца ў падземны шум сканалізаванай Полтвы.

▸ у форме партызана Украінскай паўстанцкай арміі спытае вас: «Гасло?!» («Пароль?!»). Не губляйцеся і скажыце ўсяго толькі два словы: «Слава Украіне!»

Усярэдзіне рэстарана (у падвальным памяшканні) усё нагадвае атмасферу бункера часоў Другой сусветнай вайны. У адной з залаў можна паслухаць у навушніках інтэрв'ю Сцяпана Бандэры, у другой — агледзець калекцыю ваенных узнагарод паўстанцаў. Цікавымі экспанатамі з'яўляюцца бафоны (ад слоў «баявы фонд») — унутраная валюта паўстанцаў, выдаваныя імі ж грашовыя адзінкі. Дарэчы, сетка *!Fest* дае ўсім ахвотным карткі з накапляльнымі баламі, якія таксама называюцца «бафоны» (прыкладна 10% ад сумы замовы назапашваецца на картцы, і праз пэўны час імі можна часткова або цалкам разлічыцца ў любой з устаноў).

**«Галіцкая жыдоўская кнайпа “Пад Залатой ружай”»**
(Стараяўрэйская, 37)

Гэтая «кнайпа» (з нямецкай мовы — паб, рэстаран) — менавіта «жыдоўская», а не «яўрэйская», бо ў штодзённай мове галіцкіх украінцаў цягам стагоддзяў, аж да 1939 года (прыходу савецкай улады), слова «жыд» ужывалася як цалкам звычайная і нейтральная назва этнасу, што здаўна жыў на гэтай зямлі. Акрамя магчымасці пакаштаваць стравы яўрэйскай (або жыдоўскай, без усялякага негатыўнага падтэксту) кухні, рэстаранная ўстанова мае яшчэ адну асаблівасць — у меню адсутнічаюць цэны і можна... таргавацца.

## Кава ў Львове — культавы напой, сотні кавярняў

Спытаецеся: чаму «Залатая ружа»? А гэта народная назва разбуранай у часы Другой сусветнай вайны сінагогі, якая стаяла непадалёк.

Усярэдзіне «кнайпы» ёсць спецыяльнае месца з фотаздымкамі і апісаннем разбуранага помніка. А інтэр'ер установы — нібыта дом яўрэйскай сям'і. Ці нават музей успамінаў...

**«Газніца» («Гасова лямпа»)**
(Армянская (Вірменська), 20)

Установа ў Старым горадзе, прысвечаная вынаходніцтву газы. Двое львоўскіх фармацэўтаў, Ігнат Лукасевіч і Ян Зех, вынайшлі ў 1853 годзе вадкасць для асвятлення памяшканняў і вуліц. Газа выкарыстоўваецца таксама як паліва для самалётаў. Львоў, як бачыце, важны сярод іншага і для гісторыі хіміі ды авіяцыі. Як мінімум.

У рэстаране, дарэчы, ёсць звыш пяці сотняў газавых лямпаў, а пры ўваходзе стаіць дзейная лямпа вышынёй 2 метры!

**«Львоўская капальня кавы»**
(плошча Рынак, 10)

Кава ў Львове з'яўляецца культавым напоем. Згодна з паданнем, сярэднявечныя армяне, ведучы гандаль з Усходам, першымі прывезлі кававае зерне з нейкай арабскай краіны. Пасля гэтага культура піць каву тут нібыта і прыжылася. Зрэшты, звычай мог быць пераняты і ў аўстрыйскія часы з імперскай сталіцы Вены, таксама слаўнай сваімі кававымі традыцыямі. Афіцыйна першай дакументальна згаданай кавярняй з'яўляецца ўстанова Якуба Левакоўскага, што існавала ў 1802 годзе.

«Львоўская капальня кавы» нагадвае шахту («капальня» — сінонім слова «шахта»). У падвальнай частцы кавярні дастаткова цёмна, хоць там і ёсць мінімальнае асвятленне. Пасля ўваходу ў падземную частку супрацоўнік ветліва раздае наведвальнікам каскі, каб абараніць іхнія галовы. У некалькіх невялікіх залах ёсць столікі, за якія можна прысесці і выпіць кавы, разглядаючы на сценах кававыя зярняты (па легендзе, гэта рэшткі «кававай пароды»). Верыць ці не верыць у легенду пра каву, здабытую з-пад зямлі, — асабістая справа кожнага.

**«Мазох-cafe»** (Сербская, 7)

Ва ўстановах «Фэста» можна пазнаваць не толькі гісторыю горада. Таксама тут прадстаўленыя і біяграфіі звязаных са Львовам людзей, якіх стваральнікі бізнэс-праекта ратуюць ад забыцця. Людзі гэтыя бываюць зусім нечаканыя. Як, напрыклад, Леапольд фон Захер-Мазох — аўтар раманаў з апісаннем здзекаў дэспатычных жанчын са слабых мужчын. Дзякуючы ягонаму прозвішчу з'явілася шырокавядомае сёння паняцце «мазахізм» (паталагічная сэксуальная асалода ад падпарадкавання фізічнаму і эмацыйнаму гвалту). Пісьменнік нарадзіўся ў Львове, тут жа пражыў і першыя 12 гадоў жыцця.



FEST.LVIV.UA

**Помнік Леапольду фон Захер-Мазоху.**

Каля аднайменнай установы («Мазох-*cafe*») стаіць помнік гэтаму спецыфічнаму пісьменніку. Сам помнік таксама можна назваць спецыфічным. Паводле легенды, ён выконвае жаданні, звязаныя з адкрытымі фантазіямі. А для гэтага трэба зрабіць своеасаблівы рытуал — залезці рукой у «адкрытую» кішэню Мазохавых штаноў.

Спадзяюся, што чытач прыедзе ў Львоў не на адзін-два дні, а нашмат даўжэй. І нават не адзін раз. Бо месцы, пра якія я распавёў у гэтым артыкуле, натуральна, далёка не ўсе ягоныя жамчужыны. Адкрываць гэты горад можна доўга. Львоў — унікальны. І на спатканне з ім паехаць варта.◆



FEST.LVIV.UA

Інтэр'ер рэстарана «**Пад Залатой ружай**».




У выдавецтве «Лімарыус» у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» нядаўна выйшла поўнае выданне ўспамінаў вядомай дзяячкі беларускага адраджэння Паўліны Мядзёлкі **«Сцежкамі жыцця»**. Жыццёвая біяграфія мемуарысткі была звязаная з многімі гістарычнымі падзеямі, якія адбываліся ў Беларусі ў XX ст., а сярод яе сяброў ці проста знаёмых было шмат вядомых асоб з ліку беларускай культурнай і грамадскай эліты. «Сцежкі жыцця" вядуць у беларускія мястэчкі, дарэвалюцыйную Вільню, Пецярбург, па шляхах бежанства, турмаў і высылкі, якія не абмінулі аўтарку.
Часткова ўспаміны былі апублікаваныя яшчэ ў савецкі час, у 1974 годзе. Але ў той час, як вядома, у СССР была строгая ідэалагічная цэнзура, таму ў друк пайшоў зусім не той варыянт, які быў напісаны аўтаркай ад пачатку. Другая ж частка ўспамінаў увогуле ўпершыню пабачыла свет толькі пасля краху камуністычнага рэжыму. У новым выданні мемуары ўпершыню друкуюцца пад адной вокладкай цалкам і без цэнзуры, прытым забяспечаныя грунтоўнымі рэдакцыйнымі каментарамі і дакументальнымі дадаткамі. Адзін з фрагментаў гэтых мемуараў, датычны жыцця беларускіх пісьменнікаў у Менску ў 1920-я гады, прапануем тут вашай увазе.

Уладкаваўшыся на працу ў Белдзяржвыдавецтве ў якасці тэхнічнага рэдактара, адправіла брата Зыгмуся вучыцца ў тэхнікуме ў Віцебск і пасялілася да часу, пакуль знайду сабе кватэру, у доме Купалаў на Правіянцкай вуліцы.

Дом быў драўляны, аднапавярховы з невялічкім крытым ганачкам. Уваходзіш з яго ў доўгі і цёмны калідор. З левага боку гасціная, абстаўленая некалькімі мяккімі крэсламі, канапай, круглым сталом, пакрытым плюшавым настольнікам, на падлозе дыван — усё ў зялёных тонах. Ля сцяны электрапіяніна. За гасцінай — кабінет і заадно спальня з двума ложкамі. На пісьмовым стале, на прыпяколку, — два антычныя бронзавыя падсвечнікі са свечкамі, фарфоравыя вазачкі, вырабы з крышталю — усё набытае з антыквараў. Янка немалыя грошы траціў, сабіраючы калекцыю антыкварных рэчаў. За кабінетам-спальняй — пакой, у якім жыла матка Янкі цёця Бэнігда Луцэвіч.

Справа ад увахода ў калідор — пакой, які займаў Бядуля, а пасля яго малодшы брат Лёлек. Далей знаходзілася сталовая з доўгім сталом, за якім магло змясціцца больш як 20 асоб, а за ёй кухня і іншыя патрэбныя закутачкі. У канцы калідора быў так званы чорны выхад ва ўнутраны панадворак.

З ранку да вечара дом Купалаў наведвалі госці, пачынаючы ад розных цётак і бабулек, якіх дом Купалаў заўсёды прываблівaў багатым пачастункам на кухні, да маладых і старэйшых пісьменнікаў, паэтаў, журналістаў і канчаючы наркамамі і сакратарамі ЦК партыі. Гэтых гасцей прынімалі ўжо ў гасцінай і сталовай з багата застаўленым бутэлькамі і закуссю сталом. Янка спатыкаў адных са стрыманай радасцю, другіх — проста ветліва, ласкава — гэта адносілася большай часткай да маладых пісьменнікаў, іншых — суха. Тады ён напамінаў мне майго бацьку: сустрэўшыся з чалавекам, якога ён не паважаў і не любіў, на панібрацкі «добры дзень» апошняга бацька, нядбайна кіўнуўшы галавой, упаўголасу мармытаў — «як сабе хочаш!».

Калі за сталом сабіралася кампанія, якая не цікавіла Янку, дык, выпіўшы для прыліку чарку-другую, ён, нават не перапрасіўшы гасцей, падымаўся ад стала, ішоў у сваю спальню

і завальваўся на ложак. Спаў ён ці толькі прыкідваўся, але, як ні тармашыла яго Уладка, не падымаўся, пакуль не разыходзіліся госці.

Янка заўсёды быў праўдамоўны, шчыры ў выказванні сваіх думак. Не раз горкую праўду бязбоязна, проста ў вочы кідаў высокапастаўленым асобам.

Тыдні праз два я знайшла сабе прытулак у адных гаспадароў на тэй самай Правіянцкай вуліцы непадалёк ад Купалаў. Але і тады ніводзін вечар не абыходзіўся без мяне ў іх сям'і. Я была яшчэ вясёлая, умела пазабавіць гасцей, прачытаць верш, паспяваць і прытупнуць. Калі часам мяне не было ў іх доме, дык пасылалі знаёмага рамізніка па ўсім горадзе шукаць мяне.

Часта Купала прасіў мяне прачытаць яго вершы. А чытала я не так манатонна і распеўна, з ненатуральнай акцэнтацыяй, як і да гэтага часу чытае большасць паэтаў. Я чытала, укладаючы ўсю душу, перадаючы больш душы і горкі сарказм верша «Смейся!», «Цару неба і зямлі» альбо бадзёры, радасны покліч — «З Новым годам!», «Арлянятам». Янка сядзеў, прыкрыўшы рукой твар, слухаў... А калі я канчала чытаць, ён, узрушаны, не адразу мог уключыцца ў агульную гутарку. Аднак з часам яго густ да мастацкага чытання чамусьці змяніўся. Праз 15 год, больш дакладна — у 1940 г., ён таксама папрасіў мяне прачытаць яго верш. І толькі я пачала, як на другой страфе ён абарваў мяне:

— А, не так ты чытаеш! Дай я сам прачытаю. — І пачаў чытаць нараспеў, манатонна, павышаючы голас на кожным трэцім радку ў страфе, як звычайна няўмела чытаюць дзеці. За такое чытанне я ў школе сваім вучням і тройкі шкадавала ставіць. Няўжо ён сам не чуе фальш, ненатуральнасць інтанацыі? Ён жа так любіць музыку — і не чуе свайго фальшывага голасу. Паддаўся новай модзе чытання сваіх вершаў выдатнымі паэтамі ў Маскве.

Частымі гасцямі ў Янкі былі Цішка Гартны, наркам асветы Баліцкі, Міхась Чарот, Чарнышэвіч, Зарэцкі, Ігнат Шыпіла і шмат, шмат іншых, якіх цяпер і цяжка ўспомніць. Літаратурная моладзь не так часта тут бывала. Частка з іх, такія як Ул. Дубоўка, Міхась Чарот, Андрэй Александровіч, трымала сябе незалежна, упэўнена, нават часам дзёрзка, высмейвала напрамкі і метады літаратурнай спадчыны, нават самога Купалу і Коласа, не кажучы ўжо пра старэйшых пісьменнікаў і паэтаў. Іншыя, такія як Кузьма Чорны, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Зарэцкі, паводзілі сябе вельмі сціпла, уважна прыслухоўваючыся да поглядаў і парадаў Янкі, які праглядаў і выпраўляў іх першыя творы.

У 1925–1927 гг. сярод беларускіх культурнікаў быў звычай наладжваць так званыя суботнікі па чарзе ў кожным доме: у Купалаў, Лёсікаў, Некрашэвічаў, Грамыкаў і інш. Гэта былі звычайныя прыёмы без асаблівага зместу, апрача таго, што мог змясціць багата і смачна абстаўлены стол. Жонкі, тупаючы ад кухні да стала, памагалі гаспадыні і пры гэтым вялі гутаркі аб новых модах, крытычна аглядалі новыя сукенкі і туфлі адна аднэй, насмяхаліся з кагосьці, у каго на стале не хапала сурвэтак або талеркі былі featured рознага фасону. Мне было сумна слухаць такія гутаркі, адчувала сябе несамавіта ў іх кампаніі, і я выходзіла ў другі пакой, дзе гаманілі мужчыны. Там было цікавей. Там гаварылі аб выдавецкіх справах, літаратурных. Аднак часта мяне выправаджвалі адтуль: «Ідзі ты да жанчын, чаго табе тут стаяць, тут жа мужчыны, а ты як-ніяк жанчына». Часам, пакрыўджаная, я выходзіла, а часам наперакор садзілася воддаль і, нібы праглядаючы кнігі ці часопісы, прыслухоўвалася да іх гутарак.

У першыя дні майго прыезду з Латвіі мяне ўражала нейкае буржуазна-мяшчанскае, нават гандлярскае перараджэнне тых, якіх я раней ведала як самаадданых, безынтэрасоўных грамадскіх дзеячаў, якія не толькі не думалі аб сваёй карысці, выгадзе, але апошнія свае капейкі аддавалі на агульнаграмадскую справу. А цяпер?..

— Э-гэ-э! У цябе, брат, новая люстра? — дзівіцца Лёсік. — Колькі ж ты заплаціў за яе?

— А што? Спадабалася? — адказвае гаспадар. — Пяцьсот уляпіў.

— Ну, пачакай жа! У наступную суботу прыходзьце да мяне. У мяне яшчэ лепшая будзе!

Іншым разам зайшла гутарка аб розных курсах, тэхнікумах, інстытутах, дзе патрабаваліся выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры.

— Уявіце сабе, — кажа той самы Язэп Лёсік, — мне прапануюць аплату толькі па рублю за гадзіну. Якая нахабнасць! Не-е-е, няма дурняў трапаць свой язык за такі бясцэнак. Менш як па 5 рублёў не згаджуся.

І гэта той Лёсік, які ў 1917 годзе спаў у рэдакцыі на стале, падаслаўшы пад бок і пад галаву газеты, прыкрываючыся старэнькім палітоцікам, і не жаліўся на невыгоды.

А то раз наркам асветы Баліцкі прапануе Купалу перакласці на беларускую мову «Вірынею» Сейфулінай.

— А які ж вы ганарар дасце мне за гэта? — пытае Янка. — Менш як 500 рублёў я не вазьму.

Баліцкі не мог такія грошы плаціць. Пачаўся торг. Я са здзіўленнем слухала. Яшчэ ж, здаецца, так нядаўна ніколі не было гутаркі аб ганарары. Задавольваліся толькі тым, што верш, апавяданне ці які артыкул паявіцца на старонках «Нашай Нівы» або выйдзе ў свет зборнічак. Ці многа меў Янка ганарару ад сваёй «Жалейкі» ці «Шляхам жыцця»? І я не ўцерпела і ўткнула свае тры грошы ў іх спрэчку:

— «Не дае гуслярам сказу золата цвет...».

— А ты не лезь не ў свае справы! — агрызнуўся на мяне Янка. — Прайшлі тыя часы, калі мы і капейкі не атрымлівалі за свае творы. Цяпер, братка ты мой, нэп. Гані манету!

Нарэшце жанчыны запрашаюць да стала. Разліўное мора водак, розных він, адмысловых закусак. Жарты, смех, анекдоты...

Насміхаюцца над Міхасём Грамыкам. У яго вершы «Суніцы» ёсць такія радкі:

…І сонцам ужо перагрэта —
Колькі тут дум і натхнення паэту!

Андрэй Александровіч смакуе такое словазлучэнне і паўтарае яго бясконца.

А Уладка расказвае, як дзеці ў прытулку, дзе яна працавала, спяваючы песеньку на словы Якуба Коласа, пры адных словах гэтай песні неяк з усмешкай пераглядаюцца паміж сабой і з асаблівым жарам пяюць. Яна пачала назіраць і прыслухоўвацца, каб разгадаць такія незвычайныя паводзіны дзяцей. Урэшце зразумела:

Уцякай, мароз сярдзіты,
Годзе нас ужо пужаць…

Дзеці па-свойму зразумелі сэнс апошняга радка.

Цяпер пачалі ўжо дражніць Якуба Коласа. Пасля гэтага Колас змяніў словазлучэнне гэтага радка ў вершы.

Успаміны Паўліны Мядзёлкі можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72, каля станцыі метро «Акадэмія навук»).

# Вокны Адама Мальдзіса, увекавечаныя ў «Чорным замку Альшанскім»



**Пісьменнік Уладзімір Караткевіч і літаратуразнаўца Адам Мальдзіс былі вялікія сябры, а яшчэ суседзі: жылі ў адным двары з 1967-га па 1971-ы — Караткевіч па вуліцы Веры Харужай, 48, Мальдзіс —па Чарвякова, 18.**

— Ці засталося ў Вас нешта, звязанае з Караткевічам?

— Нічога, зусім! Калі ствараўся музей Караткевіча ў Оршы, я чым мог памагаў. Кнігі з аўтографамі, рэчы — усё перадаў туды. Я разумеў, што такое музей, і хацеў яму дапамагчы.

Але Караткевіча ў Мальдзісавай кватэры памятаюць вокны, а яшчэ палічка для абутку.

### Акно

— Пакуль не было тэлефона, мы звязваліся так. Я выстаўляў лямпу ў акно, якое выходзіць у двор. Гэта значыла: «Ты патрэбны». Такая была ў нас сігналізацыя. Караткевіч мог бачыць яе з акна кухні. Пабачыўшы, прыходзіў.

Але так было год-два, а потым у Караткевіча з'явіўся тэлефон. Ён умеў зачароўваць, асабліва жанчын, папрасіў тэлефон — і яму тут жа паставілі, — смяецца Мальдзіс.

### Палічка

— Раніцай Валодзя прыйшоў да нас і ўсеўся на доўгую скрыню для абутку — яна і цяпер стаіць на ўваходзе. Сеў і пачаў гаварыць: «Ой, ведаеш што, Адаме, я, відаць, жанюся».

А мая жонка з кухні дабаўляе: «Наўрад ці».

«А я ж запрасіў ужо яе на вяселле... Рагойшы ў Ракаве».

Мая нябожчыца-жонка кажа: «Нарэшце, і цябе жанчыны ахуталі, злавілі».

На вяселлі ў Ракаве першым сватам быў дырэктар мясцовай школы, а другім — Караткевіч. Былі запрошаны многія літаратары. Насупраць нас сядзеў Мікола Прашковіч (літаратуразнавец), ён трошкі рэзка бараніў нацыянальныя інтарэсы. І вось ён кажа: «Валя, ты што, думаеш, Валодзя з табой ажэніцца? Ты ж па-беларуску не можаш гаварыць».

Яна расплакалася! Гэта ж было пасля чаркі тым больш. Мая нябожчыца-жонка напала на Прашковіча: «Мікола, як табе не сорамна! Жанчыну даводзіць да плачу». А Валянціна на Караткевіча: «Валодзя, паехалі назад у Мінск». І яны паехалі! Мы махнулі рукой: яна ўжо ім кіруе!

А праз пару месяцаў яны ажаніліся. Валянціна была добрая гаспадыня і разумная жанчына. Скончыла гісторыка-філасофскі факультэт, выйшла замуж, апынулася ў Маскве... Калі сустрэла Караткевіча, выкладала ў Брэсце і прывяла студэнтаў на сустрэчу з пісьменнікам.

— Ці раўнавала жонка да прыхільніц?

— Яна не раўнавала, а смяялася. Я ніводнай раўнівай сцэны не памятаю, хоць былі моманты, калі можна было, можа быць, і раўнаваць. Ён кампліменты правіць мог... Але ён лічыў, што гэта проза жыцця: калі чалавек выказвае да некага сімпатыю — гэта не значыць, што ён здраджвае. Яны дружна ездзілі, у іх былі супольныя сябры за мяжой. Караткевіча нарэшце сталі выпускаць: раней баяліся, што ўцячэ, а цяпер можна, раз жанаты...

Караткевіч жыў з маці. Але маці з яго жонкай знайшлі супольную мову. Адна адной сімпатызавалі. А можа, маці проста была рада, што нарэшце сыну знайшлася апякунка.

Калі Валодзя жыў адзін з маці, як пачынаўся дзень? Усе калегі ведалі, што ён працуе дома. Дык што ім, у рэстаран ісці — не, усе ішлі да Валодзі выпіць чарку. Рабочы дзень сарваны. Маці перажывае, як іх усіх адвадзіць.

Калі Караткевіч ажаніўся, то тыя, хто не быў на вяселлі, прыходзілі потым віншаваць. І не столькі віншаваць, колькі выпіць. Часам Караткевіч іх частаваў, а часам Валянціна Браніславаўна казала: «Слухайце, дык яму ж пісаць

трэба!» — і адбівала яго ад гэтых сяброў.

### І зноў акно

— Раніцай у нядзелю я сядаў за пішучую машынку і працаваў. А насупраць быў Старажоўскі рынак. Я сам на гэты рынак хадзіў зрэдку,

**Пакуль не было тэлефона, мы звязваліся так: я выстаўляў лямпу ў акно. Караткевіч мог бачыць яе з акна сваёй кухні**

болей жонка. Але мы з Валодзем часам выходзілі проста паглядзець, з чым людзі туды прыязджаюць. Прадавалі прадукты, а таксама жывёлаў: коней, кароў, парсючкоў. А яшчэ прадавалі птушак, якія добра спяваюць: шпакоў, сініц. Караткевіч купляў — і тут жа выпускаў. А прадавец стаіць, рот раскрыўшы...

Калі чалавек уязджаў на рынак на фурманцы, за яе трэба было плаціць. То сяляне пакідалі фурманкі пад вокнамі нашага дома: хтосьці заставаўся сцерагчы, а хтосьці ішоў прадаваць.

І вось гляджу: за акном у мяне п'юць, і п'юць з рыльца. Я бяру ў буфеце чарку-стаграмоўку,

Раніцай мяне разбудзіў залівісты крык пеўня, а пасля адчайнадушнае, надрывістае кувіканне парасяці: відаць, неслі ў мяху.
— Не хачу-у! Пусці-і-це! Пусці-іце!
Як на вёсцы. І кожную нядзелю мне вось так прыемна. І гэта адна з прычын, чаму я люблю сваю хату.
Немагчыма ўседзець на месцы кожную нядзелю, калі цераз тракт ад майго дома адкрываецца рынак худобы: коні, каровы, свінні, залатыя рыбкі, авечкі, галубы, трусы, лясное звяр'ё, птушкі, сабакі і ўсё жывое.
Да таго як агарадзілі квартал — дзядзькі з вазамі стаялі сабе на тратуарах, а здаравушчыя мацёры, адваліўшы саскі, ляжалі, мілыя, на газоне.
Аднойчы мой сябар Алесь Гудас (а ён жыве на першым паверсе) у нядзелю сядзеў за пісьмовым сталом, а проста пад акном яго кабінета спыніўся воз. Дзядзькі нешта прадалі і вырашылі замачыць куплю-продаж. З рыльца. Убачылі яго і пачалі круціць пальцамі каля лоба. І сапраўды, дурань нямочаны: людзі весяліцца збіраюцца, нядзеля, а ён працуе. Алесь пакруціў пальцам у адказ, прынёс і падаў ім у акно шклянку.
Тады яны першую налілі яму. Жонка пасля ледзь з глузду не з'ехала: адкуль выпіўшы? У хатніх туфлях не выходзіў, у хаце ані кроплі спіртнога, а ён глядзіць і не дужа разумна ўсміхаецца.

*Уладзімір Караткевіч «Чорны замак Альшанскі»*

передаю праз акно гэтым людзям, яны пра нешта раяцца, і я бачу, што яны гэту стаграмоўку падаюць мне поўную. Я на іх вачах выпіў і іду на кухню ўжо снедаць. Ну а жонкі ж, яны ведаюць, калі чалавек вып'е. «Адкуль? У доме ж нічога не было!» Ну і я расказваю ёй... Не верыць! «Ай, ты выдумваеш, у цябе недзе НЗ — непарушны запас!»

Потым у абед ці то вечарам прыходзіць Валодзя. Мая жонка яму: «Адам ужо пачынае фантазіраваць, нездарма ж ён філфак канчаў», — і расказала.

«Праўда, так і было? О, наступны раз я са сваёй чаркай прыйду да цябе».

Але ў наступную нядзелю ў мяне пад акном ніхто не спыніўся. Караткевіч кажа: «Ну, тады стаў мне сам чарку, калі ты прыдумаў гэту легенду». — «Прыдумаў не прыдумаў, але не кожны ж дзень будуць піць пад вокнамі!»

Дзякуючы Караткевічу гэтая гісторыя стала літаратурай. ◆

**Запісала Паўліна Скурко**




На Караткевічава вяселле **Мальдзіс (у цэнтры)** прывёз з камандзіроўкі ва Украіну вялікі торт. На фота: каля ЗАГСа, дзе Караткевічы бралі шлюб. Цяпер у памяшканні таго ЗАГСа на Веры Харужай, 42, побач з лазняй, сэрвісны цэнтр, рамонт камп'ютараў. ЗАГСы ў савецкі час выглядалі даволі будзённа. Вечна вясёлага **Караткевіча (справа)** гэта не расстройвала.

# Як абараніць свой замак ад ворагаў?

**XVII стагоддзе… Гэта час працяглых і крывавых войнаў, якія прынеслі бяду ўсім народам Вялікага Княства Літоўскага. Але гэта яшчэ і рамантычная эпоха крылатых гусараў, росквіту магнатэрыі і велічы сармацкай культуры. Развівалася мастацтва, будаваліся прыгожыя і магутныя замкі, узводзіліся велічныя храмы.**

А цяпер уяві, што ты — той самы магнат. Вяльможа, які займае высокую пасаду, валодае сотнямі валок зямлі, фальваркамі, вёскамі, гарадамі... І ты не звычайны магнат, а тытулаваны! Скажам, граф. Але ці зможаш ты абараніць фамільнае гняздо ў гэты няпросты час? Выпрабуй свой лёс у гульні, якую стварыў гісторык **Павел Булаты**, спецыяліст па гісторыі Ляхавіцкага замка. Гэты замак, адзін з нямногіх, выстаяў у час страшнай вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гадоў.

Гуляць можна ў кампаніі, а можна і аднаму (ды не аднойчы!). Толькі абавязкова патрэбен **кубік** (або нешта, што яго замяніць). Кідай кубік на кожным кроку, і калі выпадае **1 або 2** — рабі дзеянне пад літарай **А**. Выпадае **3 або 4** — дзеянне пад літарай **Б**. **5 ці 6** — дзеянне пад літарай **В**. За кожнае дзеянне дадаюцца або адымаюцца балы, а ў вымярэнні XVII стагоддзя — гэта сілы і рэсурсы. У канцы, склаўшы балы, ты зразумееш: ці быў лёс літасцівы і табе ўдалося захаваць сваю крэпасць, ці ўдача на гэты раз ад цябе адвярнулася.

## КРОК 1

**Табе ўсміхнулася фартуна, і ты завалодаў буйным і прыбытковым маёнткам, дзе маеш намер зрабіць радавую рэзідэнцыю. Кідай кубік — і лёс падкажа, як дзейнічаць.**

**а)** Пабудую сядзібу з прыгожым ганкам на калонах, пяццю пакоямі, флігелем і ўязной алеяй, абсаджанай ліпкамі… Завяду садок і агарод з капустаю і абавязкова пастаўлю бровар.

**б)** Калі будаваць, то толькі замак, толькі моцныя муры! Хіба ж я не ваявода віленскі?! Дый і сусед небяспечны пад бокам, крый божа, наезд учыніць! Дзе тады хавацца, дзе паратунку шукаць?!

**в)** Будавацца? Вы што, з глузду з'ехалі?! Талер падае, срэбра не стае, сяляне да суседзяў уцякаюць... Лепш я ў сваім фальварку ў пушчы жыць буду, там добра і ціха.

### Вынікі

Варыянт **«А»** — **0 балаў**. На жаль, сядзіба з агародзікам не для гэтага часу. Не ў тую эпоху жывём, каб спакойна вырошчваць капусту і варыць піва. Ну але, прынамсі, пару даваенных гадоў правядзеш у спакоі і ціхіх радасцях. А там, глядзіш, нейкі іншы варыянт падвернецца.

Варыянт **«Б»** — **+1 бал**. Што за магнат без замка і велічнай рэзідэнцыі, якая падкрэслівае моц і ўплыў? Ёсць у такім варыянце і практычная выгада: моцны замак дапамагае абараніцца не толькі ад ворагаў, але і ад суседзяў, як дапамог гетману Яну Каралю Хадкевічу. У 1576 годзе яго бацька, ваявода віленскі граф Ян Геранім Хадкевіч, завалодаў буйным ляхавіцкім маёнткам і стварыў там радавую рэзідэнцыю. Пасля смерці графа яго сын Ян Караль узвёў новы замак, бо побач былі неспакойныя Радзівілы.

Варыянт **«В»** — **–1 бал**, нешчаслівы выбар. Толькі ты разбудуеш як след свой фальварак, разгорнеш гаспадарку — вайна. Страціш усё, як толькі тут спыніцца на пастой першы-лепшы атрад.



SHUTTERSTOCK.COM, MILITARIST

## КРОК 2

**Пачынаем будаўніцтва і выбіраем праект. Кідай кубік!**

**а)** Зямля цяпер дарагая, месца ў мяне не шмат, трэба будаваць кампактна. Узводзім адну вялікую магутную вежу. Данжон высокі, каб Навагрудак бачыць. І байніцы па коле.

**б)** Будзем будаваць, як дзяды будавалі! Узвяду моцныя сцены, па кутах пастаўлю вялікія мураваныя вежы… Як у Лідзе і Крэве. Стагоддзямі стаяць, і нічога, трымаюцца!

**в)** Чуў, што ў Еўропе будуюцца новыя фартэцыі, з вялікімі землянымі бастыёнамі. І ў нас такія пачалі будаваць, бачыў у Біржах і Слуцку. Трэба і мне нешта падобнае, буду чалавекам перадавым!

### Вынікі

Варыянт **«А»** — **0 балаў**. Вежа-данжон — прыгожа, але наўрад ці цябе ўратуе.
Варыянт **«Б»** — **–1 бал**. У XVII стагоддзі артылерыя была развітая настолькі, што старыя замкі са сценамі і высокімі вежамі пад агнём з гармат крышыліся ўшчэнт.
Варыянт **«В»** — **+1 бал**. У XVII стагоддзі на землі ВКЛ прыходзіць фартыфікацыя новага кшталту — бастыённая. Па перыметры замка насыпаюцца высокія земляныя валы, якія ў кутах пераходзяць у вялікія бастыёны ў форме трапецыі. На валах і бастыёнах узводзяцца брустверы (насыпы) з байніцамі для гармат і стралкоў. Сам замак атачае вялікі роў. Менавіта па бастыённай сістэме ў пачатку XVII стагоддзя гетман Хадкевіч пабудаваў Ляхавіцкую фартэцыю, а пад аховай валоў узвёў велічны палац.



**Будаўніцтва замка — справа нятанная.** У 1618 годзе на будаўніцтва фартэцыі Ян Караль Хадкевіч выдаткаваў 30 тысяч злотых! Мастацкая рэканструкцыя Ляхавіцкай фартэцыі Сяргея Чарановіча.

## КРОК 3

**Узвялі магутную фартэцыю, трэба начыняць яе арсеналы зброяй. Кідай кубік, выпрабуй лёс.**

**а)** Вой, не. Усе грошы пайшлі на будоўлю, яшчэ з архітэктарам не разлічыўся… Суседзі пазыкі не аддалі, а тут на сойм у Горадню трэба ехаць, зноў выдаткі. А як што, дзяржава зброяй дапаможа!

**б)** Тут трэба падумаць. Што мне тут можа пагражаць, бо дзе я, а дзе мяжа? Цяжкая зброя патрэбная там, дзе ворагі блізка. Набуду дзіды, ручных стрэльбаў, самапалаў годных, пораху… А ад ліхадзеяў і шляхцюкоў няўрымслівых сцены ўратуюць!

**в)** Абавязкова! Хапіла срэбра на будаўніцтва — хопіць і на зброю. Прывязу сюды свае гарматы, адалью на людвісарнях новыя, ну і ручной зброі і даспехаў трэба больш назапасіць. Не прападуць!

### Вынікі

Варыянт **«А»** — **–1 бал**. Новы і прыгожы замак можа стаць прыемным падарункам для ворагаў, якія без асаблівых высілкаў залезуць на валы і засядуць у палацы, спустошыўшы вінны склеп.
Варыянт **«Б»** — **0 балаў**. Ад наезду шляхты самапалы, канечне, уратуюць, але не больш.
Варыянт **«В»** — **+1 бал**. Для вялікай абароны трэба моцная зброя. Інвентар зброі Ляхавіцкай фартэцыі, складзены ў 1658 годзе, паведамляе нам, што на ўзбраенні замка была 31 гармата. Апроч таго, у арсенале фартэцыі захоўвалася іншае ўзбраенне: 2 невялікія гарматы-шмыгаўніцы, 51 гакаўніца, звычайныя мушкеты і мушкеты-кабылы, стрэльбы-янычаркі, больш за тры тысячы ядраў рознага калібру, мушкетныя кулі, шрот… У цэйхгаўзе таксама змяшчаліся даспехі-«зброі» на 141 чалавека, 551 шлем-шышак, дзіды і іншае. З такім узбраеннем ніякі вораг не страшны!



**Гакаўніца.**

**Гакаўніца** — самая цяжкая ручная агнястрэльная зброя XVI–XVII стагоддзяў.
**Шмыгаўніца** — артылерыйская гармата, у якую парахавы зарад закладаўся з казённай часткі (задняй часткі артылерыйскага ствала)
**Кабыла** — цяжкі мушкет
**Янычарка** — турэцкая стрэльба

## КРОК 4

**Вайна! Маскоўская дзяржава выправілася ў чарговы паход на Вялікае Княства Літоўскае. Ужо захопленая Вільня, усходнія паветы разрабаваныя і вынішчаныя… Твая фартэцыя — адзін з апошніх ачагоў супраціву. Здабыўшы замак, вораг рушыць на Варшаву і цалкам захопіць дзяржаву. У вас моцныя муры, дастаткова цяжкай зброі, але што з людзьмі? Тэрмінова трэба наняць гарнізон.**

**а)** Паспалітае рушанне! Збяру ўсю павятовую шляхту, якая мае абавязак выходзіць на вайну. Разам і вытрымаем навалу.

**б)** Толькі найміты! Я чалавек заможны, знайду сродкі запрасіць сотню-другую прафесійных еўрапейскіх наймітаў, дасведчаных у вайсковай справе.

**в)** Народнае апалчэнне! Калі такая сур’ёзная справа, тут не да саслоўных падзелаў: збяру ўсіх сялян, гараджан, рамеснікаў, раздам ім зброю і разаб’ём ворага.

**Вынікі**

Варыянт «А» — +1 бал.
Варыянт «Б» — +1 бал.
Варыянт «В» — +1 бал.
Тут пасуе любы варыянт адказу. Бо справа сапраўды сур'ёзная і спадзявацца на кагосьці аднаго не варта. Навакольная шляхта не надта мабільная і можа доўга збірацца на вайну, найміты запатрабуюць аплаты і ў адказны момант могуць разбегчыся, а сяляне і мяшчане не самыя прафесійныя ваяры. Каб не трапіць у маскоўскі палон, трэба збіраць у гарнізон усіх магчымых ваяроў. Уласна, так і зрабілі ў 1660 годзе, калі пад сцены Ляхавіцкай фартэцыі прыйшло маскоўскае войска. Гарнізон абаронцаў пад кіраўніцтвам Станіслава Юдыцкага налічваў каля 4 тысяч чалавек: дзве харугвы венгерскай пяхоты, тры драгунскія харугвы, павятовая шляхта, мяшчане, сяляне. Маскоўскі ж ваявода Іван Хаванскі пад Ляхавічы ў сакавіку 1660-га прывёў каля 9 тысяч чалавек. А ў чэрвені маскоўскае войска павялічылася да 40 тысяч!


Карціна Юліуша Косака **«Пан Пасек пад Ляхавічамі»**, 1861 год.
AGRA-ART SPÓŁKA AKCYJNA, WARSZAWA

## КРОК 5

**Маскоўскія войскі сабраліся, абаронцы таксама напагатове. Вялікае напружанне ў паветры… Усе ў чаканні першага штурму. Пачынаецца аблога.**

**а)** Нам ніяк не вытрываць! Усім канец! Паглядзіце, колькі тых маскоўцаў сабралася, і ўсе ж на нас кінуцца! Пайду да ксяндза паспавядаюся і буду чакаць Божага суда…

**б)** Без панікі! Пільнуем ворага, завастраем шаблі і трымаем порах сухім, але без фанатызму. Ворагі не багі, абавязкова нешта бязглуздае ўчыняць!

**в)** Пільнасць і чуванне, чуванне і пільнасць! Узмацніць варту, ніхто не спускаецца з валоў. Штурм можа пачацца ў любую хвіліну!

**Вынікі**

Варыянт «А» — **–1 бал**. Панікёр ніколі не пераможа.
Варыянт «Б» — **+1 бал**. Шчаслівы выпадак! Гэтаксама адбылося і пры абароне Ляхавічаў. Познім вечарам ваявода Хаванскі падвёў свае войскі пад самыя валы. Праляжаўшы ноч у поўнай цішыні, перад самым золкам маскоўцы кінуліся на штурм з гучным крыкам: «Царев, царев город!» Крык, натуральна, разбудзіў абаронцаў, якія змаглі адбіць нечаканы штурм. З цяжкімі стратамі (10 старшых афіцэраў і дзве сотні ратнікаў) маскоўцам прыйшлося адступіць. Пачалася аблога і шчыльная блакада крэпасці, рыхтаваўся новы штурм.
Варыянт «В» — **0 балаў**. Можа, і пашанцуе, але, хутчэй за ўсё, стомленых вартай і чуваннем абаронцаў бадзёрыя маскоўцы пераб'юць як восеньскіх мух.

### Як чараўнік дапамагаў маскоўцам

У мемуарах Багуслава Казіміра Маскевіча пра абарону Ляхавічаў гаворыцца, што ў маі, калі Хаванскі рыхтаваўся да другога штурму, адзін мясцовы млынар, п'ючы з маскоўцамі, неасцярожна пахваліўся, што ён чараўнік і што «калі б я захацеў, то паказаў бы Хаванскаму такі спосаб, што ён адразу захапіў бы Ляхавічы». Маскоўцы — за яго і спешна павезлі да Хаванскага. Млынару пашанцавала. Калі яго «праверылі» на маскоўскай гармаце — загадалі «зачараваць» яе, каб яна не змагла стрэліць, — яна і сапраўды з нейкай прычыны не выстраліла.
Ад млынара запатрабавалі замовіць (гэта значыць зачараваць з дапамогай замовы) усе замкавыя ружжы і гарматы. Чараўнік паабяцаў гэта, але папрасіў для пачатку зрабіць такую драбіну на шрубах, па якой маглі б перамяшчацца 2 000 людзей — гэта, маўляў, трэба было для спаўнення замовы. У выніку справа нічым не скончылася аж да самай паразы Хаванскага.

## КРОК 6

**Пяты месяц трывае абарона фартэцыі. Маскоўскае войска папаўняецца новымі рэзервамі, адбываецца чарговы беспаспяховы штурм, які дарэшты раз'юшвае Хаванскага. Абаронцы пакутуюць ад голаду і ран, сілы пакідаюць жаўнераў.**
**Кінь кубік і ідзі ўслед за лёсам.**

**а)** Трэба сабраць усе сілы ў моцны кулак і кінуцца на маскоўцаў. Хай у апошняй бітве вырашыцца ўся справа! Бог дасць, пераможам…

**б)** Усё, баста! Хопіць гэтых пакут, надакучыла ўжо есці каніну і штодня хаваць памерлых. Ідзём здавацца на ласку цара. Можа, злітуецца і нават пад якой Калугай ці Разанню двор дасць у трыманне, дзе ўрэшце займею агарод і бровар.

**в)** Будзем чакаць! Дзе нашы гетманы? Дзе войска? Яны мусяць памятаць пра нас і прыйсці на дапамогу!



### Вынікі

Варыянт **«А»** — **–1 бал**. Хто чакае, той перамагае! Калі кінецеся ў наступ, свежыя сілы маскоўцаў без асаблівай цяжкасці паб’юць саслабелых і параненых жаўнераў.
Варыянт **«Б»** — **–1 бал**. З палоннымі ў раз’юшанага маскоўскага ваяводы размова будзе кароткай.
Варыянт **«В»** — **+1 бал**. Найбольш мудра будзе чакаць дапамогі. Тым часам на вайсковай нарадзе ў Варшаве 24–30 мая вырашылі распачаць паход на дапамогу абаронцам Ляхавіцкай фартэцыі. У паход рушылі харугвы Паўла Сапегі і Стэфана Чарнецкага, якія 24 чэрвеня аб’ядналіся ў ваколіцах Слоніма. Насустрач аб’яднанаму войску выйшла войска Хаванскага. Сустрэліся яны 28 чэрвеня 1660 года каля вёскі Палонка. Перамагло літоўска-польскае войска. У той жа дзень пераможцы рушылі да Ляхавічаў, куды ўцяклі рэшткі разбітага маскоўскага войска разам з Хаванскім, які хутка адступіў пад Полацк.
Вестка пра перамогу каралеўскага войска пад Палонкаю дасягнула абаронцаў фартэцыі. Вось цяпер можна і на ворага кінуцца! 29 чэрвеня абаронцы ўчынілі напад на рэшткі непрыяцеля. З другога боку напалі жаўнеры, якія ішлі з-пад Палонкі. Хутка Ляхавічы былі вызваленыя.

Момант вызвалення Ляхавічаў ад аблогі ў сваіх мемуарах занатаваў адзін з жаўнераў-вызваліцеляў Ян Хрызастом Пасек: «Уязджае Чарнецкі ў Ляхавічы. Насустрач яму працэсіяй выйшлі законнікі, шляхта, шляхцянкі і хто толькі быў у гэтай аблозе. “Вітаем! — крычаць яны. — Сардэчна запрашаем, ад Бога пасланы нам абаронца!” Моцна лупілі з гармат. А пасля цудоўнае набажэнства, казанні, віншаванні, хвала Богу, і паўсюль поўна радасці, перамяшанай з плачам, бо ў тую фартэцыю пазбіраліся ўсе магнаты з Княства Літоўскага…»

## КРОК 7

**Аблога скончылася, вораг адкінуты далёка на ўсход. Трэба падумаць і пра ўзнагароды для мужных абаронцаў.**

**а)** Што? Узнагароды? Хай будуць удзячныя, што іх пусцілі ў замак, а то боты Хаванскаму чысцілі б! Узнагароды ім, ну!

**б)** Думаю, чымсьці трэба аддзячыць. Дам па талеры, і хай забіраюць усё, што кінулі ворагі. Вунь, недзе каля бастыёна шабля неблагая ляжала, хай возьме хто!

**в)** Абавязкова! Пасля ўсяго, што мы вытрывалі, трэба шчыра аддзячыць ваярам. Падзялюся маёнткам і кампенсую ўсе выдаткі!

### Вынікі

Варыянт **«А»** — **–1 бал**.
Варыянт **«Б»** — **0 балаў**.
Варыянт **«В»** — **+1 бал**.
Як узнагародзіць мужных ваяроў, тут ужо справа кожнага і выбар уласнага сумлення. А пасля аблогі Ляхавіцкай фартэцыі было так. За ўдзел у абароне першым быў узнагароджаны камендант замка Станіслаў Міхал Юдыцкі. Пану Юдыцкаму ў вечнае карыстанне былі перададзеныя маёнткі Голдавічы і Дзянісаўшчына з Ляхавіцкага графства з вызваленнем іх на 30 гадоў ад усіх падаткаў. Для сябе і для жонкі ён атрымаў прывілей свабодна правозіць тавары ракою пад Коўна. Юдыцкаму таксама абяцалі вярнуць выдаткаваныя на абарону 21 400 злотых. Дакументы данеслі да нас імёны і іншых шляхціцаў, якія атрымалі ўзнагароды за ляхавіцкую абарону: ротмістр Даніла Хлявінскі, аршанскі падкаморы Хрыстаф Статкевіч, таварышы харугвы Хрыстаф Шукшт, Габрыэль Гедройц, Марцін Гедройц, Геранім Харошчы, Ян Харошчы, Хрыстаф Міхалкевіч, Хрыстаф Гедройц…

## Падлічым?

Калі ў цябе **3 балы** і больш — радуйся. Ты змог выстаяць у гэты цяжкі час, цябе запомняць як слаўнага ваяра і палкаводца, выдатнага тактыка і стратэга, які не толькі ўзвёў моцную цвярдыню, але здолеў і ўтрымаць шматмесячную аблогу! Удзячныя нашчадкі абавязкова назавуць у твой гонар вуліцу, тралейбус і гатунак сыру.

Калі набраў **2 балы** і менш — што ж, у гэты раз не ўдалося. Але не хвалюйся, твая дзяржава ўсё адно выстаіць у навале XVII стагоддзя.

**P.S.** У канцы XVII стагоддзя вялікі маршалак літоўскі Ян Караль Дольскі ў мемуарах занатаваў: «Я паехаў у Ляхавічы, у Наваградскі край, паглядзець тамтэйшую фартэцыю, слаўную аблогай маскоўскай, але і слаўнейшую мужнасцю Юдыцкага, які, маючы там камандаванне, шмат чаго ўчыніў, перш чым падышоў Чарнецкі з Сапегам, якія пад Палонкай знішчылі тое маскоўскае войска». Высокі дзяржаўны саноўнік адмыслова наведаў Ляхавічы ў памяць слаўнай аблогі 1660 года... Але калі сёння завітаеце сюды з жаданнем паглядзець на рэшткі фартэцыі і ўшанаваць яе абаронцаў, вас ветліва сустрэне вялікі камень. І шыльда на ім хлусліва паведаміць, што на гэтым месцы стаяла фартэцыя. А да яе ж яшчэ метраў 500 у паўночным кірунку! Да таго месца, дзе стаіць памятны валун, замак не мае ніякага дачынення...




**Памятны валун** у гонар Ляхавіцкай фартэцыі.

# Байструк караля Стэфана



**У XVII ст. у кнізе Валерыяна Неканда-Трэпкі «Liber chamorum...» пад нумарам 875 згадваецца нехта «Кнабоўскі, байструк караля Стэфана», які ў 1613 годзе служыў у кавалерыі Рэчы Паспалітай і разам з 12 сваімі коннікамі браў удзел у паходзе на Маскву. Пасля Кнабоўскі быццам жыў у Гродне з «маскавіткай»...**

Доўга яшчэ?..

Гродна. Нашы дні.

Глядзі, што знайшоў!

Мае продкі Кнабоўскія паходзяць са шляхты — гэта нашчадкі Баторыя!..

Так, шляхта, хадзем у ложак!






1613 год, недзе на прасторах Масковіі ідзе бязлітасная вайна.

Пан Кнабоўскі, у нас палонная...

Пакажы твар.

Бяру!



Пасля ўдалай выправы кароль Жыгімонт III Ваза вырашыў узнагародзіць найлепшых ваяроў у Гродзенскім замку.


















На жаль, гісторыя не захавала імя «маскавіткі», з якой Кнабоўскі пасля жыў у Гродне.

Але час ужо і прачынацца...






Працяг будзе...

Ідэя: Андрэй Вашкевіч. Сюжэт і малюнкі: Алесь Кіркевіч. Дызайн: Воля Новік.

# ФРАНЦЫСК

## У ТУРМЕ

*Сюжэт: Андрэй Скурко*
*Малюнак: Антаніна Пашкевіч*
















Пане доктар, вам ліст.
Гора! Брат Іван памёр у Познані. Трэба ехаць, там нейкая неразбярыха са спадчынай.


Я Францыск Скарына, брат памерлага купца Івана!
Брат? Значыць, і спадкаемца яго пазык. Па скарзе варшаўскіх купцоў Лазара і Майсея, якім Іван вінен грошы, ты затрыманы. Узяць яго!


Дайце паперу і пяро! Я буду скардзіцца каралю! Я не браў ніякай Іванавай маёмасці! У Івана ёсць сын Раман, чуеце? Знайдзіце яго!
Не паложана.


Глядзі, што пра твайго сакратара пішуць: «Прысвоіў маёмасць памерлага брата, пазык яго не вярнуў і цяпер хаваецца ў розных гарадах». Хто б мог падумаць!
Дык, можа, гэта няпраўда?
То разбярыся!Пра імідж трэба дбаць.


Гэй, вязень, выходзь! За цябе заклад унеслі!


Дзядзька Францыск!
Раман! Дзе ты быў? Я думаў, і ты загінуў!
Амаль! Трапілі ў шторм, адзін карабель патануў каля Бруге, астатнія селі на мель. Працавалі мы як праклятыя. Толькі сёння прыехаў – ні пра тату не ведаў, ні пра што...


Я, сын і спадкаемца памерлага Івана Скарыны, сведчу, што мой дзядзька Францыск ніякай яго маёмасці не браў. А з пазыкамі бацькі, пра якія пішуць купцы Лазар і Майсей, я разлічыўся.
Такім чынам, доктар Скарына можа быць вольны і чысты ад усіх абвінавачанняў. Прыносім прабачэнні за нязручнасці.


Дзякуй Богу!
Як добра дома!
А вусы табе пасуюць... Ты памятаеш, што ў нас яшчэ не скончыўся мядовы месяц?
Працяг будзе...

**У наш час з'явілася ўнікальная платформа для абмеркавання — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць расслабіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У новай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**

## Як нашы продкі называлі коней і сабак

У лістападзе ў фэйсбуку сталі абмяркоўваць мянушкі хатніх гадаванцаў мінулых стагоддзяў. «У Калігулы — Інцытат, у Аляксандра Македонскага — Буцэфал. А як звалі нашых коней?» — задаўся пытаннем архівіст **Дзяніс Лісейчыкаў**. І адказаў. «Стайня пінска-тураўскага ўніяцкага епіскапа Андрэя Квасніскага-Злотага. 1661 год. Жарабец Скочак. Маладая гнядая кабыла Каза. Кабыла Княгіня. Пара коней — Сагайдачны і Мужык, — цытуе ён дакумент XVII стагоддзя і іранізуе: — Нікуды нам ад гэтага Мужыка не падзецца. Ні ў 1863-м годзе, ні ў 1905-м, ні вось у 1661-м». Конь Сагайдачны быў для палявання, а Мужык — для чорнай работы, мяркуе Лісейчыкаў.

Але чаму ва ўніяцкага епіскапа конь меў мянушку, якая супадала з прозвішчам запарожскага гетмана? Паходжанне мянушкі можа быць і больш празаічнае: ад слова «сагайдак» — набор узбраення коннага лучніка, піша **Максім Лепушэнка**.

Гродзенскі гісторык **Андрэй Вашкевіч** тут жа распавёў, як звалі коней Стэфана Баторыя: Івашка і Балаго, Войда і Турман, Баторы, Грэоры, Тарагаш і Кенды. А яшчэ Падскарбі, Пукфрэс, Шыгер, Абозны... Усяго кароль меў 31 каня. Машталеры караля трымалі ў стайнях яшчэ 90 коней для сябе і нават пару вярблюдаў.

**Іна Калечыц**, даследчыца надпісаў на сценах полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, адзначыла, што сярод сярэднявечных графіці таксама сустрэла конскую мянушку — Гнядок. А таксама партрэцікі хатніх гадаванцаў: двух конікаў, трох коцікаў, паўліна, качкі...

Сталі ўзгадваць мянушкі іншых жывёл. У сябра Цэнтральнага камітэта Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Яхіма Красоўскага ў 1928 годзе сабака зваўся Рабчык, успомніў **Кастусь Шыталь**. Раней у сваім фэйсбуку ён звярнуў увагу пра тое, як называлі кароў за польскім часам на Дзісеншчыне: Бандура, Маёля, Цаца, Цытрына, Гарда, Фартуна, Красуля, Марыля, Чубатка, Маліна, Альдона...

«Мая бабуля ўсіх сваіх кароў пры маёй памяці звала "Рабая"», — каментуе **Мечыслаў Ян Супрон** з Гродна. «У нас была Балерына — кругленькая, многа малака давала. І Дрында была», — расказвае **Воля Качалка** з Ліды.

Каментатары сталі дзяліцца, як у каго звалі кароў: Вішня, Галанка, Зорка, Сойка, Цыганка, Рабка, Лыска, Лысуха, Красуля, Малінка, Лыска, Белка, Кветка, Малюта, Мальва, Рагуля, Кукла. «А ў маёй бабулі была Понка. Таму што ў нашым дзяцінстве былі вельмі папулярныя дыснэеўскія качкі, там была і Поначка», — піша **Марыя Чарняўская**.

*А як зваліся каты, сабакі, каровы, свінні, козы ў вашай вёсцы, вы памятаеце?*

## «Іду ў ЦК б...дзь прабіваць»

«Калегі ўзгадвалі, што Аркадзь Іосіфавіч Жураўскі, дырэктар Інстытута мовазнаўства ў 1983—1989 гадах, прыйшоў у аддзел гісторыі беларускай мовы (АН БССР) і паведаміў супрацоўнікам: "Іду ў ЦК б...дзь прабіваць". Супрацоўнікі не паверылі таму, што пачулі, моўчкі ўтаропіліся ў свае паперы. А яму хацелася падзяліцца набалелым, бо гэта ж няпростая рэч — дабіцца, каб натуральнае для старабеларускай мовы слова ўвайшло ў слоўнік. Магчыма, у архівах недзе ляжыць зварот з просьбай унесці гэтае слоўца ў слоўнік», — падзялілася ў фэйсбуку філолаг **Ларыса Гедзімін**.

І дырэктар такі змог! Глядзі: «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», выпуск 2, 1983 год, с. 73.

Для маладога пакалення трэба патлумачыць, што ЦК — Цэнтральны камітэт Кампартыі — быў у савецкі час аналагам цяперашняй Адміністрацыі прэзідэнта і вырашаў усе важныя пытанні, як эканамічныя, так і ідэалагічныя.

## Знайшлі пячатку Андрэя Полацкага

Яе паказалі ў сваім інстаграме пскоўскія археолагі. Віслую свінцовую пячатку знайшлі ў ходзе раскопак Валаамскай вежы ў Пскове. На адным баку пячаткі — выява вершніка, на другім — надпіс «Пячаць князя Андрэя Альгердавіча».

Князь Андрэй — старэйшы сын Альгерда, брат Ягайлы — з 1342 года быў князем полацкім і адначасова кіраваў Псковам. Пасля смерці Альгерда не быў дапушчаны ў Вільню: мачаха, другая жонка Альгерда Ульяна Цвярская, спадзявалася, што трон пяройдзе яе дзецям. Андрэй надалей кіраваў у Полацку і Пскове і загінуў у бітве з татарамі на рацэ Ворскле ў 1399 годзе. На той момант яму было больш як 70 гадоў. Для тых часоў гэта быў зусім стары чалавек.






## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Правільная кніга» (вул. Куйбышава, 13, каля рынку)

«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

# Падпішыцеся самі, падпішыце родную школу

## Падпісны індэкс 00469



НАЦЫЯНАЛЬНЫ
ПОЛАЦКІ
МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК

**POLOTSK.MUSEUM.BY**
Тэл./факс + 375 (214) 42 53 40

# МУЗЕІ ПОЛАЦКА ЗАПРАШАЮЦЬ!

**Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік** — гэта 11 музейных экспазіцый, унікальная гістарычная тэрыторыя найстаражытнейшага ў краіне горада, археалагічныя, архітэктурныя і гістарычныя помнікі, якія з'яўляюцца гісторыка-культурнай спадчынай нацыі.

У структуры музея-запаведніка асабліва вылучаецца **Мастацкая галерэя**, дзе можна ўбачыць:
– эцюдны варыянт партрэта Адама Міцкевіча пэндзля знакамітага Івана Хруцкага, выяўлены праз стагоддзе пасля стварэння,
– унікальны стэатытавы абраз «Кастусь і Алена» візантыйскіх майстроў XII стагоддзя,
– першы навуковы дакумент архітэктурнага рашэння Спаскага храма XII стагоддзя ў Полацку, захаваны ў келлі святой Еўфрасінні,
– уніяцкія абразы XVIII стагоддзя з іканастаса Сафійскага сабора ў Полацку
і шмат іншага.






Пазнаёмцеся з унікальнай рэстаўрацыйнай методыкай па расслаенні насценнага малярства, калекцыяй іканапісу Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў, з развіццём выяўленчага мастацтва Беларусі XX стагоддзя. Наведайце гравёрную майстэрню з друкарскім станком часоў Скарыны і станьце ўладальнікам копіі гравюры з яго кнігі.

**polotsk.museum.by**

## Адкрыць для сябе свет мастацтва і творчасці

УНП 300084597, НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧАЯ І АСВЕТНАЯ ЎСТАНОВА КУЛЬТУРЫ «НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПОЛАЦКІ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК»